Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!

3 САКАВІК

# БЕЛАРУСЬ КАЛГАСНАЯ

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАЯ ЧАСОПІСЬ

АБ'ЯДНАНЬНЯ ПРАЛЕТАРСКА-КАЛГАСНЫХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ

ГОД ВЫДАНЬНЯ ПЕРШЫ

МЕНСК 1932



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ

Макар Паслядовіч

# Хада ў заўтрае

1

Усе вагоны былі перапоўнены людзьмі. Хто з партфэлем, хто з кошыкам, хто са скруткамі шпалераў — прашыліся сюды адразу, як абвясьцілі пасадку. Потым загрукацелі скрынкамі, струмантам у мяшкох: гэблікамі, шархублямі, вінтублямі стальмахі. З торбамі ежы, прывязанымі да тапарышчаў, прашыліся, тоўхаючы няшчадна пасажыраў, цесьляры. Яны доўга тузаліся са сваімі цяжкімі, няёмкімі ў такой цеснаце пакункамі. Яны доўга перакліκаліся абрывістымі дзельнымі галасамі па розных засеках вагону, грымелі начыньнем пад лаўкаю, на верхніх полках. Прыпарадкаваўшы паклажу, яны, стомленыя сьпешкаю і апаскаю, каб не астацца ад цягніка, гучна саплі і клопатна аглядвалі месца, дзе можна было-б прыткнуцца сесьці самім. Але месцы былі заняты тымі, хто аказаўся больш здагадлівым і рынуўся да вагонаў першым.

— Чаму-б не падчапіць яшчэ якіх два вагоны? — ні то наракала, ні то дзівілася з недагадлівасьці чыгуначнікаў старая, у засмальцаваным кажушку, вяртлявая жанчына. Яна спагадліва глянула ў вочы нізенькаму стальмаху, які яшчэ не прыпарадкаваў свае торбы з сякераю, і ткнула рукою ў цёмны кут пад палком:

— Сюды кладзіце свой пакунак. Лягчэй стаяць вам будзе.

Стальмах быў ужо гатоў паткнуцца выканаць параду, як нехта на пэроне закрычаў тлумнаю сьпешкаю:

— Сьцяпан! Сьцяпан! Хутчэй вылазь... Адзін вагон ад заду як зусім ня пусты.

Нізенькі стальмах вёртка крутнуўся да выхаду і ў сьпешцы ледзь не ссадзіў з ног кандуктара, які прашываўся з ліхтаром па цесным праходзе.

— Мусіць, не на свой цягнік трапіў,—пачаў, папраўляючы сьвечку ў ліхтары, службісты. — Сёньня ўжо другі выпадак. Перад гэтым муж сеў на адзін цягнік, а жонка, ня згледзеўшы, прымасьцілася ў вагоне другога. Адзін паехаў на Маскву, а другая ўжо саскочыла, калі цягнік крануўся на Койданава...

Стальмахі, цесьляры і вяртлявая жанчына гучна зарагаталі. З дзьвярэй другога аддзяленьня выткнулася колькі галоў і кандуктар яшчэ раз прагаварыў:

— Муж паехаў на Маскву, а жонка на Койданава...

— А мо яны другім разам у Загс заходзілі? — спытаў Колер і ўхмыльнуўся ад здагадлівага гулу людзей.

— Хто іх ведае,—абыякава сказаў кандуктар і рушыў у нутро чалавечае цеснаты.

— Чаму вы больш вагонаў не падчапілі?—крыкнуў яму наўздагон высокі малады стальмах. — Та-ж хіба язда ў такой цеснаце?

Праваднік супыніўся:

— А дзе іх, вагонаў тых, адразу вымаглюеш? Што збудуецца — адразу ў ход ідзе. Але ўсёроўна не стае...

— А чаму гэта да вайны ставала? Чаму гэта тады цеснаты такое ў вагонах, на вакзалах ня было?

На яго ўзьеўся стары, у чорнай ватоўцы, стальмах. Ён толькі што падапхнуў пад лаўку мяшок з начыньнем.

— Якую трасцу ты ведаеш пра старыя часы? Ты яшчэ пешкам тады пад стол хадзіў!

Безнадзейна агледзеўшы занятыя месцы, ён прыткнуўся плячом да сярэдняга палка.

— Ці-ж столькі даўней людзей езьдзіла,—пачаў.—І ўжо да ўсіх:

— Дзе бачылі! З нашае вёскі да рэволюцыі адны толькі навабранцы сяды-тады пад'яжджалі. А калі вернецца да хаты, дык як і ўсе бабы, аж да магілы ня ступіць у вагон. Цяпер я адзін чорт ведама колькі ўжо ад'езьдзіў! А ці-ж я ў нашай вёсцы толькі адзін? Таму на работу куды — давай цягнік, той вучыцца ў горадзе — давай цягнік, другі прадаць што—цягнік падавай. Даўней, бывала, рэдка хто з начыньнем езьдзіў, а цяпер падобных на нашую будаўнічую брыгаду чорт ведама колькі бачыш. Кончаць работу ў адным месцы — на другія пруцца. А ці-ж будавалася даўней столькі ўсяго, як цяпер? Не! Дык на якое ліха мне здалося тады цёгацца па чыгунках! Даўней, бывала, па дваццаць, сорак вёрст пехатою дзёр, а цяпер і дзесяць вёрст няма калі прабегчы: цягнік давай, аўтабус! А ці-ж у нас толькі адны цягнікі, ды аўтабусы будуюцца, што ўвесь гэты вялікі рух людзей задаволіш? І другое, што яшчэ трэба рабіць! Усё—разам. Калі-ж возьмешся толькі за адно, дык другое адстане... А ён „да вайны вагонаў ставала“. Людзей менш езьдзіла—вось што ты скажы! Цяпер і таварных вагонаў не стае—такі вялікі рух грузаў: трактараў, малатарань, жняярак, бульбы, хлеба, сыравіны, вугалю, нафты, жалеза. Усё гэта патрабуе нязьмерна больш вагонаў. Лепшай, як да вайны, работы транспарту...

Бледнае сьвятло электрычнасьці пачало тумаміцца ад папяроснага дыму. У напружаным чаканьні, пакуль кранецца цягнік, прыцішалі галасы. Толькі вяртлявая жанчына шумна парадкавала, сагнуўшыся, нейкія кошыкі пад палком. Ды раз коратка зазьвінела на верхнім палку падоўжная піла, якую крануў шэрым ад гразі ботам цясьляр. А на двары, дзе па бэтонным пэроне мітусіліся людзі, непарушна глядзелі ў цемень начы яркія агні вакзалу. Тонка сьвісталі манэўравыя паравозы і недзе блізка грукацелі сваёю жалезнаю хадою.

Колер выцяг з партфэля новы нумар „Праўды“, якога ня змог праглядзець за дзень, і кінуў вачыма на шэрае палатно паперы. Але неспагадлівым было задымленае сьвятло і ледзь прыметнымі літары тэксту.

— Нічога ня ўбачыце!—зьвярнуўся да яго з другой полкі чалавек.—Толькі вочы псаваць можна.

Ён кашлянуў і пачаў прыглядацца да гадзіньніка.

— Дзевяць хвілін адзінаццатае. Праз хвіліну кранемся, а заўтра подвечар і дома будзем.

Колер узьняў галаву. Гаварыў паджылаваты з густымі касмылямі барады і вострымі вачыма чалавек. Адзеты ў жакетку з дамашняга сукна ён ляжаў на кажуху, які зьвіс калматаю крысою над галовамі пасажыраў.

— А вы самі адкуль?

Вострыя вочы скочылі на Колера.

— З Міран. Прыяжджаў у Менск выклянчыць дзе якіх дзесяць скрынак латнікаў. І—дарэмна.

— Хіба ў Менску вырабляюць цьвікі?—абазваўся з верхняе паліцы стальмах, той, што бразнуў падоўжнаю пілою.—Наша арцель канчала дзьве аборы ў адным саўгасе, дык усе ржавыя цьвікі, што вырывалі з якіх платоў і сьцен, пашлі ў ход. А то ён—на скрынкі мерае! Хіба адна абора, адзін дом будуецца? Тысячы іх! От і ў нашым раёне: два гады таму назад едзеш праз шэсьцьдзесят вёрст—адны халупкі. А цяпер вялізныя кароўнікі, сьвінарнікі, сіласныя вежы ледзь ня ў кожнай вёсцы. А новых школ колькі! І цяпер, хоць і няма шыльды, ведаеш, што тут калгас. Дзе тыя цьвікі будуць валяцца? Мы цяпер едзем у саўгас „Кастрычнік“, дык шэсьць пудоў грубага дроту цягнем на цьвікі. От як!

Вострыя вочы скочылі наверх.

— А думаеш, мы толькі на блішчастае жалеза спадзяёмся? Вунь увесь, які быў, калючы дрот пасеклі на цьвікі. Рукі скрывянілі, а работы ня спынілі!

Цягнік тузануўся з месца і павольна пачаў набіраць разгон. Паплыло назад яркае электрычнае сьвятло і вялізны будынак вакзалу. Ужо ляскочуць колы па стрэлках і цемень туліцца да шыбаў.

— Дык вы з Міран,—паўтарыў адказ чалавека з касмылямі барады Колер.—Добра. Паедзем разам.

Спадарожнік прыветна ўсьміхнуўся.

— Паедзем. Я там недалечка старшынствую ў калгасе. Сьвінства разьвіваю.

— І ладная фэрма?

— Дзьве сотні сьвінаматак трэба паставіць да канца году. Адзін сьвінарнік канчаем і на другі прызапасілі ўжо дрэва, але нястача людзей, цьвікоў.

— А што з камплектаванем стада?

— Скрабём патрошку. З паўсотні ёсьць. Мо да студзеня палова заданьня і выканана будзе. Уся бяда, што няма адкуль узяць. Усе двары перабралі і вынікі няважныя, Так па нашым раёне ўсюды. Ёсьць, праўда, асобныя сельсаветы, што хутка справяцца з гэтай работай. Але ж другія бадай ці выцягнуць. Няма сьвіней. Ня хочуць людзі прадаваць.

Ён раптам перамяніў тэму гаворкі.

— Вы мажа, аграном? Казалі, што гэтымі днямі нашаму раёну дадуць яшчэ двух аграномаў.

Колер махнуў газэтай.

— Ды не. Проста, еду дапамагчы вам гэтае сьвінства, як вы сказалі, разьвіваць. Каб у тэрмін былі збудаваны сьвінарнікі, у тэрмін укамплектаваны і ў тэрмін выканана заданьне па здачы таварнай прадукцыі дзяржаве.

Спадарожнік аж зарагатаў.

— Нічога ня выйдзе! Нават некаторыя райкомаўцы кажуць, што хоць-бы палову заданьня выканаць. Яшчэ восем сьвінарнікаў ляжыць неабчосаным дрэвам! А дзе рабочая сіла, цьвікі? Дзе пагалоўе?

Ён зноў зарагатаў з выказанае Колерам думкі.

— Ужо надыходзяць марозы, а мы толькі пачалі выбіраць бульбу. Ды й то няважна ідзе работа, бо дождж паскудзіць. Сыпле ды сыпле. І выткнуцца на поле не дае. Вось вам і „нясур'ёзнасьць“ аб'ектыўных прычын!

Ён падправіў пад сябе крысу кажуха і зьдзіўленымі вачыма ўпёрся ў Колера. Глядзеў на яго, як на чалавека, які бяз практыкі намерыўся скочыць вышэй свайго пупа.

„А можа і праўду ён кажа,—выкручвалася ў галаве Колера сумненьне. Чорт ведае, які пхнулі яму раён! От і спрабуй даказаць рэальнасьць плянаў разьвіцьця сацыялістычнай жывёлагадоўлі, калі практыкі гэтай работы, людзі, якія добра ведаюць свой раён, безнадзейна махаюць рукамі“...

Лёгкаю хадою імчаўся наперад цягнік. Няўцішна грымела жалезьзе вагону і сталь рэек.

2

Мокрая цемень сыпалася на восеньскую зямлю. Пад балагольскімі калясьмі хлюпцела гразь, рыпелі зьвільгочаныя гужы. Два пасажыры ўжо шмат дарогі ехалі моўчкі, насунуўшы на вушы шапкі і ўзьняўшы каўняры. Усё выведалі адзін ад аднаго яшчэ ў цягніку, а што яшчэ заставалася—пасьля ад'езду з шэранькае няпрыветнае станцыі, якая была перапоўнена цесьлярамі, калгасьнікамі, што ехалі ў Данбас.

Балагол сядзеў уперадку і штохвіліны цмокаў на каня губамі і тузаў непаслухмяную яго морду лейцамі.

— Вы пугаю шліганіце,—ня сьцерпеў такое маруднае тузаніны Колер.—Навошта вы пугу з сабою тады бралі?

Таўсты балагол так заварушыўся на возе, што аж затрашчэлі тонкія дошкі, прыцятыя да білаў.

— Пугаю? Вы кажаце—пугаю? Ну, і што, калі пугаю?

— Хутчэй пабяжыць,—адказаў ляным ад стомленасьці голасам Колер.—А так яшчэ паўсутак будзем ехаць да гэтых Міран.

— Чаму паўсутак? Чаму так многа? Ды ці ня міранскае сьвятло відаць?

Колер скосіў вочы ў левы бок іхняй дарогі. Насустрач яму глянулі маўклівыя вокны невялікіх дамоў. Перад вокнамі, як камары ўлетку, мітусіўся дробны пыл дажджу.

— Ну, што скажаце?—пытаў балагол.—Навошта цяпер пуга, калі мы ўжо ў мястэчку. Хіба гэта не местачковая вуліца? Дык ці лупцаваць добрага каня дратаванкай, калі ён выцягне колы з густой гразі і будзе сакатаць імі па бруку? Хоць бруку і ня многа—мэтраў дзьвесьце—але-ж ён брук і на ім менш гразі.

Колер спытаў:

— А чаму так мала вымасьцілі?

Балагол зноў крутнуўся на сваім седале.

— Добра што і гэта. Вы ведаеце, колькі тут было гразі? Вы ня ведаеце! Сьвіньні не адважваліся перайсьці! А сёлета сабраліся і замасьцілі. На той год, чуў я, будуць усю вуліцу брукаваць. І ўсю дарогу скрозь: ад станцыі аж да Зьмітровічаў. Сёлета ня справіліся. Сёлета трэба 21 сьвінарнік па раёне збудаваць, паставіць дзьве тысячы сьвінаматак! А колькі на адкорм, на гадоўлю! Дык усю сілу кінулі ўхаджацца ля гэтых сьвіней. А на сілас мала, думаеце, патрэбна? У адным калгасе Сталіна, ля якога мы ехалі, пастаўлена сілосная вежа і выцамантавана 5 вялізных ям.

Колер бачыў вежу, два кароўнікі ля яго, пяць цэмантовых сілосных ям. І тады падумаў, што пры вострай патрэбе цэманту—на пад-

муркі для будынкаў залішняе багата абліцоўваць гэтым матар'ялам бакі ямаў.

Зьвінелі сьвятлом вокны райкому. І гэтым позным часам там, было відаць, варушыліся людзі. З двара было чуваць, як працяжна і настойліва зьвінеў тэлефонны апарат.

Колер скочыў з драбінкі ў гразь, і узышоўшы на ганак, пачаў абіваць яе аб глухія забруджаныя дошкі. Спадарожнік таксама зьлез з возу і паклыпаў па твані восені ў суседнюю сталоўку.

Невялічкі пакой сакратара райкому быў перапоўнены людзьмі. Трое іх разьмясьцілася на аблезлай канапе, астатнія на крэслах, сядзелі на стале ля печы. Чалавек чатырох стаялі, нешта жвава абгаварваючы, пасярэдзіне пакойчыку. Прыход Колера быў няпрыметным. І ўжо, калі ён спытаў у аднаго, яшчэ маладога, у скураной жакетцы, той ткнуў рукою ў бок большага стала:

— Ён сакратар.

Кінуўшы першы раз поглядам, Колер падумаў, што сакратар райкому партыі—дзяўчына: да таго было ў яго жаночае аблічча і залішне маладыя для такой цяжкай і адказнай пасады рысы твару. Ён сядзеў, адкінуўшыся на сьпінку крэсла, і са спагадлівай ухмылкай слухаў апавяданьне чалавека ў бікешы:

— На адзін сьвінарнік у мяне хапіла цьвікоў: і падлогу выслаць, і дзьверы зьбіць, і загарадкі парабіць. Будынак, як звон, чысты і сьветлы, як палац! Ну, дык добра. Адзін гэта. А трэба яшчэ сёлета і другі майстраваць. Кажу хлопцам з будаўнічай брыгады: „Трэба ўжо новы пачынаць. Дрэва ў нас ёсьць“. — Можна, кажа брыгадзір, бярвэньня на сьцены надрачкаваць, бо ўсёроўна сёлета ня скончым“. — „Чаму“, — пытаю. „А дзе цьвікоў узяць на падлогу, на загарадкі, вокны прымацаваць, зашчыткі забіць“? — „Знойдзем,—кажу, — „Выганяйце сьцены“...

Сакратар сядзеў непарушна, злажыўшы на жываце рукі, і ўвесь час трымаў на сваім твары ўхмылку. А чалавек у бікешы гаварыў:

— Па праўдзе табе сказаць, я сам тады ня мог знайсьці выхаду. Абсталяваць такую махіну ды яшчэ бяз цьвіка? То-ж чорт ведама якое мудрагельства патрэбна! Хоць-бы дроту якога калючага! А то ўсё — пад мятлу. Ужо думаў у Менск кінуцца, каб дзе якую скрынку выклянчыць. А тут сьцены ідуць у гару. Як наўмысьля гоняць хлопцы работу, каб з мяне пасьмяяцца. Я ў капсаюз, я ў калгассаюз — запалі, ня трэсьне! І тады, едучы да хаты, падумаўся...

Тут бікеша спыніла сваё апавяданьне і дапытна глянула блакітнымі вачыма на сакратара.

— Ну? — не зганяючы з свайго твару ўхмылкі кінуў нецярпліва сакратар.

Бікеша яшчэ колькі часу памаўчала, потым, заўважыўшы прагную нецярплівасьць астатніх прысутных, расьцягваючы словы, сказала:

...*ужываць дзеравяныя цьвікі!*

Усе зарагаталі, толькі сакратар захаваў непарушны выраз твару.

— Дасталі цынтабор, нарабілі з дубу цьвікоў. Прыбілі дошкі на падлогу, змайстравалі загарадкі, зьвязалі кроквы, прымацавалі латы, вокны — усё дзеравянымі цьвікамі. Калі не давяраеце, можаце прыехаць паглядзець. І сьвінарнік выйшаў, як звон, чысты і сьветлы, як палац!

І ён, як пераможца на вайне, як школьнік, што першым з усіх вучняў вырашыў самую цяжкую задачу, з гонарам прайшоўся вачыма па твары сваіх слухачоў.

— Малайчына! — і крэсла аж заскрыпела жалобна, калі варухнуўся ў захапленьні ад такога вынаходніцтва сакратар. — Малайчына! Я заўсёды казаў, што Асавец праз якое хочаш „вузкае“ месца пройдзе. Толькі ты, браце, не захварэй „галавакружэньнем ад посьпехаў“ і не бяры стаўкі на бязьдзейнасьць.

Ён сагнаў ухмылку з твару і спытаў:

— А як у цябе з камплектаваньнем?

Ганарлівы бляск Асаўцовых вачэй патух у момант.

— Тут хібіць. Пастаўлена толькі 50 сьвінаматак.

Сакратар устаў і толькі цяпер заўважыў Колер, што ён быў высачэзнага росту і яго дзявочы твар неяк не вязаўся з шырокімі плячмі і грубымі, як у грабара, рукамі.

— Уся наша бяда, — пачаў вялікан, — тая, што мы ня ўмеем ісьці нага ў нагу па ўсіх відах работы. У аднаго сьвінарнікі гатовы — няма сьвіней, у другога сьвіней лішак — няма дзе ставіць. Хіба гэта работа? Хто-ж нас пахваліць, калі мы толькі палову па ўсім раёне выканалі заданьня па камплектаваньні, шэсьцьдзесят процантаў — па будаўніцтву? А ці ведаеце, што ў нас вялікія прарывы па здачы таварнай прадукцыі? Дзесяць процантаў — ці-ж увесь плян?

Ён адарваў кавалак паперы і пачаў скручваць папяросу:

— Дзьве тысячы сьвіней трэба здаць да новага году дзяржаве. Мы-ж аказаліся такімі паваротлівымі, — твар сакратара загорніўся, — што паставілі на адкорм толькі 600 штук.

— Я хоць заўтра магу здаць трыццаць галоў, — сказаў Асавец. — Самае меншае восемьдзесят кілё будзе кожная сьвіньня: самы бэкон!

— Толькі трыццаць?! А дзе яшчэ сто дваццаць? Паставілі на адкорм? Ці-ж так бальшавікі выконваюць плян? Не, браце! Што ты вылез з „вузкага“ месца па будаўніцтву — ты герой. А што не ўкамплектаваў матачнага стада і не паставіў, колькі вызначана, кабаноў на адкорм — ня то што не праявіў геройства, але ня выканаў і абавязку. Дык ня сьпі. Падгані па чым адстаў.

У другім кутку сакратарскага пакою нізенькі бялявы хлапец спрачаўся з высокім тоўстым чалавекам, што па выбарцы бульбы першым у раёне ідзе калгас „Перамога“. Учора 15 жанчын выбралі цэлы гектар. Яшчэ якіх два тыдні пагоды і сорак чатыры гектары ўраджаю клубнеплодаў будуць у капцох.

Гаварылі пра ўсё: і выплату падатку, і афармленьне пазыкі, і зяблівае ворыва. Высокі і сухарлявы раённы работнік, які толькі што ўвайшоў у пакой, лаяў сакратара зьмітраўскага сельсавету, які даручыў кіраўніцтва завербаванай у Данбас брыгадай рабочых кулацкаму сыну.

— Сукін сын! Калі ўзваліўся на сакратара, дык пачаў апраўдвацца: „ён-жа ня кулак, гэта яго бацьку раскулачылі. Яго, сына, не чапалі“.

Да Колера ступіў у скураной жакетцы чалавек:

— Вы, таварыш, адкуль? Мо з Менску?

— Ага.

— З якой установы?

Колер выняў і паказаў дакумэнты.

— Здорава! — сказаў сакратар. — Будзем знаёмы: рэдактар раённай газэты Збарскі.

Рэдактар пазнаёміў Колера з сакратаром: „Войцік“ — адказаў той.

Высокі і тоўсты, даведаўся Колер з гаворкі, быў загадчыкам райземчасткі — Пятроўскі, нізенькі і бялявы, што з ім спрачаўся, старшынёю райкалгассаюзу — Змак.

— Мы цябе рушым у Зьмітравіцкі сельсавет, — весела ўхмыльнуўся Колеру Войцік. — Там, браце, работы хопіць. Прарывы ў будаўніцтве, камплектаваньні, сіласаваньні. Большая палова бульбы — яшчэ ў зямлі. Ну, ты згодзен?

— Давай.

— Паглядзі яшчэ там работу сельсавету. Гэта адтуль былі накіравалі брыгаду ў Данбас з кулацкім верхаводам.

У другім пакоі зьвінеў, трашчэў і сіпеў тэлефон. Калі выйшаў Колер на ганак, нейчыя колы, было чуваць, плюхцелі па восеньскай гразі: на сьвятло ад вокнаў сыпаў дробны пыл дажджу.

— У нас сёньня дзень партвучобы, гаварыў узьнімаючы каўнер Збарскі. — Усе ўпаўнаважаныя прыехалі з вёскі. Заўтра зноў разьедуцца дзён на дзесяць. Калі ты едзеш у Зьмітровічы, дык мы кінем нашага ўпаўнаважанага ў другі сельсавет.

3

Усходні вецер расчысьціў неба ад касмылёў шэрых хмар. На ўзгорках ляніва замахалі пад сонцам змочаным крыльлем ветраныя млыны. Яшчэ падала вільгаць са стрэх, ішлося ад гаю на поле пажоўклае бярозавае лісьцё. Далёкі хвойны лес ахутаўся блакітным туманам. Але чулася ў паветры зылкасьць і подых блізкай зімы.

На выгане блізка вёскі Зьмітровічаў длубаліся адзінокія коні. Далей за шырокаю, перапоўненаю ад вады, канаваю павольна ішлося пад гай стракатае стада кароў. І пастух, стары, адзеты ў кароткі кажушок і калматую шапку, заядла лаяў жывёлу за непаслушэнства.

Паўлюк Зьмітровіч ступіў з гразкай дарогі на сьцежку, што выкручвалася праз зеляніну руні да ветрака. Праз дзьверцы, падобнай здалёк на дзірку ў шпакоўніцы, выглянула з млыну рыжая барада і ўсьперлася выбеленымі ад мукі рукамі на парозе. З-за шырокай сьпіны мельніка глянула на старшыню палапленая шэрая сьвітка і вострыя вочы трывожна забегалі на полі.

— Шмат завозу? — крыкнуў, падышоўшы да млыну, Зьмітровіч.

— А ёсьць, — пазяхнуўшы адказаў з шпакоўніцы барадач. — Усё пазакідана мяшкамі.

Зьмітровіч узышоў па сходцах у ходкую ад ветру будыніну. Усё тут было загурашчана мяшкамі. Глуха рыгаў камень памольнага стану, рыгала дрэва ветраковага валу, на які было насаджана зубчатае кола. Чалавек пяцёх калгасьнікаў сядзела на мяшкох і дымілі махоркай. Млынар стаяў ужо ля каша і нечага поркаўся ў насыпаным зярне. Тонкім струменьчыкам ішлася з-пад каменя мука.

— Дзень добры, — прывітаўся Зьмітровіч і павольным поглядам узьняўся пад шапку ветрака.

— Дзень добры, — лісьліва адказала колькі галасоў.

Зьмітровіч няёмка кашлянуў і, гледзячы, як цурчыць мел мукі, спытаў:

— Дык чаго вы тут усе сабраліся? Чаму не на рабоце?

Мужчыны загаварылі, як ня разам:

— Дома і дзежкі няма чым замясіць. Бабы жыць не даюць. А тут намелеш: за дзень ня больш дваццаці пудоў толькі выцыркаеш гэтым прымудраваньнем.

— То чаго тут усім цэлы дзень сядзець? Няхай-бы ўжо днаваў той, чыя чарга. У нас вялікая няўпраўка з бульбай, другі сьвінарнік яшчэ толькі распачаты. Нас пад суд аддадуць за такую работу.

Млынар атрос рукі ад пылу засыпкі і адышоўся ад колца.

— Чэрці яго і судоў набяруцца. Такая работа ўсюды: і ў Барсукох, і ў Верхміне, і ў Балачанцы.

Махнуў нечага рукою па рыжай барадзе, сеўшы на мяшок, загаварыў далей:

— У нас шэсьцьдзесят гектараў бульбы ў радох, а там вокам ня скінуць. Завалілі дурні, такую лаву, дык дзе яны сваім малым гуртам справяцца. У нас на 120 гаспадарак і то бадай ці пасьпеем выбраць да марозу. А тут яшчэ надвор'е, што век такога ня бачыў.

Ён выцяг партабак і павольна, як чалавек, якому няма куды сьпяшацца, пачаў скручваць папяросу.

— Каб-жа ў нас адна бульба, — уздыхнуў Зьмітровіч, — а то сьвінарнікі трэба вымагляваць, паставіць 100 матак, ды яшчэ подсьвінкаў 100. Тут яшчэ націскаюць, каб 80 вяпрукоў адкармілі і здалі ў мясазагатоўкі да новага году. Хлеб аддаваць трэба...

— Уга, чаго захацелі! — зьдзівіўся той, што выглядваў з млыну за сьпіною барадача. — Ця каб палавіну вышла. Дзе іх, сьвіней, набрацца для фэрмы, калі хваробаю выкаціла? А дзе гэта відана, каб сьвінарнікі сіберныя будаваць, калі цьвіка жаднага няма! Голым палцам латы прытнеш?

Пакуль ён даводзіў свае погляды старшыні на ўсе гэтыя справы, астатнія мужчыны адзін за аднім вышлі з млыну і патупалі па сьцежцы праз жыта ў вёску.

Зьмітровіч агледзеўся, падбег да вакна і крыкнуў:

— Дык вы, хлопцы, не заседжвайцеся дзе, а рушце на поле: там бульбы няма каму капцаваць.

Яны як і ня чулі, адышоўшы крокаў на семдзесят. Зьмітровіч вылаяўся, плюнуў з вышыні на зямлю. Вецер растрыбушыў срабрыстымі пырскамі яго сьліну.

— Халера іх ведае, што за ўдоты! Ужо глядзіш, каб і авансам іх не пакрыўдзіць і каб усёй сям'і было ўсяго па горла. Дык не: яны таго ня ведаюць, што за ўсякі зрыў работы мне пальцам паківаюць на судзе.

— Хіба яны сваё робяць — спытаў млынар. — У людзей бракуе яшчэ тае сьвядомасьці, каб думаць пра калектыўны засек, як і пра свой. Яны яшчэ не дарасьлі да камуны. Тут каб раней культуру падняў, каб кожны вучоны як мае быць вышаў, тады ўжо пра адзін кацёл думаць. А так — адны сваркі. Бо сьвядомасьці няма. А з сьвінарнікамі, думаеш, лепш выйдзе? Дзе бачыў!

Яшчэ нідзе ня відана, каб такую плойму ў двух хлявох трымаць. Як ускочыць якая чума, як пачне гойсаць па загарадках, дык і парася не зьберажэцца. Ёсьць такія факты. Я ня то што падгаварваю, але так кажу, што ад сьвядомых людзей чуў. Людзі ведаюць.

Ён скончыў гаворку, узяў шаснастку і пачаў засыпаць кош.

На дварэ вецер лізаў абшыўку, ледзь прыметна тузаў непадатную махіну і цяжка круціў палапленае новаю драніцаю крыльле. Рыпеў тоўсты драўляны вал і глуха рыгала тупое каменьне.

„Возьме цыркулярку, ці не?" — варажыў Зьмітровіч, успомніўшы прапанову Тодара Ясючэні, каб рэзаць дошкі ветраком. — А добра-б было".

На сходцах ён лезе ўверх, дзе павольна паварочвае свае кантовыя бакі вал і адтуль крычыць уніз млынару.

— Алесь Паўлавіч! Алесь Паўлавіч! Хадзі сюды.

Алесь Паўлавіч Гарнастай ставіць шаснастку на мяшку і подбегам ідзе наверх.

— Гэта я думаю, каб цыркулярку прымудраваць. Тодар кажа, што сіла ў крыльлях будзе. Як ты глядзіш?

Гарнастай крывіць хітраю ўсьмешкай тонкія губы:

— Цыркулярку? Дык хай ён і бярэцца! Сапсаваць млын можна ўраз...

У сярэдзіне Гарнастая ўсё аж закіпела ад крыўды. Выскачылі інжынэры! Чужое дабро лёгка ламаць.

І ў галаве круцяцца ўспаміны, чаго каштаваў яму гэты вятрак. Тысячу рублёў вытрас на яго яшчэ да вайны. Паставіў на водшыбе вёскі блізка свайго хутару. Ды ня зглядзеўся, што мала завозу будзе, бо тры млыны другіх выкручвалі за дзень па дзьве сотні пудоў хлеба. Але выцяг з бяды гэты, у палапленай сьвітцы, што сядзіць ля коша — Пракоп Вострык— першы на вёсцы п'яніца і гультай. За пяцьдзесят рублёў і дзесяць пудоў пшаніцы згадзіўся падпаліць суседнія ветракі. Уперад заняўся млын Міколы Зьмітровіча, за ім — шугануў у неба млын Сідара Дразда. Злавілі толькі, як ішоў смаліць трэці — Шчамелеў. Тады далі падпальшчыку два гады выседкі. Але ён ня выдаў, хто яму даваў грошы і злыя думкі. Былі·вабралі Вострыка, але Шчамель не ўсьцярогся. Сам Гарнастай ткнуў вехаць з саломай у чужую будыніну, каб трашчэў новы, свой млын, ад завозу, каб былі грошы ў банку, каб можна было засадзіць бэрамі і антонаўкамі дзве дзесяціны саду і прырэзаць да свайго хутару яшчэ пяць дзесяцін найлепшай зямлі. Ніхто ня ведае, колькі ён усадзіў на ўсё гэтае грошай. Ніхто ня ведае, якая чорная гадзіна грызла яго нутрэўе, калі ўсюды загаварылі пра калгасы, раскулачваньне. Але ён выкруціўся, што адразу зьмікіціў, дзе можа быць яму дачасны прытулак. На калгаснай зямлі цяпер стаіць яго млын, ён сам калгасьнік, штодзень чытае газэты, каб праведаць пра палітычнае надвор'е, штодзень выпытвае ў завозьнікаў пра стан іх жыцьця даўней і цяпер. Шмат з каторымі ўжо асьцерагаецца гаварыць, але яшчэ сярод многіх няпрыметна сее сумненьні ў выгадзе перамены сваёй палоскі на агульную.

— Ну, дык што ты, спэцыялісты, скажаш? — дапытваецца старшыня калгасу. — Будзе цягнуць вецер пілу, ці заесца ў дрэве?

Гарнастай атрэсваецца ад думак і кідае спагадлівы погляд на Зьмітровіча.

— Бадай ці што выйдзе. Яшчэ лаўней рабіў такую практыку Васіль Хаміцэвіч у Брадку. Дык і вятрак зламаў. Калі хочаш, дык і мы гэтае зробім. А дзе малоць будзем, калі на дваццаць вёрст ветракоў няма?

Зьмітровіч адстае з прапановаю. „Чэрці яго ведаюць, мо і праўду кажа. Тады хоць жорны майструй ды і зьдзекаў ад выдумкі не агрэбаешся".

Ён ідзе з млыну. Супыняецца на дарозе. Доўгі час глядзіць як воддаль вёскі корпаецца на бульбе чалавек дваццаць жанчын. Двое коняй з насунутымі на галаву хамутамі длубаюцца ў радох. Трох мужчын сабраліся ля распачатага капца і дымяць махоркай. За імі яшчэ ідзе шырокая лава неразораных радоў і змарожаны бульбянік чарнее пад ветрам і восеньскім сонцам. Яшчэ далей — палоскі аднаасобнікаў.

Сям'і чатыры, па дзьве, па тры душы корпаюцца на полі. Міне дзень, два — і ўжо будзе там кончана работа.

Пакуль ён стаіць на гразкай дарозе, з млыну глядзяць на яго Гарнастай і Вострык. Лянiва хістае крыльлем вецер.

4

Па дарозе ў праўленьне Зьмітровіча пераймае яго сакратар — нізенькі белабрысы Антось Жылка. Яго вочы аж гараць ад нейкай нязвычайнай навіны.

— Чаго ты засопся? — пытае Зьмітровіч, становячыся ля плоту, дзе было сушэй.

— Зноў вярбоўшчык прыехаў. Патрабуй, каб мы тых дванаццаць чалавек, што захацелі ехаць у Данбас, зараз-жа адпусьцілі. А не, страшыць, пад суд усё праўленьне пагоніць.

Зьмітровіч задуменна саскрабае кійком яблынавы ліст, што прыліп да выкваценага ў гразь бота. „Як гэты ліст прыстаў“ — думае. — Пусьці людзей, дык бульбы ня будзе каму выбіраць. А тут мароз — зноў суд, калі што зазімуе.

Ён моўчкі глядзіць на даўжэразную вуліцу, па якой блукаюць безнаглядныя сьвіньні, на абшэрпаную страху хаты Сьцяпана Куста, аб якога ўперлася суцэльная калектывізацыя вёскі Зьмітровічаў. Потым шпурляе злою лаянкай:

— Паслаў бы ты яго да... І без мяне. І так чорштa людзей, зьбегла ў горад. Хопіць!

Але ў праўленьні, заўважыўшы на твары чарнявага вярбоўшчыка-шахцёра непахіснае патрабаваньне, раптам зьніжае тон і моўчкі, паціснуўшы руку прыежджаму, садзіцца ля стала.

— Як таварыш голова, будэмо робыты? — адразу наступае чарнявы. — Люды іхаты хочуть, людям трэба іхаты. Голова сыльрады загадаў, щоб ніякоі перашкоды нэ було вамі зроблено.

Твар Зьмітровіча раптам набракае белай злою млосьцю. Ён адразу паварочваецца да вакна і тыкаючы рукою на ўзгорак, дзе стаялі даўжэразныя вузкія сьвінарнікі — адзін пакрыты гонтамі, а другі — толькі выведзеныя да палавіны сьцены — крычыць:

— А калі гэтага ня скончу, дык ён будзе паказваць пра перашкоды!? Яму там, у канцылярыі, добра выдаваць загады, а хай ён тут пагаспадарыць, калі ўсяго чатырох чалавек тузаецца на пабудове! Такі разумны буду і я: з партфэлем толькі знацца.

Ён зноў паварочвае галаву да украінца. Нэрвова перакідае пальцамі з канту на кант каробку запалак.

— Колы не будэ організована робота, дык сьвінарнікі і чэрэз рік нэ кончытэ, — упікае вярбоўшчык. — Зайшов я до коопэрацыі, а там можа дэсять колгоспныків тары-бары балакають. Хіба цэ колгасп? А дэ здельщина? А дэ выход на роботу? Хіба в одинаццать часов ходять робыты?

Ён вымае з кішэні вучнёўскі сшытак і нешта пачынае запісваць. Яго грубыя вузлаватыя пальцы спрытна кіруюць алоўкам. З-пад насунутага казырка кепкі бачыць Зьмітровіч толькі чорныя жорсткія вусы.

Потым ён падымае галаву:

— Ну?

Зьмітровіч ведае, што калі будзе пярэчыць, дык гэты назойны чалавек зноў дастане выразкі законаў з газэт, зноў будзе тыкаць яму пад нос.

— Хай едуць, — выціскае ён як не праз зубы. — Напішы, Антось, усім спраўкі.

Цёмны твар украінца сьвятлее. Ён здаволена шчэрыць белыя зубы і крычыць:

— Цэ діло! Цэ діло!

У сенцах бразнула клямка і нехта, абіваючы з абутку гразь, затупаў да дзьвярэй канцылярыі.

Увайшоў Андрэй Сянчук, а за ім незнаёмы чалавек у скуранай куртцы.

„Зноў нейкая навала“, — падумаў Зьмітровіч і прывітаўся з незнаёмым, які назваў сябе Колерам.

— Старшыня калгасу „Падмурак сацыялізму“, — паказаў Колеру на Зьмітровіча Сянчук. — А гэты — данбасаўскі пралетарыят, самы падбухторшчык нашай моладзі. Завуць Сьцепаненкам. Хутка ўвесь Зьмітравіцкі сельсавет перацягне ў шахты.

— Вывезеш ад цябе, калі прамовы товарыша Сталіна не растлумачано на сходах, — узьеўся Сьцепаненка. А то бывае, що ў шахцёры сэкратар сыльрады раіць куркулів.

Ён пачаў апавядаць Колеру пра выпадак, які той ужо чуў у райкоме.

— Дзе мне аднаму за ўсім згледзіць, — пачаў апраўдвацца Сянчук.

— Мне і калектывізацыю разгортуй, і нарыхтоўкі разгортуй, і падатак з заможнікаў спаганяй. А тут з ворывам на зіму — хоць у лес уцякай: усяго дваццаць процантаў. А бульба, а сьвінарнікі, а камплектаваньне?

Зьмітровіч сядзіць моўчкі. Думае, за якою трасцаю прыехаў гэты новы чалавек.

— Так я піду, — схамянуўся раптам украінец. — Шчэ трэба заіхаты у колгосп „Більшовык“.

Ен разьвітваецца. Кажа старшыні, каб паведаміў калгасьнікам, што заўтра з усімі пакункамі трэба быць у раёне.

Грукаюць за ім дзьверы. Сянчук, скручваючы папяросу, кажа:

— І з усіх бакоў скубуць рабочую сілу: дай Данбасу, дай заводам, дай саўгасу, на электрастанцыю дай. А тут для калгасных сьвінарнікаў цесьляроў і стальмахоў нястача. Чорт ведама, што робіцца. І з калектывізацыяй па маім сельсавеце застой. Ледзь нацягнулі 45 процантаў. А больш, — што галавою аб сьцяну. Уперліся і хоць ты плач. Па дзесяць сходаў на месяц праводзім сярод аднаасобнікаў, дык ані блізка...

І зноў пачуў Колер нараканьне на дождж, на нястачу цьвікоў, цэманту.

5

Вялізарная школа, з шырокімі частымі вокнамі, пабудавана на водшыбе Зьмітровічаў яшчэ летась. Яшчэ неўпарадкаваны яе двор: разбэрсана каменьне — астача падмурку, валяюцца гнілыя козлы для распілоўкі дроў, два кавалкі — астача падвалін. За школаю лягло да ўзгорку, за яго хібам, роўнае, чыстае поле. Чатыры доўгія капцы з бульбай шарэюць воддаль ў хмурнай твані восеньскага вечару. Па жалезным даху новага будынку коўзаецца, сьвішча ў карнізах настойлівы вецер. Вецер імчыцца аж з-за капцоў. Гэта мусіць адтуль ён часамі зграбае і цярушыць над вёскай тугі лопат трактарнага матору.

Або, калі на хвіліну ўтаймуецца паветра, жалезнаю напорнаю хадою машыны стогне, тады, зямля.

Якраз паўз школу, поперак даўжэзных Зьмітровічаў, лягла шырокая, выбоістая, гразкая, як глінішча, дарога. Ля дарогі, як вартавыя, сталі з зямлі высокія слупы, каб пакорліва служыць тэлефонным размовам старшынь сельсаветаў, старшынь калгасаў і старшынь сельпо з Міранамі. А ўвечары, калі зачынены ўсе канцылярыі — каб падслухоўваць, прытаіўшыся ў цемені, штодзенныя практыкаваньні знаёмства праз адлегласьць сакратара Шчыткаўскага сельсавету Відзіка з тэлефаністкай Зосяй. Ці яшчэ: жалезныя ніткі лініі маюць тую асаблівасьць, што гаворку аднаго канца з другім могуць чуць яшчэ з чатыры абанемэнты. Дык і ўчора было, калі трох старшынь калгасаў, падслухаўшы абяцаньне скрынкі цьвікоў старшынёю райкалгассаюзу Зарэчанскай сьвінагадоўчай фэрме, у адзін час скочылі верхам на коняй і паімчаліся навыперадкі паўз хітрыя слупы ў раён.

Усіх двароў у Зьмітровічаў трыста сорак. У дваццатым годзе палавіна іх была высмажана агнём нашчэнт ад загаду паслужлівым салдатам польскіх падручнікаў. А праз тыдзень, калі панам было ўжо горача і каля Варшавы, Зьмітраўцы сьцерабілі нашчэнт бліжэйшы лес, каб да зімы, як пасьпець збудавацца. Крыху пазьней нехта жартамі зрабіў падзел вёскі. З таго часу сярэдзіну вёскі празвалі Масквою, а канцы — Поўдзень і Поўнач. І цяпер наежджых па-розных кампаніях людзей дзівіць адвага зьмітраўскіх членаў сельсавету заказаць да вечару на сход у Маскву (дзе школа), паўднёвых і паўночных жыхароў.

Яшчэ летась раённыя работнікі і ўвесь актыў сельсавету з дня ў дзень, на працягу ўсяго лістапада месяца, длубалі зброяю доказаў і прамоў непадатлівую сьцяну самастойнага гаспадараньня ў нэндзе і галечы. Адзін раз тут праводзілі пленум райвыканкому, два разы выяжджаў прэзыдыум. Смольныя, выгабляваныя сьцены школы вывяндляліся махорачным дымам і пажоўклі ад бессаромнай лаянкі падкулачнікаў і несьвядомых жанчын. Два разы тут разводзіліся Дэрах Сітнік са сваёй жонкай і Тацяна Ляўчэня са сваім мужам. Чатыры вечары прытном абрываліся прамовы дакладчыкаў частаю стралянінаю з абрэзаў на Поўдні і адзін вечар — звонам раструшчанай каменьнем шыбы.

У той-жа вечар быў пералом. Запісалася, тоўхаючыся ля стала прэзыдыму сходу, трынаццаць чалавек, і Аўдзей Канаплянік, трохдзесяцініньнік расказаў, чый камень кваснуў па яго сьпіне. У той-жа вечар быў арыштаваны Тарас Шчамель са сваім бацькам. І ўжо раньнем другога дня камісія па раскулачваньні на чале з Канаплянікам гаспадарамі тупала ў воўначосцы, у кругадзёрцы, у хляве, дзе стаялі на прывязі тры каровы і зьбянтэжана выглядала з-загарадзкі двое адкормленых коняй.

З таго часу паволі пашлі ў праўленьне заявы. Больш усяго з Масквы. Скупым была на паперкі абнаўленьня Поўнач. За ўвесь час, хаваючыся ад суседзяў, увечары, прыбыло адтуль дзесяць заяў. Зусім непадатным быў Поўдзень. Запісаўся з самага дальняга яго канца толькі Мікола Раманчук, каваль, цяперашні старшыня рэвізійнай камісіі. А то хоць сілком цягні. Калі загаворыш пра калгас, дык адбаярваюцца: то жонка ня пушчае, то муж, азіят, ня хоча. І пасьля супакойваюць агітатара: „вясною ўсе там будзем“.

Прыўзьняўшы каўнер, насунуўшы на вочы шапку, Колер мо' ўжо з паўгадзіны слухае гісторыю і апошнія зьмітровіцкія навіны. Нізенькі,

у кароткай, засмальцаванай ватоўцы сакратар партячэйкі Алесь Новік нудна крыўдзіцца на несьвядомых аднаасобнікаў. Пульхнявыя рысы яго твару ледзь прыкметны ў цемені порсткага вечара. Ля школы, вакол дваіх людзей на гразкай дарозе, выкручваецца назойлівы вецер. Пачынае шастаць па жалезным даху зрывісты дождж. Злымі настуджанымі дрыжыкамі ўзьеліся на тлумную бясконцавую твань восені тэлефонныя ніткі. Нездаволена гырчэў за ўзгоркамі матор.

— Д'яблі яго ведаюць, што тут рабіць, — яшчэ нудзіўся сакратар. — І ў райкоме даюць мне дыхту і калгассаюз штодня звоніць, ці няма прыліву. Усё ўпікаюць малым працантам калектывізацыі. А тут актыў такі, што хоць у лес уцякай.

Недзе блізка захлюпацела, зарыгала жалезнымі восямі колаў густая глыбокая гразь дарогі. Мінула мо' хвілін пяць, пакуль цяжка напруджанаю хадою зраўняўся воз са школай. Распалены абрывісты подых каня востра калоў людзей нараканьнем за недагледжаную дарогу, за бясконцна шалёную трату сіл і часу па выбоінах і глыбокіх каляінах.

— Но, каб цябе маланка спаліла! — грымнуў у цемені хрыпатны голас. Коратка сьцёбнула дратаванка і прагна ўзьелася падатнай сьпіною пакорлівага каня. Той зьверам тузануўся ад пякельнага болю і дуга ўраз скруцілася сухім трэскаў з аглобень.

— А-а-я-яй-й... — аж заенчыў злосьцю фурман. Квасянуў на твань, на каня, гужы і дугу адвечна вастрэйшай лаянкай.

— Міхась! — крыкнуў з цемені Новік. — Чаго ты там бушуеш?

Міхась не адказваў. Можа апасаўся, каб распалены язык ня шпурнуў бруду лаянкі і на няпрычасных да яго штогодняй бяды людзей. Можа ня чуў запытаньня. Ад месца здарэньня ішлося толькі праніклае марматаньне лаянкі, ды квэцаньне конскіх ног у вязкай гразі.

„Якая яшчэ сіберная работа наперадзе“ — думаў, востра пераажываючы няшчадны цяжар бездарожжа, Колер. — „І як-бы яна хутка была выканана, каб трата сілы на бескарысную злую лаянку, каб увесь вольны час кожнай адзінкі былі накіраваны для збору каменьня, падвозкі пяску і брукаваньня жоўтага шырокага палатна, абцятага канаваю. Ці хіба могуць прайсьці восеньню і ўвесну па гэтых каляінах аўтамабілі Ніжагародзкага гіганта, амаўскія грузавікі“?

Мусіць адгадаў Новік яго думкі:

— Летась тут было яшчэ горай. Каню — да пуза. Каб перайсьці з аднаго боку вуліцы, трэба было падавацца за вярсту, дзьве. Гэта мы перад марозамі ўзяліся капаць канавы і рабіць насып. Дык улетку нішто было езьдзіць. А цяпер зноў разгрузілі. Ужо за камень трэба брацца, а так — адна трасца. Шасьне ладны дождж і няма дарогі.

Ля прытоенай вёскі раптам зьявіліся агні і паплылі ў цемені пазагуменьнем насустрач нястомнаму ветру. Мільгацелі, зьнікалі на ладны час, зноў, ужо бліжэй, ішліся нацянькі, злучаючыся да школы. Дзесяць, дваццаць, мо больш паўсотні іх падаваліся праз цемень начы.

— Куды гэта яны?

— Астаткі цемры і някультурнасьці ідуць. Ліквідаваць няпісьменнасьць. Дзеці свае заняткі скончылі, дык іх лаўкі зоймуць бацькі, маткі. Праз месяц яны скончаць зьмітравіцкі унівэрсытэт.

Грукалі ў школе дзьверы. Заняліся сьвятлом шырокія частыя вокны. І праз іх расчыненыя форткі выскакваў на двор гул галасоў, заядлыя спрэчкі аднае клясы пра памылку ў сшытку нейкага Прануся Мікіцкага.

6

Якое паскуднае надвор'е! Бадай ці помняць старыя падобную восень. Дождж і гразь. Увесь час толькі і чуеш на вуліцы, па дварох, як квэцаюцца, хлюпацяць нагамі па бясконцай твані людзі, жывёла. А зьверху яшчэ сее назойная імжака. Калі будзе пратхланьне? Калі запалаюць сонцам далі і зьнікне абрыдлы шызы туман?

— Ну, як ты будзеш выбіраць бульбу?—дзівіцца з нявопытнасьці Колера Зьмітровіч.—Надвор'е—з хаты ня ткніся. Няма работы ні ў полі, ні па будаўніцтву. А калі трохі і выгляне сонца, дык і то на кароткі час: пакуль зьбярэш людзей — ізноў пад стрэху хавайся. Я пражыў трыццаць пяць год, а такой восені ня згледзіў. Хіба каго. з хаты выганіш?

Яны стаяць ля даўжэразнага, на сто мэтраў, сьвінарніка. Колькі патрачана лішніх працадзён на гэтую нябачную раней у вёсцы махіну! Пачалі будаваць яго па праекту прафэсара Журыка. Трэба было крыць гонтамі, ставіць вокны ў даху. Вывелі сьцены, паставілі кроквы, абшылі латамі, ды ня згледзеліся, што няма чым крыць. Меркавалі: камбінат у Міронах, што выража. Аж там і ня справіліся. Ды дзе! 21 сьвінарнік, дзесяць школ, пяць нардамоў, 1 бальніцу, 10 кароўнікаў, 2 птушнікі—ці здолее даць гонты на ўсё гэта адзін гантарны варштат? А гэта-ж плян будаўніцтва аднаго году! Да першага студзеня ўсё павінна быць пакрыта!

Прымушаны былі выкручвацца другім парадкам. А тут яшчэ настрашыла практыка другога калгасу. Там усе косыя вокны, кудэю трапляюць на сьвіней нейкія цудоўныя ўльтрафіялетавыя праменьні, бязьлітасна павыхвоставаў град, а сьвіней з парасятамі чатыры дні сьвяньціў дождж. Дык тут парашылі паставіць вокны старчма, для гэтага перабудавалі аснову даху і пакрылі саломай.

З расчыненых бакавых дзьвярэй сьвінарніка выскачыла рухлявая старая жанчына. Падыйшла да задымленага чорнага вялізнага катла, што вендліўся над агнём, і пачала падкладваць трэскі.

— Дык вот якая яшчэ няўпраўка,—стомленым, нудным, як гэтая імжака, голасам кідае Зьмітровіч.—Мала збудаваць яшчэ адзін сьвінарнік. А дзе-ж кухня? Хіба гэта работа?—і ўлетку, увосень гібець з катлом на дажджы, а зімою сініць холадам рукі? А тут няўпраўка з рабочай сілай, людзьмі. Не хапае, каб абслужыць такую гаспадарку. Я даўно гэтае казаў у сельсавеце, у райкалгассаюзе. Але ўсюды затлумлены работаю, усюды адно гавораць: „выкручвайся, як сам знаеш, табе ўсё відаць. Але, каб усё было ў парадку"...

Яны ўвайшлі ў сьвінарнік. Правая палова будынку была абсталявана клеткамі. Але ў праходзе ня было падлогі. Дзьве сьвінаркі хлюпалі босымі нагамі па гразкай зямлі, напаўняючы карыты кормам. З бліжэйшай да Колера і старшыні клеткі жухнула коратка крыльлем, праз вокны, стада вераб'ёў. Недзе ў самым дальнім канцы назойна верашчэла парасё, крыху бліжэй здаволена рохкала, кормячы парасят, чорная матка. Самае cтракатае пагалоўе, якое можа быць толькі ў вёсцы, сабрана тут, у гэтай прасторнай будыніне, разьмешчана ў прасторных, з драўлянаю падлогаю, загарадках. Падлога абодвых бакоў загародак была нахілена да праходу і па дошках змываўся на зямлю ўвесь бруд і гной.

— Яшчэ адна бяда,—зморанай ухмылкай сьлізнуў па Колеравым твары старшыня.—Ніяк не дапрасіцца, каб жанчыны на сьвінарнік

ішлі працаваць. А калі і прыходзяць, дык бываюць ня больш тыдня. От і цяпер: двох яшчэ чалавек на гэтае пагалоўе не хапае. Толькі адна Зося Хурсік тут увесь час і гібее.

Бразнулі ў будынку сярэднія бакавыя дзьверы. Захлюпацела пад босымі нагамі гразь. І раптам дружна зарохкалі кватаранткі ўсіх загарадак.

— Пачулі, што Зося абход робіць,—сказау Зьмітровіч.—Яны ўжо вывучылі яе хаду, разьбіраюцца, як хто хлюпае начамі па гразі.

Два дні, якія адседзеў Колер у гэтым калгасе, былі днямі вывучэньня людзей і іх спраў. З туману нядобрых падзей і ганебных прарываў разчэй стала выступаць лінія, якая вяла да арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня.

Ён спытаў у Зьмітровіча, як працуе Зося Хурсік. Хоць бачыў сам, хоць ведаў яе бясконцныя жывыя клопаты пра новую работу ў новых, зусім не падобных на ранейшыя, абставінах. Але адказ старшыні, кіраўніка больш сотні людзей, у нутры якіх яшчэ было шмат старых адчуваньняў і нязьнішчаных дробна-ўласьніцкіх імкненьняў, патрэбен быў Колеру для канчатковых вывадаў. І няўжо гэтае простае запытаньне аб самай звычайнай справе было незразумелым для Зьмітровіча? Ці трэба было тут доўгі час думаць, цяжка варочаць непаслухмянымі, непадатнымі думкамі, каб, урэшце, адказаць.

— Працуе, ды ўсё. Якое яшчэ неабходна тут геройства, каб зварыць бульбу, патаўчы і пакласьці ў карыта?

— Ня можа быць, каб яна працавала нараўне з тымі, вунь, дзяўчатамі!—ня даў веры Колер.—Ты,—ён загаварыў з старшынёю ўжо на „ты",—сам ведаеш, што ня ўсе людзі аднолькавыя: па сіле, па думках, па спраўнасьці, па здольнасьці. Возьмем, напрыклад, выбарку бульбы: няўжо ў вас няма такіх жанчын, каб пераганялі адсталых, а апошнія—адставалі ад тых, хто імкнецца быць першым. Няўжо кожная жанчына выбірае па 6 сотак?

Зьмітровіч аж зарагатаў.

— Па шэсьць сотак? Дай божачка, каб чатыры, пяць вышла на кожную! У гэткую паганую восень, на нашай зямлі, хоць-бы з трох сотак кожны дзень ішло ад кожнай у капцы. У нас цяпер працуюць дзьве брыгады. Дык, праўда, адна толькі штодзень пераганяе за чатыры. А каб пяць, шэсьць сотак—дык не. Ды як ты можаш падлічыць, калі яны разам займаюць рады, разам іх гоняць. Калі-ж каторая і памкнецца быць наперадзе, дык адсталыя заядаюць, што ўжо залішняе выхваляецца сваім спрытам. Так і кешкаюцца нараўне. Усім пароўну і запісваецца.

— А Зосі як?

— Так і Зосі. Калі яна больш справіцца дагледзець сьвіней—што з таго? Ёй няма куды сьпяшацца. Баба старая, былая батрачка, век свайго ня мела. Няма сваіх сьвіней, каровы і цяпер. Дык чаго ёй і рвацца ў сваю цёмную хатку? Мо ёй тут ля сьвіней весялей, як дзяўчатам ля хлапцоў?

Зьмітровіч выняў кавалак газэціны, сашануў руку ў кішэню і трыма пальцамі набраў табакі. Блакітны дым ад папяросы зблытаным шмацьцём узьняўся вышэй баляк; пачаў чапляцца за саламяную страху.

У загарадцы, дзе выкручвалася ля вялізнай сьвіньні дзесяцера белых парасят, Зося выскрабала пальцамі з карыта астачу ад мешанкі. Ласкава адпіхала ад сябе нецярплівую да ежы сьвіньню, якая рознымі

бакамі старалася паглядзець, што прызапашана для яе ў бляшаным вядры.

— От назола!—сарамаціла непаслухмяную жывёліну Зося.—Пачакай, пацярпі хвілінку. Будзе табе тваё. Ня лезь, назола!

Сёньня, досьвіткам устаў яшчэ Колер, каб паглядзець, як зьбіраюцца на работу калгасьнікі. Збор вызначаны яшчэ з самага пачатку арганізацыі калгасу—ля кузьні. Сюды, праз шэрую ткань блізкага дня, як мае быць выквацаўшы дзіравыя боты ў тлустую гразь, падаўся Колер. Ля кузьні застаў аднаго толькі палявода Міхася Ляўчука. Сагнуўшыся ў тры пагібелі, ён адкручваў ад жняяркі нейкія шрубы. Складваў іх, старанна выцершы пясок, на чыстай анучы.

— Дзень добры, — сказаў яму Колер.

Той падняў галаву, зьдзіўлена глянуў на Колера.

— Дзень добры. Чаго гэта вы такім раньнем усталі? Нашы мужыкі—не гарадзкія—і то сьпяць.

— Дык чаго вы поцемкам корпаецеся?

— Я,—палявод глянуў на свае рукі, на крысы жакеткі, боты якбы яшчэ няўпэўнены, што гэта ён, Ляўчук, тут, а ня хто іншы.— Я ўстаў, бо работы шмат. Трэба, пакуль не пачнуць зьбірацца, разабваць жняярку. Пачысьціць, змазаць і пакласьці ў кладовай часткі. А то сорам: даўно скончана жніво, а машына ржавее пад дажджом.

Ён зноў сагнуўся ля хітра скручаных частак. Потым блісную на Колера вострым поглядам сваіх шэрых вачэй.

— Мусіць, над Зосю, раней ніхто не ўстае. Вы мо' ня ведаеце Зосі, нашай старэйшай сьвінаркі? Дык от: як рана я сюды ня прыду, яна ўжо грукае там дзьвярыма, грыміць катлом. І пазьней за ўсіх ідзе да хаты. Д'яблі яе ведаюць, калі яна і сьпіць. Баба аж хварэе за сьвіней. Другія жанкі і тыдню ня ўбудуць у той гразі, а яна хоць-бы што. Як узялася з першага дня, дык яе і сілком ня выцягнеш...

А цяпер Зьмітровіч кажа, што робіць нараўне з усімі!

Колер нэрвова скруціў папяросу і глынуў, каб супакоіць востры боль нутрэўя, колькі разоў засап горкі дым. Разам з надзеяй на пасьпяховую ліквідацыю прарываў расла нязьмерная злосьць на тых, хто не апраўдаў давер'я масы: на Зьмітровіча, на другіх бязьдзейнікаў з праўленьня.

## 7

Наперадзе яшчэ сіберная работа! Скончыць абсталяваньне першы гнаць работаю ў гару сьцены другога сьвінарнікі. Выхапіць—ня проста ўжо капаць, корпацца, бо холадам пахне надвор'е—а *выхапіць* з зямлі ўсю бульбу.

Як утрапёны лётае на кані, пырскаючы з-пад капытоў вадою і гразёю, Міхась Ляўчук. Спыняецца ля хаты калгасьнікаў, што ня выходзяць на работу і крычыць:

— Пракоп! Гэй Пракоп! Гані сваіх баб на бульбу.

І далей:

— Антаніна, не пазьніся сёньня. Бяры і Стэфку з сабою.

І так бясконца, штодзень: разыходзіцца па вёсцы голас палявода:

— Цётка Міроніха, не заседжвайся доўга! Сьпяшайся Алена! А ты, Мар'я, хоць-бы раз выйшла?! Хутчэй жанкі. Інакш зазімуем у полі.

З варот там-сям выгляне на гэты вэрлах аднаасобнік. Хто зьедліва засьмяецца сам сабе, а хто моўчкі горна пакруціць галавою ды пойдзе корпацца на свой прыедлівы гарод.

Колер сустрэў палявода як той варочаўся пасьля аб'езду.

— Куды гэта вы запрашалі людзей?

— Бульбу выбіраць. Учора ўвечары наказваў, а сёньня яшчэ раз.

— Цяпер адзінаццатая гадзіна. Хіба яшчэ ніхто ня ішоў на работу?

— Большая палавіна пайшла. Некаторыя прышлі загадзя. А гэтыя, што езьдзіў цяпер загадваць, самыя злосныя зрыўшчыкі дысцыпліны. Я ўжо з імі і так і сяк: і прасіў і страшчыў. Усё адзін чорт. Вінавата тут і праўленьне. У некаторых калгасьнікаў засталіся гароды па гектару і больш. Дык на ліха яму калгасную бульбу ісьці выбіраць, калі свяё о/зесь свой склеп заверне? Некаторыя яшчэ стараюцца прыбрацьяк хугчэй бульбу ды зімку пасьля засеяць. Думаеце, каб у нас была ысцыплінаванасьць, каб праўленьне—хоць і я ў ім (але хіба перак дычыш усіх?) — глядзела за правіламі, за выкананьнем статуту сельсра-гаспадарчай арцелі, мы мелі такія зрывы ў рабоце. У нас лічыцкца 300 працаздольных. Зямлю дагары нагамі, каб на добры лад, такім гуртам можна перавярнуць!

Колер адступіўся ад яго і пайшоў у праўленьне.

Там сеў за стол, дзе працаваў рахункавод Антось Дзік, і так грабянуў да сябе паперу, атрамант, шго той скоса глянуў спудлаванымі вачыма. Ліст на імя сакратара райкому быў насычаны празьмернай злосьцю на праваапартуністычную сьлепату.

Тут, як утрапёныя, як маніякі, ганяюцца за голымі лічбамі калектывізацыі, аж енчаць, што малы процант. Гаспадарчае ўмацаваньне калгасу: сваячасовае выкананьне пляну па ўборцы, сяўбе, будаўніцтву, камплектаваньні жывёлагадоўчых фэрм, зябліваму ворыву, ячэйку, відаць, з практыкі калгасу „Падмурак соцыялізму" мала цікавіць. Насьценгазэта тут выйшла „ўсяго" 2 месяцы таму назад. Аб вялікай прынцыповасьці пытаньняў, якія выстаўляюцца рэдакцыяй, сьведчыць такі верш:

Нашы дзеўкі захацелі
малака, малака,
не папалі пад карову,
а папалі пад быка, пад быка.

Можа, калі ты ня ведаеш пра такую мастацкую творчасьць тутэйшай рэдакцыі ў часе прарыву па ўборцы жыта (згніло 30 коп), дык мо' хоць раённая газэта цікавілася штодзенным кіраўніцтвам нізавым друкам. Усе гэтыя справы ў нас, на заводзе, празываюць апартуністычнымі, хто і дапусьціў, хто іх учыняе—нясе адказнасьць перад партыяй, перад краінай. Вывады рабі сам...

Ён паклаў ліст у канвэрт. Аднёс у паштовую скрынку пры сельсавеце. Зьвярнуўшыся ў праўленьне, папрасіў, каб, калі ўбачаць рэдактара Ладуцьку, адразу сказалі, што Колер яго чакае, што трэба сёньня-ж правесьці нараду актыўных насьценкораў з ударнікамі. Што трэба наладзіць выпуск насьценнай газэты.

8

Недзе за далёкую сіняю сьцяною лесу захрас вецер. Спрыцянела непарушна крыльле млыну. Толькі ледзь прыметна варушыцца змарожаны чорны бульбянік не разаратых радоў. Кожны дзень сакапас-

ныя коні ўзьнімаюць тут зайцоў. Прыцяўшы вушы да сьпіны, касавокія порсткаю хадою падаюцца ў бліжэйшыя зарасьнікі ядлоўцу.

Хутка на белай халоднай засьцелі пачнуць скручваць яны хітрэцкія вузлы, каб зьбіваць з панталыку сабак і пляяўнічых. Хутка сьнег выкрые штодзеннае таптаньне лісоў ля падпаветак, дзе на седалах прыціхаюць уначы куры.

Зося, дачка Тодара Ясючэні, думаючы пра блізкія халады, аж завіхаецца ў сваіх двух радох бульбы. Спрытна грабе рукамі зьвільгочаную зямлю. Бульба няспынна трамціць сухою ракітаю яе кошыкаў.

— Глядзі, каб не падарвалася,—зьедліва шэпча, каб усе чулі, Макрэна Гарнастаіха. — Уда-ар-ніца, — і шавеліць тонкімі, як лісьцё, губамі.

Зося не абарачваецца. Нараўне з ёю прызвычайна ходзяць ля бульбы рукі Тэклі Ладуцькі. Абедзьве яны крокаў за дзесяць наперадзе ад астатніх калгасьніц. Тыя ня чуюць іх патаемнае гаворкі.

— Табе шэньціць...—кідаючы прыгоршчы бульбы ў кошык, гаворыць Тэкля Зосі. Гаворыць і хітра падміргвае вокам.

У сіняй глыбіні Зосіных вачэй дапытнае неразуменьне.

— Пра што і каго ты кажаш?

Тэкля каторы час ўглядаецца ў твар сяброўкі, ловячы здрадніцкія рысы здагадлівасьці. Але непарушна-зьбянтэжаным быў выраз Зосінага твару.

— Я пра гэтага варашылаўца кажу, што прыехаў наш калгас падпраўляць. Нешта ён учора залішняе часу гаварыў з табою ўвечары ля праўленьня...

Неразуменьне ўсе яшчэ стыне на твары Зосі. У бяздоньні яе вачэй ніводнай гарачай іскры здагадлівасьці. Жанкі, што наганялі іх, прагна пачалі прыслухоўвацца. Гарнастаіха, як вёрткі ліс, што вынюхоўвае здабычу, выцягнула доўгую жаўтушную шыю.

— Завіхаймася! — таўкнула ў бок сяброўкі Тэкля. — Яны хутка зраўняюцца з намі.

І ўжо цішэй пачала распытваць Зосю пра ўчарашнюю сустрэчу з прыежджым чалавекам.

Зося аж зайшлася ад звонкага рогату. Ніколі Тэкля ня была такой дапытлівай, а то раптам—такі наскок, з такім таямнічым выглядам, хітрыкаю: каб, яна сказала тое, што было, а ня што другое выдумала. Яе голас доўгі час зьвінеў нястрыманым сьмехам.

— Во нашы камсамолкі разыйшліся,—зайздросьлівая да маладых гадамі, ня вытрымала, каб не сказаць, Надзя Чубік.—Ну, чаго вы сьціхлі? Яшчэ трошкі грымніце сьмехам!

Яна сама аж маладзее ад блізкасьці такіх маладых, здаровых і бясклопатных. Твар яе сухі, сьцёганы ранейшай нястачаю і вечным тлумам з дзецьмі (а іх восьмера, як на пагібель, выкаціла яна вялікім болем!), сьвятлее. Так прызвычаілася яе натура заўсёды жыць чужою радасьцю, калі свая ўсе тыя гады бывала рэдка, як цёплыя дні ў жорсткім студзені.

— А што ім, жарабіцам, адыходзіць?—порстка шавеліць тонкімі губамі Гарнастаіха.—Іхнае нідзе ніхто нічога не пацягне. Маладосьць—дурносьць.

— Цяпер маладым толькі і жыць.

— Жыць? Толькі сьвет круцяць—муцяць!

— Дзіва што.

— Яно гэтак. Хіба мы ў такім раскашэньсьце жылі? Бывала, калі хто з дзяўчат перад сваім вясельлем справіць камашы, дык пагалоска на ўвесь павет пойдзе: багатыры! А цяпер у самага апошняга смаркача хромавыя боты. І то крычыць, што мала.

— Усё скруцілася,—вохкае жоўцю Гарнастаіха.—Распуста вялікая зайшла ў завядзёнку. Даўней, бывала, саромяешся з жаніхом увечары хадзіць, а цяперашняга сьвету расьпусьніцы самі да хлапцоў ліпнуць. Не баяцца ні бога, ня людзей. Даўней, бывала, калі якая бяда з дзеўкаю выйдзе, дык у возеры з сабою сорам хавалі, а цяпер выкаціць бабэха ды ўсюды з ім тыцкаецца на поўным раўнапраўі. Хіба гэта законы, парадкі, каб тое рабіць, што кожнаму хочацца? Кручаны сьвет настаў! Давялі бальшавікі...

Зося і Тэкля зноў ужо далёка наперадзе. Старыя бабы так затаройкаліся, што пачалі дробную і буйнейшую бульбу сыпаць у адзін кошык.

Фядос Новік, нізенькі, худзенькі, чарнаваты, з разламаным на дзьве часткі брылем шапкі, пачаў запрагаць каня, каб адвезьці бульбу да капцоў. Зглелзіўшы, што ў баб перапоўненыя кошы, ён крыкнуў:

— Жанкі, дасыпце воза. Я ўжо еду.

— І сам ня хвор паднесьці якіх дзесяць кашалёў,—загалёкалі выбіральніцы.—Як ты хуценька распанеў!

Новік нечага памацаў рукою разлуплены брыль:

— Мая работа—толькі вазіць...

— А наша—толькі выбіраць!—абсадзіла яго Матруна Шыцік, устаўшы з раду і бяручыся пад бокі.—Гэта вам не даўнейшае раўнапраўе, каб на бабе езьдзіць. Трасцы вам. Калі савецкая ўласьць стала, вы ўжо ля нас паскачаце.

— Чэрці ля цябе будуць скакаць, ля такога худога тарана,—можа сам сабе сказаў Новік. Але словы яго дайшліся да жаночага гурту. І Шыцік у злым запале аж падскочыла.

— Сам ты сухі таран! Я ня ведаю, што згледзела ў цябе твая жонка, калі ішла замуж? І вірланскі і крывабокі, і санлівая цяцера. Дзе-ж у такім сухраку будзе жар да бабы? Дурная яна будзе, калі не разьвядзецца, або з другім на шахі-махі ня пойдзе. От!

Яна з выглядам пераможцы, узгрэтая рогатам жанчын, як ня кінулася ад удалых жартаў ля сваіх кошыкаў.

— Ну і язычок!—падышоў браць кошыкі Новік.—Цяпер—бабу за дзесяць кубамэтраў трэба абыходзіць.

— Савецкія, вашы законы, раструшчылі мужні ўшчунак,—уздыхнула Гарнастаіха.—А ў калгасе яшчэ большая распуста пойдзе. З гораду хваробу гэтую нясуць усякія брыгадзёры. Прыяжджаюць, каб пасварыць мужыкоў, каб яны пагрызьліся. Каб муж з жонкаю век ладу ня мелі.

— Глядзіце, дзе нашы камсамольцы!—агледзелася Чубік:—Рады канчаюць, а мы таройкаем.

— Старайся не старайся, больш, як 20 капеек на дзень ня выйдзе,—пачала зноў Гарнастаіха.—У тураўскім калгасе прыпала ўсяго чатыры кілы бульбы і паўхунта жыта на дзень. Тое і ў нас будзе. Вунь тыя калгасьнікі жабракамі ўжо ходзяць па Капыцічах...—дадае яна цішэй і боязна аглядваецца, дзе стаіць Новік.

— У іх больш-бы прыпала, каб цьвёрдым заданьнем калгасу не аблажылі, — зноў шавеліць яна жаўтушнымі губамі. — А то сказалі

здаць сорак вагонаў хлеба і дзьвесьце вагонаў бульбы. Дык тыя нема равуць: дзе чаго ўзяць, калі ў іх і за дзесяць год гэтулькі не зьбярэцца. І кажуць, што ўсё пойдзе ў Кітай...

Ледзь прыметна варушыцца змарожаны бульбянік. З вёскі даходзіць сюды грукат тапароў. Стракатае стада кароў длубаецца на выгане. На выгане-ж, міма стада, павольна плыве на поле воз саломы. За вазом, на ўзгорку, рыецца ў ядлоўцавым зарасьніку чарада сьвіней. Гарнастаіха моўчкі каторы час глядзіць на сьвіней, потым кажа:

— Або сьвіней у абору ставіць. Хіба ў калгасным гурце сьвіньні выжывуць? Хто-ж там іх даглядацьме, як некалі сваіх? Вунь у Макранскім калгасе за тыдзень 120 штук аблажыла. Дык тыя калгасьнікі ад даўгу век не агрэбаюцца...

Зоса з Тэкляю ўжо канчалі занятыя чатыры рады. Гледзячы на іх работу пачалі вылазіць наперад Надзя Чубік, Алена Губач і Вера Забойка.

— Дурныя вы,—узьелася на іх Гарнастаіха.—Выбераце два рады, выбярэце дзесяць—усёроўна дзень запішуць. Лепш здароўе сваё беражыце. Вельмі ўжо заядлымі ўдарніцамі хочаце зрабіцца. Тады нам будуць тыкаць: „чаму гэта яны больш выбіралі, а вы і нормы ня выгналі?“ Каб гэта сваё было...

— А чые гэтае, што мы робім?—як-бы ня ведаючы, спытала Чубік.—Калі больш зробім, дык больш і атрымаем. Будзем гультаяваць—будзем галадаць. Рабіць усюды трэба. Бог з неба ня скіне.

— А як-жа,—хуценька загаварыла Гарнастаіха.—Хто кажа, што ня трэба? Але калі твая бульба застаецца на полі, а ты ідзеш выбіраць калгасную, дык хіба твае сэрцайка не трамціць?

— То навошта вы сеялі столькі, што ў вас сэрца трамціць? У мяне якіх дзесяць баразён толькі, а не дзесяціна. Мне хопіць таго, што ў калгасе дадуць.

Тэкля і Зося падселі да двух дзяўчат, што выпераліся работаю з жаночага гурту:

— Мы вам паможам скончыць гэтыя рады і разам возьмемся за новыя,—сказала Зося.—Навыперадкі возьмемся. Хто спраўней будзе ў рабоце.

— І я цябе пераганю!—загадзя абяцае Вера.—На цэлых два рады адстанеш!

— Калі ты будзеш абыяк выбіраць, дык абгоніш. А па-мойму такі дагавор: каб і бульбіны ў радзе не засталося.

— А як-жа.

— Хіба гэта работа—зьбіраць толькі зьверху.

Яны пачалі гаварыць пра тое, што каб добра ўзяцца, дык да марозу лёганька можна справіцца і з выбаркаю і яшчэ пераараць. А то давядзецца хукаць на сінія ад холаду пальцы. Ды работа адстане. І каб усе выходзілі на работу.

— Наша праўленьне нядобра зрабіла, што пакінула ў аднаасобным карыстаньні вялікія гароды. У каго, дык цэлы хутар. І калгасьнікам завецца. А якая з яго работа ў калгасе, калі ён склеп бульбы з свайго гароду наверне? Некаторыя нават жыта сваё пасеялі.

Яна раптам перамяніла тэму гаворкі.

— Калі мы больш выбярэм, дык трэба, каб больш і запісалі.

— А як-жа! Хіба мы павінны працаваць на гультаёў.

Колькі-ж па норме трэба выбраць за дзень,—спытала Алена.

— Шэсьць сотак.

— Колькі гэта радоў?

Зося каторы час падумала.

— У Новым Сьвеце выбіралі па сем сотак. Гэта выходзіць трохі больш, як 16 жанчын трэба ставіць на гектар.

— Дзе той „Новы Сьвет“?

У Круцічах.

— У Круцічах?

— Ага.

— Я-ж ведаю. Мы іх абгонім. У нас зямля больш пясковая. У нас лягчэй выбіраць.

— Дык мы ў чатырох будзем выбіраць?

Гэтае пытаньне Веры таўхнула Зосю. Выходзіць, што яны ўжо стаяць асобна ад таго жаночага гурту, які там з-заду, павольна грэбаецца ў радох. Якія па несьвядомасьці злуюць адна на адну, калі выткнецца наперад: „А, падлізьніца, выхваляешся перад праўленьнем“. Тормаз гаспадарскай работы ў гэтым, у нявыхадах, у спазьненьнях. А што калі яны, маладыя, пакажуць старым, як трэба працаваць у калгасе?

Рашэньне сфармавалася ў момант.

— Абвесьцім, як кажуць, ударную брыгаду. Трэба спытаць, моʻ яшчэ хто да нас далучыцца.

Яны хуценька скончылі рады, разам падняліся і панесьлі высыпаць бульбу ў кош.

— Чаго гэта вы стараецеся?—спытаў Новік. Ён ужо адвёз бульбу і цяпер зноў распрагаў каня.

— Каб табе работы было,—засьмяялася Вера.—Хутка і адвозіць ня справішся.

Новік хітра ўхмыльнуўся і падняў над калматым чубам разарваны брыль.

— Ня спраўлюся? От, жэўжыкі!

— Паглядзіш.

— Дай-жа божачка, каб вы такія спраўныя былі. Хутчэй-бы работу скончылі.

Да возу падышла, каб высыпаць бульбу, Надзя Чубік. Моўчкі вывернула кош і задуменная зноў павярнула моўчкі ў рады. Ішліся з ёю думкі: „Зьмітровіч сёньня пастрашыў мужа за неабагулены плужок. З калгасу, казаў, за такую квапнасьць выкіне“.

— Цётка Надзя,—гукнула Зося.—Моʻ ў наш гурт пойдзеш?

Чурбік супынілася.

А Зося:

— Ударную, як кажуць, брыгаду арганізавалі. Каб больш зрабіць, каб хутчэй. А то і да зімы ня справімся.

— Я й так раблю ня менш за другіх.

Зося схапілася за яе словы.

— Ты можа робіш і больш, але табе нараўне з другімі запісваюць. А мы патрабуем, каб нам запісалі, колькі мы вырабім.

— У мяне няскончаныя рады...

— А мы падгонім ды станем разам. Яшчэ там хто моʻ пойдзе да нас?

— Можа Марыля, Домна?..

— То хутчэй хадзем. А ты,—Зося глянула на Новіка,—пільнуй каня, каб з адвозкай не марудзіць.

Новікаў брыль зьдзіўлена матнуўся над зьбянтэжнымі ад дзявоцкае выдумкі вачыма.

9

У невялічкім школьным пакойчыку, настаўніцкай, надымленым табаком, канчаў на сходзе партячэйкі нудную справаздачу старшыня калгасу.

...Чорт яго ведае, што тут ужо рабіць. Галоўнае—нястача рабочай сілы. Колькі чалавек выенчылі ў Донбас. Тыя ў раёне працуюць на электрастанцыі, маладзейшыя рушыліся ў тэхнікумы і інстытуты. Так што ўсе прарывы ад нястачы рабочай сілы. Што тут больш гаварыць? — бездапаможна глянуў ён на карту „Азія". „І трэба-ж так размаляваць" — матнулася ў галаве зьдзіўленьне ад стракатых плям узвышшаў і нізін.

Ля карты, часта пазяхаючы, сядзеў каапэратар Яўхім Баравік. Ён ужо нашчэнт спаласаваў газэту, няўдала стараючыся скруціць люльку для махоркі. За ім, за яго заняткамі хаваючы пад чорныя вусы зьедлівую ўхмылку губ, наглядаў старшыня калгасаўскай рэвізійнай камісіі Мікола Раманчук. Загадчык школы Мікіта Ладуцька, часта кашляючы ад дыму, нешта гаварыў з Тодарам Бабоўскім, сакратаром камсамольскай ячэйкі.

Новік, брат таго, што адвозіў бульбу да капцоў, таксама нізенькі і сухарлявы, спытаў:

— У каго ёсьць запытаньні? Давайце і няхай Зьмітровіч адразу на іх адказвае.

Каапэратар заварушыўся на сваім крэсьле:

— Што тут пытаць. Усё зразумела. Хіба мы за дзьвесьце вёрст жывём ад калгасу, што нічога ня ведаем?

— А можа каму што незразумела? Тут і таварыш, рабочы з заводу Варашылава, што прысланы нам у дапамогу, сядзіць. Яму цікава азнаёміцца.

Чалавек колькі павярнулі галовы да Колера, як быццам яны першы раз пра яго чуюць, хоць ужо ён справіўся з усімі пазнаёміцца за гэтыя дні.

Каапэратар зноў заварушыўся на сваім крэсьле. Сваю ляную энэргію ад практыкі з люлькаю, кінуўшы на падлогу скручаную істужку шэрай паперы, ён пераключыў на выступленьне.

— Я казаў раней і кажу цяпер, што адзіны выхад з прарываў— націснуць на тэмпы калектывізацыі. Мы ўжо доўгі час ня бачылі ў праўленьні ніводнай заявы. Вольныя рабочыя рукі марынуюцца ў аднаасобных гаспадарках...

— А гэта што? — тыцнуў пальцам Раманчук на раённую газэту, дзе была выдрукавана пастанова райкому пра арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў.

— А ўсе калгасьнікі загружаны работаю?

— Каб-жа было, дык-бы не адставалі з работай.

— Ты палічы, колькі ў тваёй краме за дзень пераварнецца калгасьнікаў. Ужо даўно з імі можна было скончыць сьвінарнік. Тут адкрыта трэба заявіць, што самі працавалі ня так, як трэба. „Бязь-

дзейнікі, апартуністы", вось што нам трэба запісаць у асабістыя справы,—нэрвова ўскочыў Раманчук з крэсла.

Санлівасьць пачала зьнікаць з твару каапэратара. Сакратар камсамольскай ячэйкі кінуў гаворку з настаўнікам і ўважліва глянуў на Колера.

— Таварышы,—стараўся вярнуць сходу дысцыпліну Новік.— Давайце не спрачацца, а гаварыць, каб не зацягваць часу і добра вырашыць справу. Мы дамовіліся, што раней будуць запытаньні, а спрэчкі пасьля. Дык давайце Зьмітровічу пытаньні, а пасьля прыступім да спрэчак.

— Заўсёды адно і тое—буркнуў сам сабе Баравік і зноў санліва сагнуўся ля карты, нуднымі вачыма ўтаропіўшыся ў Раманчука.

— Калі ты думаеш скончыць выбарку бульбы?—ня гледзячы на Зьмітровіча спытаў Ладуцька.

— Як будзе надвор'е. Калі пашэнціць—раней, а то зацяжка будзе вялікая.

— А сьвінарнік калі скончыш?

— Тое і з сьвінарнікам. Каб рабочая сіла, цьвікі, дошкі—да халадоў спраўлюся.

Зноў доўгая маўчанка. Здавалася, што ўсё зразумела, выхаду з таго, што ёсьць, інакшага ня знойдзеш.

— Ці гаварылі вы з калгасьнікамі пра ўкамплектаваньне сьвінагадоўчай фэрмы?

Некаторыя абярнуліся да Колера і зьдзіўленымі вачыма пачалі ўглядацца, як быццам прышоў нейкі дзіўны, незнаёмы з вясковымі справамі чалавек, і задаў бязглуздае пытаньне. Потым, колькі чалавек схамянулася і кінулі дапытны погляд, як-бы самога Колера, на старшыню калгасу.

— Я адкажу,—устаў Новік.—Справа ў тым, што да гэтага часу мы камплектавалі за лік мясазагатовак. Як далей будзе—ад райкому ня было яшчэ дырэктыў. Праўда, мы гаварылі пра закупку самастойна з аднаасобнікамі, але ніхто не згадзіўся прадаць.

— А калгасьнікі?

— Яшчэ не гаварылі. Можа наша тут памылка, што абмінулі калгасьнікаў і раней пашлі ў аднаасобны сэктар.

— Ці рабіла ячэйка праверку, як уведзена зьдзельшчына, вучот працы тых, хто добра працуе, хто адстае? Ці ліквідавана абязьлічка, які сацыяльны склад калгасьнікаў?

— Усё гэта ў пляне нашай работы,—даў агульны адказ Новік.— Пытаньні важныя і мы не маглі іх абмінуць плянам работы ячэйкі.

— Гаварыльня...—ня супакоўваўся на сваім месцы Раманчук.— Таварыш Новік, дазволь мне слова.

— Бузацёр...—пазяхнуў, насунуўшы на вочы шапку, Баравік.— Толькі сход зацягвае.

Седзячы з краю стала, арудаваў з весткамі пра збожжазагатоўкі Сянчук, на блёк-ноце мо' дзесятым разам выводзіў алоўкам слова „калгас" Зьмітровіч. Ужо ў голас спрачаўся з Бабоўскім пра мэтад праектаў настаўнік Ладуцька.

— Можа і штo добрае, але я мала што ведаю. Ніякіх сталых падручнікаў і праграм пра гэты новы мэтад навучаньня яшчэ няма.

Сакратар сельпарткому Мацьвей Юрчык, высокі і тоўсты, з кароткай рыжаю бародкаю з-заклапочаным выразам на твары, хуценька драп-

саваў алоўкам у блёк-ноце. Ён часта глядзеў нечага ў вакно, дыхаючы на бліскучую цемень шыбы блакітным дымам з кароценькай люлькі.

— Ну, Раманчук, тваё слова. Лупцуй...

— Чаму гэта „лупцуй"?—матнуў запытаньнем да Новіка Раманчук, і глуха кашлянуў ад дымнасьці прастуджаным горлам. Учора ён цэлы дзень таптаўся ў разьліве Морачанкі, дастаючы з брыгадай калгасьнікаў сена для кароў. Частыя дажджы праз усё лета і восень абнялі вадою ўсе стагі, пакрылі няскошаную атаву. Дык пакуль падмерзьне, трэба нацягаць сена. Штодзень брыгада з сямі чалавек хлюпае па калені ў вадзе, носячы ў лейцах сена на бераг разьліву.

— Я ўжо колькі разоў казаў, каб добра арганізаваць работу, выкарчаваць з усіх нашых пастаноў і наказаў абязьлічу, — пачаў ён пасьля кашлю.—Да гэтага часу мы ў сваіх пратаколах пісалі: „выканаць, зрабіць". А як выканаць, каму што даручана, на які тэрмін— ані слова. Ці-ж гэта работа? Я спадзяюся на сакратара Новіка, Новік спадзяецца на мяне. Выходзяць толькі агульныя лёзунгі: ад гэтых агульных лёзунгаў у нас прарывы па бульбе, сіласу, сьвіньнях...

— Ужо ведаем,—махнуў рукою Баравік.—У цябе заўсёды адно і тое.

Раманчук як гэтага і ня чуў.

— Кампанейшчына нас заядае. Мы калі за што ўшчарэпімся, дык на ўсе астатнія задачы забываемся. Тры тыдні штурмавалі прарывы па падпісцы на пазыку — абмінулі другія віды фінпляну, замарозілі разьмеркаваньне прыбыткаў па калгасах, зябліва, загатоўкі. Штурманулі па будаўніцтву—застылі з камплектаваньнем. Няма таго, каб усё разам падцягваць. Адсюль кампанейшчына, апартунізм.

— Ты факты давай, — кінуў выводзіць слова „калгас" Зьмітровіч.—Крытыка бяз фактаў—ня крытыка.

— На табе і факты, — узьняў голас Раманчук. — Гарнастайчыкі з калгасу ня вытураны—адно. Зьдзельшчына і вучот толькі на паперы — другое. Спадзёўкі, што райкаапсаюз дасьць сьвіней — трэцяе. А чаго варта гаворка, што не стае рабочай сілы, калі паўсотні людзей ня выходзяць на работу!

— Яшчэ што?

— З цябе мала! А дзе сацыялістычнае спаборніцтва, ударніцтва? Дзе насьценная газэта? Тут сядзіць рэдактар Ладуцька: у яго спытай, колькі разоў на год выдае ён газэту...

Яго словы як чым вострым аж за жывое бяруць Ладуцьку. Нагнаная Зьмітровічавым дакладам, спадае ўжо санлівасьць і з другіх. Толькі адзін Баравік нікне галавою.

— Ніхто нічога ня піша,—выкручваецца Ладуцька,—колькі аб'яў вывешвалі, каб падавалі матар'ял.

— А чаму гэта ў рэвізійнай камісіі ўсё завалена лістамі ад калгасьнікаў?

— Цябе-ж лепш ведаюць. Ты жывеш тут з маленства, а я толькі другі год. Ды ў мяне з вучнямі хапае работы. Яшчэ і лікбез.

— Адгаворка! Цяпер пра каапэрацыю...

Санлівасьць мгненьнем спадае з твару Баравіка. Табурэт, на якім ён сядзеў, заенчыў напруджаным чаканьнем.

— Паі сабраны толькі на палову. Тавары ў першую чаргу атрымліваюць сваякі. Ды што тут доўга казаць: даўно ўжо трэба паставіць справаздачу сельпо аб рабоце...

У пакойчыку ўсё смагне духатою. Сакратар сельпарткому выцягвае плечы і рукі з жакеткі. Павольна асядае, тупее, жоўкне ў лямпе язык агню. Але вастрэюць адчуваньні сходу. Электрызуецца настрой.

— Мне слова!... — крычыць Новіку Ладуцька.

— Я першым пасьля Раманчука наважыў сказаць, — пераймае Бабоўскі.

— Мала хто што наважыў! Я першым прашу...

„І трэба-ж так размаляваць!“ — дзівіцца другім разам з карты „Азія“ Зьмітровіч і скоса глядзіць, як лапоча языком Бабоўскі. — „Яшчэ дзіця, сысун, а мяне, старога, пнецца крытыкаваць“!

— Я ня ведаю, ад каго гэтае залежыць, — пачынае Бабоўскі. — Ці то ад Новіка, што не патрабуе ад Зьмітровіча справаздачы аб дзейнасьці ў калгасе, ці сам Зьмітровіч ня хоча выконваць пастаноў ячэйкі. У яго — толькі слоўцы: „зробім, справімся“ і то, як націскаем ужо. А так енчыць, што ня ён вінаваты, а нейкія аб'ектыўныя прычыны. Тып апартуністага...

Зьмітровіч кідае:

— Добра, што ты вытрыманы бальшавік!

— Я ня ведаю: вытрыманы, ці ня вытрыманы, а толькі ты сарваў працу камсамольскай ячэйкі па сіласаваньні бульбяніку. Цяпер яго, змарожанага, ужо ня возьмеш у яму...

Зьмітровіч парываецца ад стала:

— Ты скажы, ты скажы: як я сарваў? Хіба я табе казаў не сіласаваць?

— Яшчэ хітрэй рабіў. Растыцкваў камсамольцаў у самы гарачы час сіласаваньня па другіх менш важных работах. А па чыёй віне згніло трыццаць коп жыта...

Ён так разышоўся крытыкаю, што не глядзіць ні вока, ні бока. Успамінае, як часьцяком заходзіць Зьмітровіч да Гарнастая, як шануе гэтага кулака. А чаму зацягваецца разьмеркаваньне ўраджаю?

Сянчук падымае раптам галаву ад зводак і запісаў. Бо дабраўся і да яго Бабоўскі.

— А якія-ж адносіны Сянчука да калгасу? Ды тыя, што думае яшчэ: „бяз прыліву, бяз суцэльнай калектывізацыі — ня справіцца з работай, не падняць калгас на ногі. Хутчэй давай сто працантаў!..“

— Адкуль ты ведаеш, што я думаю?

— Ты і гаварыш, а ня то што думаеш. Як-бы і ня чытаў пастановы ЦК ад 2-га жніўня...

— Чытаў!..

— То чаго скачаш левым бокам? Чаго хіліш галаву ў правы бок?

Дзесяць чалавек аж ня ўседзіць. Нецярпліва крычаць Новіку, каб даў слова. Гавораць Ладуцька, Сянчук, Астрэйка — старшыня сельпо, Колер, Зося Ясючэня. Яшчэ больш мутнее ў лямпе сьвятло. Але ніхто не зважае. Толькі тэхсакратар сьлепіць вочы, сморгаючы на паперы алоўкам.

Сакратар сельпарткому навальваецца на Новіка. Што гэта за выбрыкі — абыходзіць пастановы камітэту? А было-ж: і пра самаачыстку калгасу ад кулакоў і пра ўсе, якія тут закраналіся пытаньні. Ён вінаваціць сябе, Новіка, за тое, што гналіся за працантамі калектывізацыі, забываючы арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў, як цэнтральную задачу партыі на вёсцы. Навальваецца на Зьмітровіча, Баравіка.

І ў пратаколе запісваюць:

„1. Гаспадарчае ўмацаваньне калгасу павінна штодзенна стаяць у цэнтры ўвагі парт'ячэйкі. Выходзячы са спэцыялізацыі раёну, зьвярнуць асаблівую ўвагу на будаўніцтва і камплектаваньне сьвінагадоўчай фэрмы ў „Падмурку сацыялізму". На бліжэйшым сходзе калгасу паставіць пытаньне пра ўкамплектаваньне фэрмы ў першую чаргу тымі сьвінаматкамі, якія ёсьць у саміх калгасьнікаў (закупка, дабраахвотнае абагульваньне). Будаўніцтва другога сьвінарніка, поўнасьцю абсталяваўшы першы, скончыць да 10-га лістапада. Да таго-ж часу выканаць плян і ўкамплектаваньня, адначасова забясьпечваючы здачу (продаж) дзяржаве адкормленых кабанчыкаў і поўнае выкананьне ўсіх відаў загатовак і абавязковых плацяжоў.

2. Праверыць становішча са зьдзельшчынай і абязьлічкай. Прапанаваць праўленьню на справе ўвесьці зьдзельшчыну, выкарыстоўваючы брыгадныя мэтады працы. Не радзей аднаго разу ў пяцідзёнку запісваць працадні ў кніжкі калгасьнікаў.

3. Ліквідаваць абязьлічку па доглядзе за ўсёй жывёлай і ў карыстаньні інвэнтаром.

4. Поўнасьцю ліквідаваць прарыў па сіласаваньні (выканана 60 проц. пляну) за лік бурачнага націньня.

5. За паўтара тыдні скончыць выбарку бульбы, дамагаючыся поўнага выхаду калгасьнікаў на работу.

6. Усю работу праводзіць на аснове сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва. Прапанаваць Ладуцьку выпушчаць насьценгазэту не радзей, як адзін раз у тры дні. Для гэтага скарыстаць надасланыя райгазэтай макеты „За сацыялістычную жывёлагадоўлю".

7. Пытаньне пра Баравіка і Зьмітровіча паставіць асобна і перанесьці на чарговы сход, папярэдне абгаварыўшы на бюро ячэйкі. Новіку і Сянчуку, якія сваячасова не рэагавалі на прарывы ў калгасе, якія прымалі слабы ўдзел у яго арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні, абвясьціць вымову.

8. Правесьці самаачыстку калгасу ад клясава-варожых элемэнтаў.

Новік абвяшчае сход зачыненым. Але ніхто не разыходзіцца. Яшчэ больш дымяць табакаю, гудуць гаворкаю. Юрчык бярэ за рукаў Цімаха Астрэйку, старшыню сельпо.

— А ты, каб да 10-га лістапада выканаў плян паязбораў! Што гэта за бязьдзейнасьць? Хто вам дазволіў?

Яго суровы голас ніяк не падыходзіць да выразу на яго твары. Ужо так прышлося, што ў якой злосьці ён-бы ня быў, заўсёды ўхмылкай дрыжаць губы: толькі на цемі бегаюць маршчыны. Ухмылка ад параненай пры белапаляках сківіцы.

Астрэйка апраўдваецца:

— Што мы ў дваёх зробім? Я яшчэ і па ашчадсправе заняты. Грошы за бульбу, хлеб, выплачваю. Ён у краме праз увесь дзень сядзіць. Трэба, каб каго на падмогу далі.

— Няма чаго там наседжваць хваробу! Заўтра — усе па хатах. Краму на замок — і пашоў! Вось вам заданьне: пай, ільнавалакно, бульба Ленінграду, хлебазагатоўкі, сьвіньні... Толькі бяз правай практыкі і „левых" загібаў.

„Добра, што тут пра боты не гаварылі“, — радуецца нутром Баравік, які перадаў цесьцю дзьве пары з прэміровачнага фонду. — „Хай іх маланка возьме“. І думае, што-ж будзе вырашаць бюро.

Ладуцька дагаварваецца з Бабоўскім, каб напісаў у насьценгазэту пра сіласаваньне. Гэта чуе Раманчук.

— Ты ня ведаеш у каго прасіць матар'ялу. Я табе з рэвізійнай скрынкі дам. На дзесяць нумароў хопіць!

10

Гарнастаева хата стаіць на водшыбе вёскі. Блізка сядзібы зьмярцьвеў, выцягнуўшы рукі-крыльле ў маўклівай цемені, вятрак. За хатаю шырокая чарната — сад. Будынкі, гумно, хлеў, клець маўкліва хаваюцца ў вільготнай заслоне начы. Ледзь прыметна жоўкнуць у цемені завешаныя белымі пасьцілкамі вокны.

А ў сярэдзіне будыніны — напружаны шэпт. На стале невялічкая газьніца „смаркачык“. Пад стольлю гасьне ад пылу доўгай бязьдзейнасьцю белы нікель лямпы „молніі“. На абрусе — разбэрсаныя газэты — „Правда“, „Зьвязда“, „Калгасьнік Беларусі“. Увесь абшэрпаны, што ледзь прачытаеш на вокладцы, „Зямельны кодэкс БССР“. З портрэту ля вялікага насьценнага гадзіньніка старожка глядзіць Ленін. Няпрыязна маршлівіцца ад шэпту за сталом высокі лоб Карла Маркса.

— ...а калі скажуць, што дзяржаве бульбу і хлеб трэба здаваць — узьнімайце гвалт. Крычыце, што жывёла ўся з голаду скруціцца, што калгасьнікі жабракамі пойдуць ад недаедку. Вам-жа трэба і прыадзецца і прыабуцца. А з чаго вы справіце, калі ўсё падаткам і загатоўкамі будзе адвезена? З чаго?

Гарнастай аж шыпіць. Шумна дышуць высмажаныя дымам лёгкія. Рыжая барада нэрвова вытрасае на газэту запарушаную махорку.

— Бабам кажыце... Баб нагаварвайце...

Пракоп Вострык прагна абнюхвае носам розныя пахі хаты: ці ня чуваць гарэлкі? Каапэрацыя як зглузду зьбілася. Ужо другі месяц на яе паліцах ня стыне ў бутэльках агнёвая вада. Але Гарнастай: ня можа быць, каб ён чаго не прызапасіў для сёняшняе бяседы!

Вочы гаспадара туманяцца дымам ад нядобрага агню. Сухія хваткія пальцы зьедліва грабуць газэты са стала і шпурляюць у кут. Іх там нагурашчана, у перамежку з кніжкамі, як дзе ў хаце-чытальні.

— Палітыка! — хрыпіць ён сьмехам. — Калектывізацыя, ліквідацыя, умацаваньне... Паглядзі там, старая, якой скарынкі на вячэру.

Гарнастаіха хуценька злазіць з ляжанкі і подбегам ідзе ў другую палавіну хаты. Грукае там бляшанай засланкай печы, міскамі.

— Нарзану з шафы прынясі! — гулка шэпча ёй стары. — Два літары стаіць там унізе. За кубёлкам з маслам.

Вінцэсь Зьмітровіч, калгасны кладаўшчык, пачуўшы пра „літары“, лэпае шырокім языком па губах. Адно гэтае слова п'яным агнём прайшлося па яго жылах. Ён асьцярожна паварачвае доўгі, з доўгім тонкім носам, твар да вакна і колькі часу нечага прыслухоўваецца не датыкаючыся да завешанай пасьцілкі. Потым, падазрона агледзеўшы другое вакно, як-бы яно магло падслухаць важныя сакрэты, пачынае:

— Тут яшчэ з гораду нейкі вахлак прыехаў. Кажуць з-заводу. Дык ён усё вынюхвае і выпытвае.

І нізка схіліўшы да стала галаву пагрозьліва шэпча:

— Маніпуляцыі і трагедыі шукае, грамадзяне! Каб на Салаўкі каго адправіць...

Ад гэтых цёмных невядомых і таемных слоў аж трасе холадам Майсея Чубіка. Яго першы раз паклікаў да сябе Гарнастай. Паклікаў пасьля таго, як Зьмітровіч настрашыў Чубіка, што выкіне з калгасу за схаваны ад абагульваньня плуг.

— За тваё дабро цябе муштруюць. Цяпер усё гэтак робіцца, — сказаў яму у той дзень Гарнастай.

„Хай ён згарыць, гэты плужок“, — каецца цяпер Чубік: — „На якое ліха мне трэба было яго хаваць“?

У другой палавіне хаты трашчыць на прыпеку ельнік. Енчыць, сквірчыць на скавэрадзе сала. Сквірчыць голас Гарнастая:

— Паглядзім яшчэ што нам вымяркуюць. Каб па душах, дык што і прыпадзе. А так — з голаду людзі папухнуць. У каго шмат дзяцей— век з нуды і вошай ня выцерабіцца...

Цяжка дыша Чубік. У яго-ж іх, дзяцей, восьмера: самаму большаму — дванаццаць год. Які кавалак ім дастанецца, калі толькі ўдваёх рачкуюць ля работы за права на жыцьцё ўсяе сям‘і? І працуюць не абыяк, а ад цямна да цямна, ня скручваючы калгасу ні аднаго дня! Толькі плужок напаскудзіў.—Плужок, які два гады таму назад ён узяў на адработ у Гарнастая. Два тыдні хадзіла Надзя аджынаць за іржавае жалеза.

— Два гады таму назад яшчэ можна было як ліпець, — гаворыць Гарнастай, наліваючы з бутэлькі ў чаркі. — Уласьць так не націскала. А цяпер вужакаю трэба выкручвацца, каб жыць.

Ён павольна кроіць вострым нажом пульхны, прасееены хлеб. Адну лусту, другую... Мякка падаюць на абрус лусты.

„У мяне век такога ня было“, думае пра хлеб Чубік. — „І век я так ня енчыў. А ў яго што ад старога засталося, а што з млыну пацягаў“...

Глытнуў горлам горкую сьліну і толькі агледзеўся тады, што недзе ўнутры пачала нарастаць вострая злосьць да гэтай хаты, стала, людзей, якія тут жывуць. Успомніў, што хадзіў сюды адрабляць за мліва, за пазычаныя кожную весну пуды жыта.

„Да каго я падаўся?“ — назойна выкручвалася ў галаве думка.— „Чаго, па вошта?“

— Ну, дык вып‘ем! — падняў над сталом чарку Гарнастай.—Хадзі, старая, і ты сюды.

— Ага! — горача дыхнулі нецярплівасьцю за сталом. — Як гэта без гаспадыні?!

Тая залапатала з другой хаты:

— Піце, піце! Цяпер і гарэлкі не стае, каб піць бабам. Цяпер бабы ўдарніцамі, — вышчарыла яна жоўтыя зубы.

— У нас няма такой трагедыі, — засьмяяўся, плескаючы ў чарцы няўстойлівай вадкасьцю, Вінцэсь Зьмітровіч.

— Як няма? Вунь цэлая брыгада арганізавалася! І твая, Майсейка, Надзя пашла на ўдарніцу, — упікнула Чубіку старая.

— Чыя? Майсеева? — паставіў чарку на стол Гарнастай. Яго голас быў грозным, як у дапытлівага суровага судзьдзі. — Як гэтае вышла?

— Зося Ясючэня тут звадыяшкай. Норму стараецца перагнаць. Дык і другія за ёю.

— А-а-а...

Цяжкая духата садзіцца на Чубіка. Ні то злосьць, ні то вялікая радасьць за жонку расьпінае галаву.

— Вып'ем! — рашуча глытае з кілішка Гарнастай і нэрвова ганяе гузякі па сківіцы.

— Каб жыць і піць!—крычыць ад таямнічага запалу кладаўшчык.

Як распаленае жорсткае вугольле глытае гарэлку Чубік. Мяккая, белая луста хлеба і грубае ў чатыры пальцы сала, расьце палыном у роце. А ў голасе — трывога. „Кулацкі загавор за чаркай, — думае, — і я, бядняк, тут". Ён глядзіць на Вострыка. Той прызвычайнымі рухамі, як дома, сапе, прагна глытаючы ежу.

І раптам усе дапытна, у глыбокай цішыні і напружаньні ўзьнялі галовы.

Недзе далёка, за жоўтымі драўлянымі сьценамі, нарастаў тугі гул. І праз колькі часу цёмная ноч заваконьня застрэслася над хатай. Здавалася, сама зямля ажыла і заварушылася ў паветры гарачым магутным подыхам. Подых, нарадзіўшыся з вільготнага восеньскага спакою, ужо няўхільнаю бураю ішоўся паўз хату, трамцеў звонкімі шыбамі вокан.

— Трактар! — злавіўшы напружаным слыхам жалезнае выцьцё матору, выкрыў прычыну непакою Вострык. — Тарас трэцяю зьменаю зябліць іржышча.

Гарнастай, як злоўлены ў пастку зьвер, ярасна цахнуў зубамі. Глыбокія маршчыны ўпартасьці ўсхмарыліся над прытоенымі вачыма.

— Ці каб сюды тэты падшыванец не зайшоў. Выдумае, што ваду для радыятара браць трэба, — прашыпеў.

Голас Зьмітровіча скочыў па хаце заспакаеньнем.

— Гэты сюды ня пойдзе. Пайсьці — час патраціць. А ён ужо вельмі ім даражыць, каб другія трактарыстыя з нормаю выработкі не абагналі.

Гарнастай зноў плёскае з бутэлькі празрыстым вадзяным агнём, напаўняючы чаркі. Плёскае агнёвымі ўспамінамі:

— А жылі-ж некалі! Трактараў ня зналі, калгасаў, раскулачваньня. Жылі... І ніякі Тарас ня сьмеў ткнуцца праз тваю мяжу. Бо быў закон, які нябачна тырчэў над мяжою грознаю перасьцярогаю сквапным да чужога дабра. Людзям ня трэба было ведаць гэтых нормаў, зьдзельшчыны. Што хацеў, тое і рабіў на сваім вучастку.

„Лупіў з людзей, што хацеў, — думае пра ўзяты ў Гарнастая на адработ плужок Чубік. — Прыстаў быў на яго баку, стражнікі".

— Чаму ты ня п'еш? — скоса глядзіць на Чубіка Гарнастай. — Усе чацьвертае чаркі просяць, а ты гэтай ня высушыў...

Зноў нарастае ля хаты трактарны гул. Стальны подых матора трасе шыбы вокан, трасе цяжкую цішыню позняе начы.

У галаве Чубіка пачынае ўсталёўвацца спакой. Праз п'яны подых застольля, праз сьцены чужой хаты і цемень надворку адчувае ён блізкасьць Тараса, свайго швагра, трактарыстага МТС. Той, мусіць, трымаючы колца руля, не адчувае, дзе сядзіць ён, Чубік, ня думае, што за згавор у гэтай хаце.

Грукат зноў слабее. Трактар, мусіць, адыходзіць, пластуючы вільготныя шырокія скібы. Зноў находзіць холад у нутро Чубіка. „Чаго я сюды трапіў?"—дзівіцца з свае падатлівасьці гарнастаеваму запрашэньню.

— Чаму ня п'еш?—падазрона, другім разам, пытае, нахіліўшыся да яго стары. — Мо' ў камуністыя падаўся?

І сьвідрує халодным старожкім агнём вачэй. Шаруе Чубіка жарствою свайго позірку і Зьмітровіч. Толькі Вострык трасе хмельнымі палцамі чарку:

— На д д-не гэ-этт-ае чаркі па-алітыка, — блузіць здубленым языком. Глытае гарэлку і пасьля цяжка ўзьнімае на Чубіка мутную бель вачэй.

— Ня п'еш-ш-ш? Д'яблі хай цябе возьмуць такога дзімагога!..

„Яшчэ забіць могуць", — думае Чубік. — „Як тады жонка, дзеці пражывуць? І ўсё з-за плужка, Гарнастая вышла". — Ён прымае нейкае рашэньне і бярэцца за чарку.

Гарнастай хавае падазроны погляд і лісьліва кажа:

— Сала яшчэ бяры, хлеб. Еш! Гэта яшчэ не калгаснае. Ад калгасу гэтага ня мецьмеш.

Зноў налівае, абмінаючы сваю чарку:

— Стары ўжо. Не магу.

І пачынае:

— Хутка сьвіней пачнуць у калгасьнікаў апісваць. На фэрму будуць пераганяць. Чужым дабром, каб выхваляцца. А калгасьнік трасцу зьесьць..

— Ня даць! — грукае ў лютай злосьці кулакам па стале Зьмітровіч. — Не дазвалю!..

— Цішэй — шыпіць на яго Гарнастай. — Яшчэ хто падслухае.

Яго вочы набрыняюць клопатнаю перасьцярогаю.

— Ты-ж у калгасе не адзін: ня дасьць Зьмітровіч, дадуць дзесяць Ясючэняў, другія Зьмітровічы дадуць. Што ты ім зробіш? — пытае ўжо хітрыкаю свайго выразу.

— Падгаварыць трэба, — каб ня былі дурнямі, — знаходзіць выхад Зьмітровіч.

— Во—во. Вунь у другіх калгасах, казаць, чума ўсіх фэрмаўскіх сьвіней душыць. Яны так і строяць, казаць, каб народ зьбяднеў, каб есьці народу ня было чаго. Калгасы згубяць людзей. Казаць, лепш хутчэй самому забіць і напакаваць кублы, каб сьвіньні ад чумы ня выдахлі, каб яны д'яблу лысаму не дасталіся... А калі ўсё ў *іх* ня будзе ладзіцца, дык зноў мусіцьме загадаць мужыком гаспадарыць па-старому...

Сьпяшаецца стары:

— Як толькі другі сьвінарнік скончаць, дык і пачнуць сьцягваць сьвіней. Апошняе забяруць. Як сьвінарнік скончаць, — яшчэ раз паўтарае.

Ён дапытна, доўгі час глядзіць у змутнелую бель вачэй Вострыка.

— *Як сьвінарнік скончаць*...

Вострык здагадліва падцягвае плечы і ўпэўнена гаворыць:

— Ня скончаць. А калі скончаць, дык доўга не пастаіць. Як млыны...

Гарнастай хуценька тоўхае яго локцем:

— На вошта тут млыны? Я кажу пра сьвінарнік.

„Згаварваюцца падпаліць",—усё халаднее ў нутры Чубіка.—„Ну, і будзе мне за хэўру".

Хмель ня гуляе ў яго галаве. Яшчэ мала выпіў. Але каб ня прымусілі зноў, ён наганяе на твар выраз зьнямогі і п'янага задаваленьня.

„А заўтра ўсё выкрыю", — думае.

11

— Колькі за ўчарашні дзень выгналі?

— Па шэсьць сотак. Пазаўчора — пяць.

— А раней?

— Хто яго ведае. Длубаліся ўсе гуртам. Ды ніхто ня мераў. Калі на вока браць, лічыць на радох — яшчэ менш, як пазаўчора, прыпадала на выбіральшчыцу.

— І ўсе аднолькава працавалі?

Зося засьмяялася.

— Можа і не, але ўсім пораўну запісвалі — „працадзень“. Старайся, не старайся — „працадзень“. Ды і цяпер у канцэлярыі Зьмітровіч сказаў, што дзень цяпер невялікі, што больш і не запішуць.

— Хоць і трыццаць сотак? Хоць гэктар адна выбярэ?

— Выходзіць, як думае Зьмітровіч, што так.

Цяпер ужо засьмяяўся Колер. Сьмяяўся так, што ўсе жанчыны кінулі выбіраць бульбу і агледзеліся. Толькі брыгада Зосі рызыдавала работаю далёка на перадзе.

— Мае ня хібяць! — ганарліва кінула Зося погляд на сваю брыгаду—свой удалы пачын — якая дала шмат гаворкі жанчынам. Зося ўчора дакладвала аб выніках работы на сходзе камсамольскай ячэйкі і там ухвалілі арганізаваць ударніцтва па ўсіх відах работы, ня толькі выконваць, але і перавыконваць нормы выпрацоўкі.

— Цяпер трэба гаварыць яшчэ і пра дакладны вучот, — глядзіць яна на Колера дапытнаю глыбінёю вачэй. — Інакш хто будзе працаваць на абібокаў?

Яны стаяць ля насыпанага да паловы воза. Запаснымі кошыкамі Зосінай брыгады завіхаецца цягаць Новік ад жанчын выбраную бульбу. Брыль зусім зьехаў на яго вочы, але ён падпраўляе яго толькі ля воза і там, дзе бярэ бульбу.

— Так на шмат спраўней, — ківае галавою Зося ў бок Новіка.— А то пакуль прынясеш кошык, пакуль зноў прыдзеш у рады, дык можна новы напоўніць. І ён нагружаны работаю і мы больш выбярэм.

— А сёньня больш выбярэце?

— А як-жа? — як-бы зьдзівілася ад яго няведаньня Зося. — Сёньня мы раней прышлі і сёньня-ж Новік нам дапамагае. Будзе па сем сотак — ня менш!

Яна глянула на сваю брыгаду і на жанчын, якія корпаліся з-заду, глянула на туманістыя прасторы, што слаліся за полем работы. Яе вочы спахмурнелі.

— Дык-жа застаецца яшчэ пяцьдзесят чатыры гэктары! А на работу выходзіць толькі сорак пяць жанчын. Бадай ці справімся і за тры тыдні. Як-жа будзе, калі надыйдуць халады?

Яна ўяўляе сцэмантаваную марозам зямлю, пахілены чорны бульбянік, якога ня справіліся скасіць і засіласаваць.

— Што скажуць аднаасобнікі пра нашу работу? — глядзіць яна на Колера. — Што мы тады здамо дзяржаве?

Яе звонкі, малады голас бунтам трывожыць набраклы вільгацьцю дзень восені:

— А яшчэ-ж можа хадзіць на працу куды больш жанчын! Трэба толькі масавую растлумачальную работу правесьці. Зрыўшчыкаў дысцыпліны — на чорную дошку, хваліць, прэміраваць такіх, як Надзя Чубік, Тэкля. Праўленьне толькі тое і робіць, што конна загадвае, каб

ішлі бульбу выбіраць. Сядзе хто верхам, ды езьдзіць ля калгасных хат: „На бульбу едзьце“. А ў хаце, можа, нікога і няма. Можа выбіраюць бульбу на сваіх гародах...

———

Гарнастаіха пільна цікуе, што робіцца ля возу. От бяда, што далекавата: нічога не пачуеш. Але можна і ня чуўшы рабіць якія вывады.

— Вунь, глядзіце, якія ўдарніцы, — кажа бабам. Усё цяпер гэтак. Падзудзяць другіх, а самі ў бок: рабіць — дурняў многа.

Хартына, тоўстая і прысадзістая, як ступа, жонка кладаўшчыка, зьездліва капыліць губы:

— А вы думалі, што добрае выйдзе? Яшчэ паглядзіце, як далей будзе. Толькі „кося, кося“ пакуль у аглобні. Тады ўжо ехаць сьмялей можна. Хіба мецьме, што раней у мяне было?

— Будзеш рабіць, дык і мецьмеш, — злуецца з енкаў Гарнастаіхі і Хартыны паляводава жонка, Матруна. — Хто больш вырабіць, той больш і атрымае.

— Пагляджу, што табе ўжо дадуць.

— Што выпрацавала я, тое другому не дастанецца.

— Паглядзім, паглядзім!—аж крычыць Хартына. — Раней вымеркуюць у загатоўкі, у падатак, у страхоўку, пазыку, сьвіньням на фэрму, насеньне. Так што табе, любенькая, вагоны два прыпадзе жыта!

— Мне два вагоны ня трэба. Мне каб пражыць.

— Ды ўжо-ж: да сьмерці нідзе ня дзенешся. Пражывеш. А яна, галодная, мо' і да каляд прыдзе.

— Няхай туды ідзе, хто яе хоча.

— Знойдзе і цябе, такую адважную.

Вакол іх загалёкалі жанчыны:

— Выбралі пра што гаварыць! Яшчэ і сапраўды, як тыя крумкачы, што накрумкаеце!

— А чаго-ж яна, такая ўправіцелька, вучыць нас як жыць у калгасе?—згрызлася з астатнімі бабамі Хартына. — Хто гэта мае права мне ўказваць? Няхай ідзе ўказвае тым, што з Зосяю важдаюцца!

— І пайду. Я ўжо ўчора наважыла працаваць у яе брыгадзе.

— То ідзі, бяжы хутчэй!—аж застрэслася над разагнатым радам ад зьедлівасьці Хартына.—Сьпяшайся падарвацца, мо' яшчэ аднаго неданоска выенчыш...

Твар Матруны аж бялее. Яна моўчкі ўстае з радоў. Старанна, як бруд мінулага жыцьця, атрасае са спадніцы зямлю. Моўчкі бярэ кошыкі і падаецца да тых, што ідуць з работай наперадзе.

Хартына ўся аж гарыць, думаючы, чым яшчэ востра кальнуць Матруну. Бо раптам змоўчалі жанчыны-мацеркі, адчуўшы абразу і сваіх пачуцьцяў. Сьцялі губы, схавалі ў глыбіні розуму свае думкі.

— Бяжы, бяжы!—яшчэ раз шыпіць Хартына.

Матруна абарачваецца:

— А ты не разыходзься вельмі. І ты мне ня вучыцелька. Пра дзіця ўсе ведаюць: калі гаспадарылі на шнурох, тады тое было. Усе ведаюць, што ў калгасе даюць водпуск за доўгі час да радоў. А я раджала на полі, за работай, якой ты не захацела-б за мяне рабіць... Сьвіньнямі гандляваць куды лягчэй...

— Глядзіце, ваша брыгада абрастае, — паказвае колер на Матруну, якая хуценька ішла па радох.

Вочы Зосі заіскрыліся радасьцю:

— Ну, я пабягу рабіць прыёмку, — засьмяялася. — Праз дні двятры мала хто застанецца з-заду.

— Не забудзьцеся напісаць у насьценную газэту пра тое, аб чым гаварылі!

— Добра,—махнула яна рукою ўжо здалёк.

Колер дастаў папяросу і ткнуў прызвычайна ў губы. Пасьля, памацаўшы адну, потым другую кішэні, агледзеўся, што няма запалак. Успомніў, што забыўся ў праўленьні на стале. На полі яму ня было чаго рабіць і ён пайшоў пад вёску.

Блізка школы зьвінела жалезам калгасная кузьня. Ён зьвярнуў з дарогі і падаўся да яе расчыненых дзьвярэй. У прыцемкаватай будыніне гакаў па распаленым грубым прэньце Мікола Раманчук. Другі калгасьнік падкладваў на горне вугольле.

— Та-ж крукі на дзьверы сьвінарніка канчаю рабіць. Хлопцы з будаўнічай брыгады казалі, што дні праз два ўсе дзьверы для выгулаў яны мяркуюць упарадкаваць. Пакуль што іх прыцялі цьвікамі.

Колер дастаў папяросу і ўзяў абцугамі з горна вугаль.

— А ты глянь, колькі мы з Сымонам (паказвае на калгасьніка, што падкладаў вугольле) цьвікоў нарабілі. Цэлых шаснаццаць, як кажуць, кіл!

Цьвікі ляжалі ў грудзе ля дзьвярэй. Срэбрам блішчэлі завостраныя іх канцы. Блізка стаяла скрынка з тупымі ржавымі кароткімі рагулькамі.

— На ўцільсыравіну!—засьмяяўся Раманчук.—Раскалючылі ўвесь калючы дрот. Грубейшы—на цьвікі для сьвінарніка, а калючкі пойдуць на заводы. Так і выкручваемся з „вузкіх“ месц.

Ён усадзіў прэнт зноў у горан і пачаў хістаць вагар меху. Праз вузкую трубку працяжна засапло, засьвісьцела паветра. Белыя іскры матнуліся ўверх да драўлянага задымленага даху.

— Ты ўжо мусіць добра азнаёміўся з калгаснаю работаю,—сказаў ён Колеру.—Ведаеш у чым „сакрэты“ нашага росту і прычыны адставаньня?

Сквірчэла ў горне вугольле. Яно крыху падмокла дожджом і набракла вільгацьцю. Уле агонь браў верх. Парнасьцю скручвалася вада. Адзін за адным паступова распальваліся чорныя хрусткія каменчыкі. Пачалі ажываць прыцемкаватыя сьцены.

— Жыцьцё як гэты горан,—гаварыў каваль.—Распальваюцца новыя дні, гартуюцца новыя людзі, вырастаюць новыя адносіны да працы. Старое выскрабаецца, выпарваецца з людзей, якія прышлі ў калгас, што вада з гэтага вугольля. Сёнешнія дні новай упартай работы — хада ў заўтрае, хада цяжкая, але пераможная. Ты сам ведаеш, як кожны дзень мацнее стан нашай сілы. Кожны дзень дае нам новых людзей, ускрыленых ідэяю дужасьці калектыўнага адзінства.

Бушаваў агонь у горне, распаленым подыхам лізаў твар Раманчука. Ён стаяў непарушна, упэўнена ганяючы то ўверх, то ўніз вагар меху: ён даваў новае жыцьцё вугольлям, якія некалі марнелі ў карчэўі, ня ведаючы ходкай бунтарскай радасьці агню.

— Мы яшчэ часта бываем сьлепавокімі і не заўважаем тых новых устойлівых слупоў жыцьця, якія пастаўлены на пройдзенай дарозе. І ад гэтага не ўсьведамляем, як трэба, тых задач, што ўскладзены

на нас жыцьцём. Мы ўжо ня дзівімся з трактара, складанай малатарні, кіно, з таго, што восемдзесят чалавек з сотні па нашым сельсавеце чытаюць, пішуць, навучыўшыся зімнімі вечарамі ў школе, якую збудавалі за самаабкладаньне. Усё гэта стала такім звычайным і неабходным, як тэлефон для сельсавету і калгасу, каб ня драць ботаў за якімі справамі ў раёне.

— Альбо вазьмі другое. Адзетак, абутак. Мне цяпер сорак пяць год. Калі я жаніўся—было дваццаць пяць. І толькі да вясельля справіў першы раз боты, а то ўсё хадзіў у лапцях, у даматканай верхняй рубашцы. А цяпер рэдка каго, толькі з старых людзей, убачыш у лапцях.

Ён схапіў доўгімі абцугамі распаленае белае жалеза і ў шуганьні вострых пырскаў ад упэўненых удараў молату пачаў загінаць крук на завесы. Гакаў аб падатнае мяккае жалеза моўчкі. Можа разам з жалезам выкоўваў у галаве, якая ўсяго зглелзела і пеePражыла за сорак пяць год, новыя думкі, каб пераказаць іх Колеру.

Сымон прыцёг аднекуль скрынку і пачаў напаўняць яе вымагляванымі ў гэтай кузьні з дроту мінулай вайны цьвікамі.

— От узрадуецца Ясючэня,—сказаў ён, скончыўшы работу.—Яшчэ каб столькі, дык можна распачынаць абсталяваньнем другі сьвінарнік.

— Дык я ня скончыў,—пачаў зноў Раманчук, абгортваючы ў горне кароткі жалезны прэнт.—Да рэвалюцыі з вёскі Зьмітровічаў вучылася ў вышэйшай і сярэдняй школе толькі трох чалавек: сынкі млынароў. Цяпер у інстытутах і тэхнікумах трыццаць пяць чалавек. З іх—дзесяць дзяўчат, якім раней гаварылі, што іх справа кудзеля ды дзеці. А колькі чалавек у школе калгаснай моладзі! Старыя—і тыя ліквідуюць няпісьменнасьць А хто працуе ў МТС мэханікамі, калёнаважатымі, рулявымі, аграномамі? Былыя батракі, беднякі, сераднякі.

Усё гэта новае бярэцца тут жорсткім боем са старым: кулакамі, іх патуранцамі: боем са старым ладам у сям'і і асабістых поглядах асталых, несьвядомых калгасьнікаў і аднаасобнікаў.

Вось і наш калгас. Прашыліся-ж, пралезьлі людзі, якія стараюцца цягнуць нас назад, у тую яму, з якой мы вырваліся ў тысяча дзевяцьсот семнаццатым годзе. А думаеш няма ў нас такіх людзей, якія прашыліся і ў партыю. Баравік і Зьмітровіч даўно чакаюць жорсткага веніка. На сходзе ад іх пачуеш абяцанкі, а на справе—робяць другое.

— Дык-жа справу рашаюць не яны, а тыя, хто раней жыў у галечы і нудзе. Рашаюць мільёны, якія, ведаючы і памятаючы мінулае, добра ўцямілі задачы сёнешняга дня... Хто каго пераможа?—цяпер ужо відаць з перамогі сацыялізму.

Палаў агонь у горне. Залатыя іскры ішліся ўверх ад спружыністага гарачага подыху распаленых вугольляў. Прыцемкаватыя сьцены старой кузьні трэсьліліся яркім, як электрычнасьць, сьвятлом.

12

Седзячы ў канцылярыі праўленьня, Колер пісаў аб'яву пра сход.

— Мала зьбярэцца,—сказаў Зьмітровіч.

Збоку грэбаўся ў табелях Антось Дзік. Насупраць яго, разлажыўшы паперы на дзікавым стале, сядзеў Раманчук. Да папярэдняга разьмеркаваньня прыбыткаў рэвізійная камісія парашыла зрабіць

праверку маемасьці, працадзён. Заяў у папцы Раманчука было ў два пальцы грубінёю. На лістох з вучнёўскіх сшыткаў, нейкіх царкоўных кніжак і шэрых кавалачках шпалераў, адарваных мо' ад сьцяны—былі занатаваны ўсе зьявы дзён калгаснага жыцьця.

— Не прызвычаіліся нашыя хадзіць на сходы,—зноў бубніць Зьмітровіч.—Актыўнасьць вельмі слабая...

Раманчук ляскае алоўкам па стале.

— Таварыш Зьмітровіч.

— Ну?

— Вопісь маемасьці трэба зрабіць.

— Ну?

— Дык трэба яе раней сабраць. Абвясьціць калгасьнікам, каб што бралі—усё папрыносілі і папрывозілі.

Колер узьняў галаву ад аб'явы:

— А што хто браў?

Раманчук нездаволена паморшчыўся.

— Адкрыта сказаць, вялікая ў нас абязьлічка. Той калёсы браў зьезьдзіць на кірмаш, той плужок сядзібную зямлю перааараць, другі каня. І па месяцу трымаюць. Можа ўжо няма, можа ўсё растранжырылі.

— А якія меры прымалі супроць абязьлічкі, ці былі адказныя за інвэнтар, жывёлу.

— Гаворкі было і ў пратаколах праўленьня і сходу запісвалася: „ліквідаваць абязьлічку". Але праўленьне не сачыла за выкананьнем пастаноў.

Зьмітровіч як не ўзарвецца гэтымі слоўмі.

— Які ты майстар — усё на праўленьне ўзвальваць! Дзе які прарыў — Зьмітровіч вінават. Ты мо' скажаш, што Зьмітровіч павінен глядзець, дзе хто пасьля яды парожніцца?

Ён ня можа захаваць усяе свае злосьці на Раманчука і ўжо ўскочыўшы з лаўкі аж крычыць:

— Вы ўсе такія шахіры-махіры, каб другога падкусіць, хоць і фактаў няма. І я гэтак мог-бы зрабіць. Ого!

Раманчукоў твар камянее. Пальцы ўпэўнена выбіраюць з груды заяў і пісулек колькі шэрых, невялічкіх лісткоў.

— Тут адзін піша: „колькі разоў ні казаў Зьмітровічу, каб як сабрацца ды ўпарадкаваць машыны, што іржавеюць на дажджы, нічога не памагае. Старшыня адказвае, што заўтра зробім. А ўжо гэтае яго „заўтрае" ня менш як месяц. Палявод па сваёй ахвоце разабраў і злажыў жняярку, а іншыя машыны бяз догляду. За Язубчыкавым гумном радавая сеялка ў зямлю ўрасла, нехта два сашнікі ўжо скруціў. Спружыноўкі і цяпер прэюць у гразі на двары Матрунчыка. Ад калёс парасьцягана шмат атосаў. Зьмітровіч сам зьняў з калгасных калёс месяц таму назад кола і аддаў сваяку ў Бычанах"...

Зьмітровіч, як бурак. Губы аж трасуцца. Вочы зноў туманяцца ад злосьці:

— Хто гэтае пісаў? Хто адважыўся паклёп рабіць?

Ірвецца да Раманчука, каб разабраць подпіс.

Той спрытна садзіць паперку ў кішэню.

— Навошта табе ведаць, хто пісаў? Я сам ведаю, што ўсё верна. Альбо яшчэ падае адзін калгасьнік.

Ён устае і падыходзіць да вакна, каб лепш разабраць накрэмзаныя літары. Ліст ладны.

— Слухайце:

„Таварыш Раманчук. Мы, ідучы ў калгас, згаварваліся, каб працаваць добра і дружна. Мы ведаем, што праз калгас можна толькі перакроіць старэнькае, трухлявенькае жыцьцё на новы сацыялістычны лад. Каб вылезьці з гразі цемры, недаедку і някультурнасьці, што мы цярпелі раней, пры царызмах. Мы шмат зрабілі, але шмат яшчэ і засталося. Вельмі шмат...

Раманчук на хвіліну складвае ліст. На губах яго вясёлая ўхмылка. Вочы іскраць глыбокім пранікнутым сьвятлом.

— Тут далей ідзе цэлая праграма таго, што нам трэба зрабіць. Цікавы ліст. Можа варта зьмясьціць і ў цэнтральных газэтах. Піша калгасьнік. Стары. Пазалетась скончыў лікбез. Цяпер наведвае палітзаняткі. Дык цікава параўняць яго думкі з тым, як думае Зьмітровіч. Слухайце далей:

„Нам трэба вылезьці з цёмных, задымленых хат, са спрадвечным брудам і сьмецьцем у новыя, прасторныя, чыстыя дамы. Нам трэба, як і ў новых гарадох, пры новых заводах-волатах, якія адбудаваны пралетарскай рэволюцыяй, мець клюбы, кіно, тэатры, сталоўкі, ясьлі, дзіцячыя сады, спэцыяльныя школы. Такія нашы задачы.

Каб гэтага дамагчыся, трэба мець сродкі, сілу. Сілы ў нас хапае. Сродкі мы здабудзем, узьнімаючы эканамічную магутнасьць калгасу, яго таварнасьць. Уперад нам трэба ўзьняць ураджай, збудаваць сьвінарнікі, пашыраць сьвіное пагалоўе, адкармліваць сьвіней, прадаваць дзяржаве. Вось што нам павінна даць сродкі для палепшаньня нашых культурных і бытавых умоў. Нават ня толькі для палепшаньня, а для карэннай іх перабудовы.

Бо калі, напрыклад, сказаць палепшыць умовы жанчын, дык можна думаць і так: замест глінянай абліцоўкі печы, ля якой яны цэлы дзень праз ўсё жыцьцё выкручваюцца са скаварадамі і гаршкамі,—зрабіць кахельную, замест глінянай падлогі — зрабіць дашчаную, драўляныя вёдры замяніць жалезнымі. Ці-ж гэта наша мэта, ці-ж гэта мэта жанчыны калгасьніцы? Назаўсёды пазбавіцца ад гаршкоў, вілак і цабэркаў для бульбы сьвіням—вось што! Пазбавіцца праз добра наладжанае грамадзкае харчаваньне. Вызваліць жанчыну ад спрадвечнага цяжару печы, ад тлумнай цеганіны з дзецьмі ў часе работы—такі наш абавязак. Зрабіць гэтае праз ясьлі, дзіцячыя сады на першы час, або праз іншыя яшчэ лепшыя ўстановы догляду і выхаваньня дзяцей у далейшым.

Тут, як цяпер пішуць у газэтах, каторыя могуць падумаць, што я пайшоў па шляху спажывецкіх імкненьняў, нічога ня кажучы аб выкананьні абавязкаў перад дзяржавай, рабочымі ў першую чаргу. Гэта яшчэ не дае права думаць, што гэтае ёсьць у маёй галаве. Іначай, як у самым цесным саюзе рабочага з працоўным селянінам— нельга думаць пра будаўніцтва сацыялізму. Пасьпяховая індустрыялізацыя краіны саветаў зачапіла на буксір сельскую гаспадарку, патрабавала ад яе перабудовы на плянавы, сацыялістычны лад. Толькі плянавая сельская гаспадарка можа даць у патрэбнай меры сыравіну нашай прамысловасьці, прадукты рабочым, як апошнія даюць нам машыны, каб вызваліцца ад цяжкае ручное працы. У нас усё адно аднаго падцягвае да росту. Іначай і быць ня можа. Абасабленьне рабочых ад сялян і сялян ад рабочых—наша пагібель. Пагібель таго,

да чаго мы ўпарта імкнуліся праз рэвалюцыю семнаццатага году, грамадзянскую жорсткую барацьбу, шкодніцтва былых людзей, кулацкае супраціўленьне: пагібель сацыялізму. Дык каб мы былі неперыможнымі ў нашай хадзе наперад—трэба ўзмацняць саюз працоўнага селяніна з рабочым, узмацняць вытворчай дапамогай...

Санлівага Антося Дзіка пачала разьбіраць цікавасьць, хто гэта з калгасьнікаў гаворыць гарачымі словамі ўзьнятай сьвядомасьці: гаворыць з шэрых лісткоў паперы вуснамі Раманчука.

— Пакажы хоць почарк!—ня вытрымаў ён.—Я пазнаю, хто пісаў.

Раманчук дыхнуў кароткім сьмехам:

— Думаеш, розуму прыбавіцца? Наўрад! Ды хто мне даваў права выяўляць тых, хто, можа, піша пра тваю нядбайнасьць? Каб ты злосьцю кіпеў на яго?

Ён махнуў паперай. Зьмітровіч адхінуўся, як-бы яго абдало распаленым паветрам. „І тут мо' што пра мяне выдумляе",—матнуліся ў галаве думкі.

— Чытай далей,—папрасіў Колер.

Ён устаў з-за стала і цьвёрдымі, разьмеранымі крокамі пачаў хадзіць па канцылярыі. Ліст чалавека, які вырас вышэй спрадвечных законаў старой вёскі, даў новую зарадку. Ён гаварыў, што і тут, дзе ў жыцьці яшчэ шмат чаго засталося ў спадчыну ад раструшчанага капіталістычнага ладу, людзі добра ўсьвядомілі сваё месца і задачы. А з такімі людзьмі можна перамагаць, крышыць усякія цяжкасьці.

— Здаецца, ясна, — чытаў далей Раманчук. — Мэта акрэсьлена. Трэба дамагацца яе выкананьня. Штодзень, штогадзіну. Кожны дзень, кожная гадзіна, скручаныя бязьдзейнасьцю праз несьвядомасьць калгасьнікаў, праз кулацкую агітацыю — таптаньне на месцы, адставаньне. Гэта значыць, што калгас не атрымаў таго, што мог атрымаць. Гэта значыць, затрымка тэмпаў, адсюль і затрымка матар'яльнага росту новай гаспадаркі, зрыў выкананьня абавязкаў перад дзяржавай. А во і прыклады:

Бульбу мы пачалі выбіраць 25 верасьня. Усяго засеена 60 гэктар. Спачатку выбаркі і да гэтага часу ня выходзіць на працу трыццаць жанчын штодзень: тых жанчын, якія могуць хадзіць. Цяпер калі памножыць 30 рабочых рук на 18 дзён, дык выйдзе 540 працадзён. Працадзён, якіх не атрымаў калгас, калгасьнікі. Часткаю па несьвядомасьці, а часткаю па нагавору клясавых ворагаў, якія пралезьлі ў калгас, каб разваліць яго з сярэдзіны. За 18 дзён недавыбрана, калі лічыць па нормах Калгасцэнтру, 32 гэктары бульбы!..

Антось Дзік аж войкнуў ад зьдзіўленьня. Зьмітровіч моўчкі ўтаропіўся санлівымі вачыма ў падлогу. Раманчук таўхануў яго рукою ў плячо.

— Ты чуў? Трыццаць два гэктары бульбы, якія павінны ўжо быць у капцох, стыне на полі з-за паскуднай арганізацыі працы!

— Што ты зробіш, — бездапаможна махнуў рукою Зьмітровіч.— Хіба я вінаваты? Ня йдуць на работу ды ўсё.

Раманчук чытаў:

— Нават калі адлічыць з усяе жаночай грамады ўсіх, хто працуе на сталых работах (кароўнік, сьвінагадоўчая фэрма), дык на бульбу можа выходзіць усіх восемдзесят жанчын. А такім гуртам можна менш, як за два тыдні расправіцца з выбаркай, каб пасьля падцягваць і гнаць наперад другую работу. Гэты факт гаворыць, што мы не выкарыстоўваем і паловы тых мажлівасьцяй, якія ў нас

ёсьць. А Зьмітровіч енчыць, што не стае рабочай сілы. Сьмеху варта! Альбо няхай ён падумае пра мужчын.

Штодзень іх ня выходзіць на работу чалавек 25. Гэта цэлы разьдзел, які за год можа адбудаваць два сіберныя па велічыні сьвінарнікі! Якая яшчэ ў нас страшэнная трата рабочай сілы! Толькі за два тыдні недавыбрана 32 гэктары бульбы, патрачаны бязьдзейнасьцю два сьвінарнікі за лета. Так далей быць ня можа! Гэта тормаз нашага росту, росту прадукцыі калгаснай вытворчасьці, марудная хада да тае мэты, што паставіла перад намі камуністычная партыя...

Ад чаго ўсё гэтае? Ад таго, што мы слаба праводзілі масава-растлумачальную і культурна-выхаваўчую работу сярод калгасьнікаў. Гэтым пакарысталіся кулакі, якія, прабраўшыся ў калгас, няпрыметна вядуць агітацыю за развал. Хоць-бы млынар Гарнастай, хоць-бы кладаўшчык Зьмітровіч, падкулачнік Вострык і яшчэ другія. Патуранства праўленьня спрыяе кулацкай дзейнасьці...

— Усё! — раптам абарваў Раманчук. — Тут яшчэ некаторыя падрабязнасьці, якія варта разабраць у другім месцы. Няправільная прыпіска працадзён, — скосіў ён вочы на Зьмітровіча, — пакража цьвікоў з кладовай, разбазарваньне маемасьці... Шкодныя струпякі на здаровым калгасным целе.

Колер сьпешна дапісваў аб'яву. Рукі ўлэўнена і прызвычайна (на заводзе першы майстра па маляваньні) коўзаліся па паперы алоўкам.

На дварэ высьпельваўся лісьцём бяроз восеньскі пагодны дзень. За сьвінарнікам на ўзгорку ляніва махаў крыльлем млын. І толькі гул трактара быў спружыністым і прызыўным.

13

Прыбег у праўленьне старшыня сельсавету Сянчук.

— З раёну званілі пра слабае паступленьне ад мяне загатовак. Кажуць, калгасы мае не здаюць. Адказнасьцю ўпікаюць.

— Ну дык што? — абыякава спытаў Зьмітровіч.

— А тое, што табе заўтра трэба запрэгчы на дзень трактар у малатарню ды што адвезьці.

Зьмітровіч аж устаў з лаўкі.

— Таварыш дарагі! Мы яшчэ самі нічога між сабою не разьмяркоўвалі, а ня то што дзяржаве здаваць. Мы-ж не кулакі ці заможнікі, што цьвёрда стукнеш. Мы — калгас: будзе што лішняе — аддамо. Нічога пасьля фондаў лішняга ня будзе, дык і так, нядачай сойдзе.

— Але-ж табе плян прыслалі! — настайваў Сянчук, — раз прыслалі, ты яго павінен выканаць. Калгас павінен паказаць прыклад і аднаасобнікам. Была пастанова ячэйкі.

— Многа там думалі над плянам, — агрызнуўся Зьмітровіч. — Мне столькі бульбы і хлеба націскаюць здаць, што сьвіньням нічога не застанецца.

У гаворку ўмяшаўся Колер.

— Я прагледаў плян загатовак вашаму калгасу. Плян можна выканаць.

Зьмітровіч, як на гарачых вугольлях, хуценька крутнуўся да Колера.

— А што для фэрмы застанецца? Чым я буду карміць такую прорву сьвіней? Што коням даваць?

— Ён вельмі распанеў, — сказаў Сянчук. — Кожнаму каню вызначыў штодзень на працягу васьмі месяцаў даваць па шэсьць кілё аўса.

— Хіба яны табе аб адным сене будуць цягнуць?

— Вызначыў у браніроўку чорт ведама колькі дабра, — ня спыняўся Сянчук. — Тое, што цяпер далі калгасу, у якім 120 гаспадарак, некалі два дзесяткі цьвёрдазаданьнікаў выконвалі.

— Калгас не цьвёрдазаданьнік. З яго не бяруць, а ён сам дае. А што зробіш, калі няма? Ну, што, скажы? — наступаў Зьмітровіч на Сянчука.

— Як няма? — перапытаў Сянчук. — Дзе тое поле дзелася, на якім раней расло? Ёсьць! Значыць, трэба і дзяржаве даць, а ня думаць толькі пра сваю скуру.

— Бяры хоць усё! — асеў злосьцю Зьмітровіч. — Бульбу, хлеб, сьвіней. На ліха яно ўсё мне.

— Партыец так не разважае! Абавязкі перад дзяржавай трэба выканаць у першую чаргу.

— Дык бяры і выконвай! — зноў узьеўся на Сянчука Зьмітровіч. — Калі ты лоўкі работнік, дык угавары калгасьнікаў. Мне-ж ужо не давяраюць... ставяць пытаньне...

Вочы Сянчука бліснулі недаверлівай, халоднай дапытнасьцю:

— Чаму гэта ты ўпэўнены, што ўсе калгасьнікі, так, як ты, думаюць?

Яны колькі часу стаялі моўчкі, няпрыязна гледзячы адзін на аднаго. Потым Сянчук успомніў, што яму яшчэ трэба правесьці па загатоўках сход аднаасобнікаў.

— Дык зрабі тое, што я табе казаў. Ніякіх адкладаньняў і разваг. Каб нам тыдні за тры плян выканаць.

І матнуўся ў дзьверы з портфэлем.

— От табе і кал-га-ас, — чмыхнуў носам, стаячы ля стала, кладаўшчык Зьмітровіч. — Ішлі — думалі — ніякіх абкладаньняў, ажно не. Зноў цісн. Дажыліся выгады.

Ён павольна гэтае прагаварыў і аглянуўся на калгасьнікаў, якія пасьля работы папрыходзілі ў канцылярыю. Стаялі, сядзелі, дымячы махоркай. Палявод цацкаўся з табелямі ля Антося Дзіка.

— А хіба рабочым есьці ня трэба? — спытаў у Зьмітровіча Чубік. — Хто нам дае трактары, складаныя малатарні, плугі, жняяркі? Бог з неба звальвае?

— Хто тут супроць рабочых кажа, — у сваю чаргу адказаў, паглядзеўшы на Колера, кладаўшчык. — Хай сабе яны жывуць і робяць на здароўе.

— Яны твайго пажаданьня ня хочуць, — зноў прагаварыў Чубік. — Яны даюць нам машыны, крамніну і іншую дапамогу, каб мы хутчэй вылезьлі з старой гразі. А ты — „хай сабе жывуць на здароўе“. Што гэта за палітыка? Ма павінны дапамагаць адзін аднаму. Яны нам адно, а мы ім — другое: прадукты, сыравіну.

„Ці ня гэты прафэсар пісаў у рэвізійную камісію ліст? — пацее ад разгадваньня і духаты Зьмітровіч — старшыня. — Узлаваўся за плужок і напісаў“.

Дэрах Сітнік, што два разы разводзіўся з жонкай пры арганізацыі калгасу, уставіў колькі слоў:

— Тут трэба так глядзець: калі мы даем у горад прадукты і сыравіну, дык яны варочаюцца адтуль трактарамі.

Кладаўшчык перш чым сказаць аж зарагатаў ад зьедлівых жартаў, што заварушыліся ў галаве:

— Многа-ж ты выпусьціў трактараў з тых прадуктаў, што тры разы надзень пхаеш у трыбух?

Ніхто не засьмяяўся. Людзі, што прышлі сюды, знали адно: каб рабіць — трэба есьці. Няма хлеба, няма і работы: ёсьць застой жыцьця, сьмерць. Няхай будзе сабе гэта ў горадзе, будзе гэта на вёсцы. Пра гэтае жартаваць могуць толькі людзі, якія зьбіліся з глузду.

Дэрах Сітнік сказаў яшчэ пасьля няёмкага маўчаньня:

— Ты залішняе разумны. Якраз, як некалі Тарас Шчамель, думаеш. От запражы цябе ў складаную малатарню замест трактара, які зроблены для нас рабочымі, дык другое запяеш.

— А ты не выхваляйся загадзя: можа цэпам больш надзейна малаціць, як складанай машынай...

— Або перавознаю малатарняй вымалачваць чужыя засекі, — пераняў нехта ля дзьвярэй гаворку Зьмітровіча.

— І сьвінкі возам вымалачваць...

— Ці ня ў мой гарод каменьчыкі кідаюцца? — абярнуўся кладаўшчык. — Ні з кога яе ня браў лішняга.

— Усяго толькі пяць пудоў за дзень малацьбы...

— Дык, браце, фармуй сёньня брыгаду, — гаварыў ля стала Колер старшыні. — Заўтра раньнем, каб работа была. Адкладваць нельга. Дзе твой палявод?

— Дык-жа людзей няма? — пачаў выкручвацца Зьмітровіч. — Тыя на сьвінарніку, хто на бульбе, другія сена з балота цягаюць. Можа якую работу прыпыніць? — пачаў ён абыходзіць малацьбу другім бокам.

— Ого! Гэта ня выхад! Усе работы павінны праходзіць нармальна. Ты сёньня накажы, пакуль што якое, тым, якія рэдка прыходзяць.

— І заўтра ня прыдуць! — шарэў упартасьцю твар Зьмітровіча.

— Пойдуць! Зося Ясючэня пра гэтае пастараецца. Давай сюды палявода і разам падлічым колькі трэба людзей на малацьбу.

Кладаўшчык ступіў бліжэй да стала:

— А што і дзе будзем малаціць?

— Жыта ў Сідорыкавым гумне.

— А-а-а...

Ля Дзікавага стала, дзе корпаўся з табелямі і палявод, раптам зашумелі зьдзіўленыя галасы:

— Колькі, колькі?

— Хто гэта?

— Дзе, калі?

— Ды Зосі Ясючэні ўдарная брыгада.

— Ударная?

— Ага.

— Дык што там? — нецярплівасьцю націскалі на тых, што стаялі ля стала, заднія. — Хто там што вымагляваў?

— Жанкі з брыгады Зосі Ясючэні выбралі сёньня па восем сотак бульбы.

— А што з таго? Колькі гэта выходзіць, каб прасьцей?

— Па норме семнаццаць жанчын павінны выбіраць адзін гэктар бульбы за дзень. На кожную прыпадае такім парадкам шэсьць сотак

гэктару. А сёньня Зосіна брыгада перавыканала норму: кожная жанчына з яе брыгады выбрала восем сотак.

— Як другія?

— Далі меншую норму: пяць сотак.

Дапытнае напружаньне зьмянілася развагамі.

— Дзіва што можна выбраць! — гаварыў Дэрах Сітнік, скручваючы папяросу. — Гэта-ж для саміх сябе: больш зробіць, больш і атрымае. Нічога ня зробіць — трасцу возьме.

Палявод Ляўчук прашываецца да Зьмітровіча і Колера.

— Колькі трэба да малатарні людзей? — пытае ў яго Колер.

У галаве палявода адразу паўстае малюнак абмалоту. Стаіць трактар, мякка шаруючы пяньчаным пасам аб колцы: ля трактара — рулявы, адзін чалавек. Блізка аграмаднай машыны, дзе ўсё у сярэдзіне пыліць мякінай і шумна сплывае па частых сітах зярном у мяшкі— машыністы, другі чалавек. Тры жанчыны хуценька разьвязваюць снапы і падаюць чалавеку, якога зьнізу, з зямлі, відаць толькі галава: ён падае жыта ў цапы. Ужо трэба шэсьць чалавек. Чалавек пяцёх выносяць снапы з гумна...

Чатырох чалавек справяцца падносіць снапы,—крычыць ад вакна з лаўкі Чубік.—Навошта займаць лішніх людзей?

— Дзіва што справяцца! — непадкупна наглядаюць за разьмеркаваньнем рабочай сілы калгасьнікі.

— Трое скідаюць снапы з тарпы, — малюе палявод.

Кладаўшчык няпрыметна падаецца да дзьвярэй. Асьцярожна, каб не бразнула, націскае на клямку.

— Чубік няхай у цапы падае! — чуе ён ужо на двар́э клопатны гул галасоў з канцылярыі. Міма асьветленых потных вокан хлюпае ён па гразі да сьвірна.

Ключ злодзеем адшуквае ўваход у замок. Дзьверы, адступаючы ў чорную сутань будыніны, рыпаюць нездаволеньнем ад нецярплівых таямнічых выдумак кладаўшчыка. Ён камянее на каторы час, услухоўваючыся, ці не заўважыў хто яго з двара. Але ціха ўсё ля сьвірна. Толькі недаверліва мільгаціць сьвятло ў хатах калгасьнікаў, ды недзе на поўдні рызыдуюць песьняю маладыя хлапецкія галасы. Між нізкіх драўляных будынкаў прытаіўся вецер.

Кладаўшчык захінаецца з сярэдзіны за дзьверы. Там у куце, які прапах мазутаю і газай, бранчыць жалезьзем. Выцягвае і асьцярожна складае на падлозе доўгія і кароткія кавалкі грубога дроту. Адзін, два, тры, чатыры кавалкі...

Перш чым зноў замкнуць сьвіран, дапытна высоўвае галаву ля вушака і холад раптам студзіць яго распаленае таямнічым жаданьнем нутро. Блізка будыніны, якраз насупраць дзьвярэй, хістаецца чарната чалавека. Чалавек нешта мармыча і квэцае па гразі непаслухмянымі, няўпэўненымі нагамі.

„Чаго мне баяцца“, — раптам зьмяняе свае манэўры асьцярогі, — „Мала чаго магу я, як кладаўшчык, прыходзіць увечары ў сьвіран“.

Ён бярэ пад паху дрот і, вышаўшы на двор, замыкае дзьверы.

— Сто-о-о-й зла-адзюга-а!—хрыпіць жывая чарната. — Хто ту-ут без ма-ай-його даззвоолу ходзі-іць?!

Зьмітровіч, пазнаўшы п'янага Вострыка, стараецца абыйсьці бокам. Хоць і свой чалавек Вострык, але п'яны язык можа калі не паслухаецца і выдаць, што лішняе.

— Кара-а-вул! — хрыпіць той яшчэ. — Ра-а-туй-це! — і падае ад хмельнай зьнямогі ў цеста гразі.

Сідорыкава гумно. Кладаўшчык выпрамляе жалезныя пруты. Тады растыцквае іх, абмацаўшы ў тарпе снапы, за якіх дзьве хвіліны... І ідзе павольна ў бок расьцятых, уздыбленых, туманістых крыльляў млыну. Туды, дзе прыніклі да зямлі будынкі Гарнастая.

14

Глыбокія восеньскія далі пачалі набракаць сьвятлом дня. Уначы яшчэ раз пралупцаваў зямлю шырокімі цяжкімі косамі дождж. Цяпер, як пужлівае стада авец, разьбягаліся рэдкія хмары. А ў чулай цішыні гулка зьвінелі са стрэх буйныя кроплі.

Колер устаў яшчэ досьвіткам. Праснуўся тады, як пачаў абувацца ў запяку Аўдзей Канаплянік.

— Чаго вы такім раньнем? — спытаў ён, усьцягваючы на ногі боты, у Колера. — Разьвіднее яшчэ ня хутка.

— Я хочу схадзіць да Сідорыкавага гумна.

— Там цяпер ня больш трох чалавек. Яшчэ толькі ўстанаўляюць трактар і малатарню.

Ён усьцягнуў другі бот і падышоў да вядра мыцца.

— Тарас Дзюбік, наш трактарысты, ужо з гадзіну будзе, як палапатаў з машынаю на гумно. Яму і сну няма, — прагаварыў, чмыхаючы над цэбрам ад халоднае вады.

— Як у вас аплочваюцца трактарыстыя?

— Запісваюцца працадні. З нашага калгасу шэсьць чалавек выдукаваліся на курсах рулявікоў пры МТС. Нашы хлопцы і ў другіх калгасах працуюць.

— А хто ім плаціць тады?

— Запісвае дні той колгас, дзе яны працуюць. Што прыпадзе пасьля разьмеркаваньня прыбыткаў, перадаецца нашаму калгасу для разьліку.

Ён зьняў ручнік з крука на сьцяне і пачаў абціраць твар. На палку яшчэ спалі жонка і двое дзяцей. Санліва гушкалася на дроце лямпа.

— Ая-я-яй! — раптам схамянуўся Канаплянік. — Я зусім забыўся ўчора ўвечары перадаць вам ліст ад нашых шахцёраў. Яны ўжо заехалі ў Данбас і пачалі працаваць.

Толькі цяпер, заняты праз усе дні, успомніў Колер, што перад ад'ездам дабраахвотнікаў у Данбас прасіў, каб яны напісалі яму на адрас Канапляніка.

— Адзін, сукін сын, вярнуўся, — шукаючы ў шуфлядзе ліст, лаяўся Канаплянік. — Праехаўся, панюхаў, што і там рабіць трэба, ды даў драла.

— А хто, калі?

Канаплянік усьміхнуўся.

— Матрунчык. Сераднячок першага рангу, або заможнік, як мы прызываем. Ен ня вельмі што і ў калгасе рабіў. Дзень выйдзе, а два дні бібікі б'е. А там, у шахтах, мусіць, такім ня месца.

Канаплянік падаў Колеру ліст.

Ён разарваў канвэрт і раскінуў удвая складзеную паперу. „Кадыеўка, шахта № 2“ — было падкрэсьлена зьверху.

— Ну што, як прыстроіліся? — дыхнуў на Колера нецярплівай дапытнасьцю Канаплянік. — Гэты, што ўцёк адтуль, пацапень, учора ля сьвінарніка нагаварыў, што шмат рабіць трэба, што работа пад зямлёю, што есьці няма чаго. А што яны пішуць?

Пасьля „дзень добры товарыш Колер“ было:

„Дык мы сяк-так дабраліся да гэтых шахтаў. Ехалі двое сутак. У Харкаве была перасядка. Чакалі гадзін восем. Дачуліся, што распачаў работу Харкаўскі трактарны завод. Дык нам захацелася хоць вокам кінуць на гэтую аграмадзіну. Ну, дык і дзіва! Такую аграмадзіну мы першы раз бачылі. Цэлы новенькі горад выбудаваны за два гады ў чыстым полі. Вялізныя дамы для рабочых, аграмадныя цэхі. Адзін тутэйшы рабочы выхваляўся, што над гэтага заводу няма больш нідзе ў сьвеце (а той басяк, кладаўшчык Зьмітровіч, казаў, што ў газэтках нашых хлусяць. Што нашы газэткі бяруць здымкі амэрыканскіх заводаў і падпісваюць, што нашы). Трэба цэлы тыдзень, каб толькі ўсё агледзець і распытаць як усё робіцца, каб выйшаў трактар. Пры нас, за якую гадзіну самі рушылі з канвэера тры новенькія машыны. Рабочыя казалі, што гэтага мала. Павінна выходзіць адсюль 50 тысяч трактараў за год. Рабочыя сюды прышлі з калгасаў, дык яшчэ добра не навучыліся, каб даваць норму. Бо ўстаноўлены тут самыя найноўшыя, самыя складаныя варштаты. Але выпуск трактараў штодзень расьце. Працуе тут, мусіць, тысяч дваццаць рабочых.

Калі ад'ехалі ад Харкава, сустрэлі поўны цягнік трактараў, якія працуюць і ў нашай МТС („Інтэрнацыянал“). Гэта—са сталінградзкага трактарнага. Там ужо рабочыя навучыліся вырабляць як ня поўную норму. Кожны дзень сыходзіць з канвэеру больш сотні машын.

А колькі трактараў рызыдуе на палёх! Мы ўжо цікавалі з вакна вагону. Наш стараваты калгасьнік Сымон Валевіч у царскую вайну па ўсіх дарогах пацёгаўся, дык цяпер ня можа пазнаць, як усяго вырасла новага. „Тады,—кажа,—і аднаго трактара ня было, а цяпер, як некалі — коняй. Вунь, кажа, зямля калгасная (паказвае пальцам, дзе ля вялізнай сьціртэ збожжа малоціць трактар), а гэта аднаасобныя (калматыя межы і на вузкім загончыку жанчына пранікам драпсуе снапы).

На станцыі, дзе мы зьлезьлі, нас (тут ужо былі ня толькі з нашага калгасу: сышліся калгасьнікі калгасаў Беларусі, Карэліі, Украіны, з РСФСР) сустрэлі прадстаўнікі шахтаў і павялі ў чыстыя і прасторныя баракі. Мы трохі разьмясьціліся, крыху адпачылі, а пасьля пайшлі палуднаваць у сталоўку. Яда добрая. Толькі Матрунчык нездаволена чмыхае носам. Нешта яму не па нутры.

Той-жа дзень нас прымацавалі да забою, да старых рабочых. Так, добра вышла, што ўсе мы трапілі ў адну зьмену, у адну брыгаду. Нам выдалі спэцвопратку, струмант (што вугаль выдзёўбаваць) і спэцыяльны ліхтар. Старыя рабочыя адносяцца да нас добра, растлумачваюць, паказваюць, што і як. Запрашаюць да сябе. Толькі некаторыя маладыя падсьмейваюцца з нас, як навічкоў. Але мы не шманаем. Увечары хадзілі ў клюб, дзе якраз і лепшых ударнікаў прэміравалі, а на горшых наводзілі крытыку. Ну, тут і гавораць! Калі хто прашыбіў што, дык не глядзяць ні вока, ні бока: няхай сабе гэта будзе рабочы, або сам дырэктар. А ў нас выскажы што супраць старшыні Зьмітровіча, дык ён цябе і дзімагогам ахрысьціць і бузацёрам.

Сёньня злазілі (машынаю, што аж дух захватвае) у нутро зямлі. Што там людзей, машын! Адно з другім навыперадкі ідзе. З першага

разу трохі неяк няпрызвычайна быць пад зямлёю. Але калі заняліся работаю, дык ня зглядзелі, дзе мы, як мінуўся рабочы час. І бадай усю норму выгналі за гэты першы дзень! Хоць умазаліся ў чорны пыл, як чэрці. Толькі Матрунчык спужаўся лезьці ў шахту і цэлы дзень так пратуляўся недзе поверху зямлі. А цяпер кажа, што ўцячэ да хаты. Дык няхай заварочвае аглобні: такіх тут ня трэба!

Што там чуваць у нашым калгасе? Ці скончылі першы сьвінарнік? Як з выбаркаю бульбы? Ці разьмеркавалі ўраджай? Перадайце паклон усім калгасьнікам і папрасіце, каб пісалі нам, што як робіцца. Больш пісаць няма чаго. Вазьмеце толькі на цугундзер, як прыедзе, Матрунчыка, каб і там не гультаяваў. А тут толькі сораму з-за яго было"...

Колер глянуў на подпісы: як падбегам, гуляючы прыгожымі вузкаватымі, высокімі, касымі літарамі, расьпісаўся камсамолец Сьцяпан Сянькевіч. Антон Сьцяжко цьвёрда вырэзваў на паперы, карамзавата занатаваў сваё прозьвішча. Сымон Валевіч выскраб выразна толькі першую літару, а далей пабег з сярэдзіны да правага боку ліста дзіўнымі пісарскімі выкрутасамі. Алесь Шэўчык падпісаўся вялізнымі друкаванымі літарамі. Зноў прабеглася адмысловым почаркам нейчае прозьвішча... яшчэ адно, выдрукаванае...

У разгонным гуле складанай малатарні і спрунжыністым чахканьні трактарнага матора пачаў нараджацца за сінімі шыбамі вакон новы дзень. Колер спрытна садануў ліст у кішэню і, хутка памыўшыся, пачаў адзявацца.

— Мо'-б чаго нашчака перакусілі?—спытаў Канаплянік.—Я разварушу жонку. Мо' хоць малака якую шклянку паставіць.

— Пасьля,—махнуў рукою з парогу Колер.

Сухі ўсходні вецер даўно зьмёў хмары з неба. Ачысьціў неба і ўтаймаваўся. Паветра ўжо стыла чаканьнем блізкай зімы. Зьвінелі з капяжоў рэдкія буйныя кроплі. Работа ля Сідорыкава гумна гулкім рэхам ішлася між санлівых будынкаў вёскі. У цэнтры вёскі—Маскве—зьзялі агні вакон калгасьнікаў. Толькі поўдзень і поўнач яшчэ не разварушыліся ад сну. Упартасьцю дыбіўся ў вышыню расьцятым крыльлем млын.

Колер, выбраўшыся гразёю на загуменьне, пайшоў па сьлізкай ад вільгаці сьцежцы да Сідорыкава гумна.

У вызначаную ўчора ўвечары для малацьбы брыгаду ня прышло двух чалавек. Тады Чубік пабег і ўзьняў з ложку Зьмітровіча і сакратара камсамольскай ячэйкі Баброўскага. Баброўскі прышоў адразу. Зьмітровіч прытупаў ляным крокам ужо тады, як поўнаю нагрузкаю грымелі машыны. Рухлявыя цені ліхтароў маталіся за калгасьнікамі, скакалі ўверх за ўзьнятымі на вілы снапамі.

Чубік сядзіць зьверху аграмаднага ходкага стану і спрытна сьцеле па прагных жалезных дзяснах няўгаміднай машыны высьпеленыя буйныя каласы пробштэйнскага жыта. Цапы лютуюць у жорсткай расправе з ураджаем. Душацца злосьцю ад вялікіх, нераскручаных пярэвяслаў. Тады Чубік, ня спыняючы соўганьня ў бурлівае жарло каласоў, хутка паварочвае запылены твар у бок жанчын, якія стаяць на стале, і крычыць:

— Ізноў!.. Мо' хочаце барабан узарваць?

І страшыць гаспадарскім дакорам суровых шрых вачэй.

Ён тут, як камандыр на вялікім караблі, як гаспадар, што павінен глядзець, каб усё было ў парадку.

А цапы прагна глытаюць усё новыя і новыя расьцярушаныя рукамі яго, Чубіка, снапы. Дзе зраўняць гэтую махіну з бярозавым цэпам, з коннай малатарняй! А таго стальнога каня, што як гуляючы ўпэўнена ганяе пасам колцы малатарні, з чым старым зраўняеш? Усё старое адыходзіць, каб мерацца з новай тэхнічнай зброяю калектыву.

Ніхто не заўважае ўхмылкі радасьці на твары Чубіка: жанчыны за яго сьпіною распраўляюцца з пярэвяслямі снапоў. Сам Чубік асеў нізка, бліжэй да чэрава машыны, зросься з ёю, таму ня бачаць яго радасьці падавальшчыкі зьнізу. Толькі шапка яго тады-сяды, відаць зьнізу, пахісьнецца то ў адзін, то ў другі бок. Кругом пыл, але ён яго не адчувае: нейкая новая радасьць і перапоўненыя вялікай адказнасьцю і важнасьцю работы пачуцьці ўзьнімаю Чубіка. Яму хочацца гаварыць. Гаварыць пра тое, што былы галадранец, цёмны і несьвя домы, цяпер гаспадаром і махайнікам гэтае нябачанае раней машыны Ён абарачваецца да жанок, ужо другое зрываецца з губ: просьба ласкавае папярэджаньне:

— Вы-ж не забывайцеся разьвязаць пярэвяслы. А то зярно ня вымалачана будзе...

— А ты глядзі, каб рукі цапамі ня скрывяніў,—адказвае за ўсіх Алена Сідорык.—Мы сваё, а ты—сваё.

Цяпер ён разумее: яго радасьць сёнешняга раньня—радасьць ад другога яшчэ гонару. Успомніў ужо цяпер яе прычыну: учора ўвечары, калі разыходзіліся з праўленьня, Зося Ясючэня прынесла туды размаляваны плякат—„лепшыя ўдарнай брыгады“. І яго жонка была першай, дала самую большую норму выпрацоўкі! Дык няўжо ён, мужчына, адстане? Будзе за работу хлеб, ажывуць яны тут!

Раптам яго твар робіцца жорсткім, вочы, як непраніклае для сьвятла шкло. „Гэтаму рабочаму, Колеру, скажу пра кулацкі загавор,—думае.—Добра, што я туды трапіў. Цяцер усе будуць ведаць пра іх махінацыі.

Ён наракае на сябе, што не зрабіў гэтага раней: злавіў-бы дзе аднаго, ды выдаў варожыя сакрэты.

А рукі спрытна тасуюць усё новыя і новыя снапы. Пальцы прызвычайна ўжо (трэці раз верхаводзіць ён тут) снуюць між каліў. І мгненьнем халаднее, стыне страхам усё яго нутро: нешта халоднае жалезам сьлізганулася між палцаў у барабан!..

Глухою, тупою злосьцю заскрыгаталі цапы, пас колькі часу шумна шараваўся аб колца малатарні, потым злаўчыўся крануць з месца. Нешта жалезнае абарвалася з сярэдзіны і абсмаліла празьмернай гарачынёю болю ўвесь яго твар... Цемень нябыцьця мяшком абсадзіла цела...

Жанчыны, як напалоханыя невядомай таямнічай прычынай авечкі, боязна затопалі па стале.

— Трактар!—закрычаў Колер.—Спыніць трактар!

Ён навыперадкі з трактарыстам скочыў да машыны. Матор чахнуў гарачым напорам стальных лёгкіх яшчэ колькі раз і прыціх.

— Што там такое?.. Што?..—пачуліся трывожныя галасы.

— А-я-яй!—енчылі на стале жанчыны.—Майсея забіла! Ай-я-яй!.

— Няжывенькім ляжыць!..—тонка пачала цягнуць адна з іх.

З гумна выбег, цягнучы па зямлі каласамі сноп, з жалезным тонкім прутом у руках, Дэрах Сітнік.

— Во, дзе падкоп! Во, дзе падкоп!—грымеў ён усхваляваным голасам, трасучы сьцятым у пальцах прутам.—Жалезнымі вілкамі абмацаў у снопе!..

Але яго ніхто ня слухаў. Увесь ніз людзей рынуўся з усіх бакоў па колцах і плінтусах малатарні ўверх, туды, дзе здарылася нешта. Алена Сідорык скруцілася на руках з малатарні і як утрапёная паімчалася да хаты Чубіка.

— Зьмітровіч, падводу!—коратка і рэзка кідаў зьверху Колер.— Мякка выслаць сенам!.. У бальніцу!..

Твар Чубіка сыходзіць крывёю. Цела трасуць дрыжыкі. Чатырох чалавек моўчкі спушчаюць яго ўніз, дзе другія моўчкі бяруць на рукі.

— Падводу рыхтуй!—аж дрыжыць гневам увесь твар Колера калі ён заўважыў, як Зьмітровіч зьбянтэжана топчацца ля малатарні'

Напалоханым зайцам той кідаецца да канюшні.

— Занесьці ў бліжэйшую хату. Адзін няхай бяжыць на канюшню' каб ведалі, куды пад'яжджаць.

Яго гаворка—нязвычайна кароткія стрэлы ў напружанай думкамі цішыні восеньскай раніцы. Ужо даўно няпрыметна адступіла цемень начы. Яркім сьвялом сонца зьзяе небасхіл на ўсходзе. Толькі сагната ўхмылка з твару малацьбітоў. Туляцца ў плечы бядою галовы. Ненавісьць да гэтага выпадку гузякамі ўзрасла на сківіцах, пад шчокамі Ляўчука, палявода. Злосьцю дрыжаць тонкія губы ў трактарыста Тараса.

Маўкліва, як на пахаваньні, ідуць, няёмка ўзяўшы на рукі бязвольняе цела Чубіка, ад гумна. Ідуць павольна. Толькі цяжка сапуць, стараючыся не глядзець на заліты крывёю твар. Чубік раптам варушыцца і нешта шэпча, ні то ціха клякоча горлам.

— Будзе жыць!—сьвятлее Колераў твар.—У бальніцы зноў моцна паставяць на ногі. Яшчэ якім ударнікам будзе!

Ён хоча ўзьняць настрой тых, хто ўзгадаваўся разам з Чубікам, хто, можа, думае, што і з імі магла такая бяда выйсьці.

— А я прэнцік узяў, — глуха гаворыць Сітнік і як за хвост разьюшанай гадзіны, з агідай трымае за канец тонкае халоднае жалеза.

Агнём матнулася ў галаве Колера думка. Ён ужо не гаворыць голасам, а моцна шэпча:

— Бяжы да малатарні! Пашукай, чым дало Чубіку па галаве. Ад малатарні, пакуль я прыду, не адлучайся. І Тарас няхай там застаецца.

Сітнік паслухмяна подбегам варочаецца да малатарні.

Як у патрывожаным вульлі заварушыліся, загалёкалі жаночымі і мужчынскімі галасамі сярод шэрых будынкаў. Загрукалі дзьвярмі хат, варотамі. З хаты ў хату, з аднаго канца ў другі ішлося: „забіла малатарняю Чубіка".

І ад хаты яго, з енкам, са стогнам, праз лужы, гразь і платы гародаў бяз хусткі, з разбэрсанымі валасамі імчалася жонка. З ёю плойма жанчын, устрывожаных, як напалоханае шашком стада курэй.

*(Далей будзе)*

Пятрусь Броўка

## На пагрузачнай

Сонца жоўты камок
піў балотную вільгаць,
узьнімалася пара
ад тлустай зямлі,
ды зьбіраліся хмары
як паводкаю крыгі
вечаровае поле
дажджамі заліць.

Мы-ж насілі кашы
пакаваныя торфам
з-пад нажоў фрэзэроўкі
на каменны пэрон —
насыпалі вагонкі
аж па самы коптар,
і пускалі па тросу
на яду бункяром.

А за гоні ад нас —
праз кусты і лагчыны,
дзе сьвяцілася неба
з кавалкам антэны:
Забаўляла гармонікам
свой адпачынак
каля новых баракаў
апошняя зьмена.

І да нас далятала.
З-за далёкае вербы
пераборы баяна
гаварылі на яць:

Сэрбі... С'эрбі...
С'эрбі-яна...
С'эрбі'яначка-а...
ма-я...

І здавалася нам
мы цягалі кашамі
Ськібы сонца і торфу,
бо пякло гарачэй —
Мы дарылі жыцьцю
маладосьці экзамэн,
каб пылала яно
як мага ярчэй.

Таму сьведкаю трос,
па якім нясупынна,
быццам чорныя гусі
праплывалі ракой —
беглі з торфам вагонкі
і круцілі машыны
перайшоўшы агні —
электрычнай рукой.

З нас лілася вада,
што завецца потам,
ды сьвяцілася соль
на плячох у нас.
А над лесам раўлі
пяруны і грымоты
раскідаючы полем
шалёны бляск.

Вось тады падышла
камсамолка Ганна
і сказала:
Андрэй!
падавай руку!

Навальніца пужае
нас
вельмі рана,
а работы у нас
яшчэ цэлы кут.
І тады, хоць вятры
узьнімалі віхор,
ды пляваліся кроплямі
дробнага ґраду —
Мы насілі кашамі
фрэзэрованы торф
і ударна спрачаліся
нашы брыгады.

Мы ня ведалі працы
упартай такой,
нават кожны кашулю
ад сябе адкінуў: —
Каб як чорныя гусі
праплывалі ракой,
беглі нашы вагонкі
да матораў машыны.

Мікола Хведаровіч

# Шчырыя словы байца

*Макару Пасынку.*

Сустрэча

Дружа!
З якое плянэты,
Армейскае шчасьце...
Ён!..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

... Ноч, кулямёты,
Даждж ом ракеты,
Страх,
Сьмерць,
Звон...
Дружа!
Сустрэча такая,
Сэрца агнём
прайме.
Была пара
баявая;
Дождж,
Агонь,
Сьнег...
Помніш,
блiснуў клiнок,
Помніш,
Крыві струмок,
Помніш,
Вады глыток—
І зноў
У апошні бой,
І сэрца
грыміць трубой,
Строй,
падпірае строй...
І мы,
мы, Макар, з табой;
Сёньнячы мы—
Сталінстрой,
Сёньнячы мы—
Днепрастрой,
Сёньнячы мы—
Вахшстрой,
А заўтра мы —
Гомельстрой,

І заўтра—
За гмахам,
гмах,
І заўтра—
за дахам,
дах,
Сёньня мы, дружа,
з табой,
Фабрык узводзім
строй.
Пот-жа
і кроў байца,
Гэта,
мудрэй сьвінца;
Кожная кропля—
даль,
Кожная кропля—
сталь.
Сталь-жа—
халодны штык,
Кожны баец—
бальшавік.
Толькі байцу
ня спаць,
Трэба байцу
відаць!
Там—
дзе кроў і пот,
Гмахі
вялікіх работ,
Справы
вялікіх турбот.—
Трэба байцу
ня спаць,
Мусіць баец
відаць!
Точыць вораг штылет,
Шкоднікам ходзіць шкет,
Зданьню вайны шкілет,
У здрадзе дрыжыць сусьвет.
Хай-жа
тварцы спакус,
Толькі
падымуць руку!—
Будзе атак сьвінец
Нішчыць прыгнёт векавы,

Будзе чырвоны баец
Волі свае вартавым.
Бо кожная
кропля крыві,
Гарачага поту
байца;
Гэта—
жывы бальшавізм
Гэта—
камуны сьцяг.

---

Мікола Хведаровіч

## У паход...

Так,
запахла вайною,
Порахам
пахне вясна.
Дружа,
рыхтуеш зброю,
Кажаш,
— сядлаю каня.
Кажаш,
— махра ў кісеце,
Жальбай
галосіць дом,
Вецер,
Армейскі вецер,
Чуеш
Армейскім нутром.
Я сам
яго
адчуваю,
Як сырасьць
асеньніх дарог,
Як жыўнасьць
паходнага чаю,
Як боль
намазоленых ног.
Хіба-ж
народзіць трывогу,
Трубы
набалелы марш?
Хіба-ж
мы крочылі
ў ногу,
У буднях работы
дарма?
Мы зноў
у адным эскадроне,
Разьведчыкі —
Першай рукі,
Віхрастыя
Ўзмылены коні,
Ў запале
Грызуць муштукі.

І першым
            Армейскім загадам,
Нам
      новае шчасьце каваць.
Шануйма-ж
            старую брыгаду,
Дзе лёгка
            сьпяваць
                  і ўміраць...

. . . . . . . . . . .

Чую,
      запахла вайною,
Крывавы кішыць
                  карагод.
Дружа!
      Гатова зброя,
Конь асядланы —
                  У паход!

---

Ян Скрыган

# Каця Лапянкова.

1

Вот: паглядзець на іх, і якою мэтафізычнасьцю робіцца тэорыя зьнявагі асобы. Ён прыгнуўся каля яе—разам з ею—над апокамі, над люшніцамі, над ланцэткамі—над чорнаю фармовачнаю зямлею. Ён блізка прысеў каля яе, і гэта здаецца лірыкаю. У іх мабыць нейкая цёплая інтымная гаворка—дружба. І яму мабыць нялоўка за сваю гэту няўчасную дружбу—ўзяўшы ад Каці ланцэтку ён водзіць ею па зямлі.

— Ня цяжка?

— Не. Гэта як мне былі далі буйныя дэталі, дык тады цяжкавата было. Зафармуеш, бывала, а апоку ледзьве павернеш. А гэта нічога.

— А з бракам як?

— А з бракам горш,—Каця гаворыць не перарываючы работы. Яна бярэ ў Белазерскага ланцэтку і згладжвае крайкі зьлежанае зямлі, адкуль толькі што выняла мадэлі.—З бракам горш. Я ўжо была дайшла да таго, што ні давала бадай што нічога, а гэта зноў падымаецца.

— Дык чаму-ж гэта?

— А гэта таму, што ў мяне цяпер вучні. Вось бачыш?—яна паказвае на шар апокаў, што канцамі ўпіраюцца ў сьцяну,—гэта работа прымацованых да мяне вучняў. Ну, у іх і брак пападаецца. А раз гэта вучні мае—то і брак ідзе на мяне.

Белазерскі на трошкі маўчыць. Ён глядзіць перш на Кацю, адале апускае вочы і, нешта пра сябе думаючы, сунімаецца на Кацiных руках. Рукі доўга абхарошваюць земляную мадэль і толькі тады, калі канчаюць яны сваю работу, Белазерскі перарывае думку.

— А як з Мурашоваю?—гаворыць ён ізноў, і пальцы шукаюць каб чым-нёбудзь заняцца.

— І тут няважна. Я яе выклікала на сорак адну апоку. Ну і зрабіла-б сама лёгка. От глядзі: да двух гадзін я зафармавала трыццаць шэсьць апокаў, а на больш не хапае рам. І гэтыя па ўсім цэсе зьбірала.—Дастаючы памачок, Каця прыгнулася так, што ледзь не націснула на апоку. Асьцярожна падымаючыся, каб не зачапіць фармоўкі, яна зьнячэўку пахіснулася на Белазерскага. Белазерскі падтрымаў малюсенькім дотыкам, і можа ад гэтага ёй захацекася паправіць хустку, прыбраўшы са шчакі невялічкую плойку валасоў. На трошкі Белазерскаму відзён быў яе профіль—тонкі, сур'ёзны—і тэю-ж сур'ёзнасьцю астаўся зьнячэўку кінуты ад нялоўкасьці пагляд. Але яна зноў кагнулася над работаю і зноў загаварыла, так, як-бы не перарывала гаворкі.—Ад гэтага сёньня і ўмовы ня выканаю. Але от я перайшла на іншыя дэталі: ня там, дык тут, а вазьму. Толькі нядобра, што даводзіцца так раскідацца...

Белазерскі яшчэ доўга астаецца нагнутым каля Каці. Гэта здаецца лірыкаю. Але гэта—самая простая чалавечая чуласьць і цяплынь. Каця—лепшая ўдарніца па фармоўцы ў ліцейным. І ня зайздрасьць, ня кпіны аякружваюць Кацю. Яе абкружвае чалавечая чуласьць. Вось ён, Белазерскі — сакратар парт'ячэйкі— у канторцы

ў Агранята ўгледзеў, што ў Кацінай графа падымаецца брак. І нават у часе работы ён ня сьцярпеў, каб ня прыйсьці і не даведацца што ў гэтым прычынаю. Можа што перашкаджае, можа памагчы трэба? Ня лірыка, ня інтымнасьць, а—чуласьць у праве на асобу.

Каця нават ня ведала, што ёй памагаюць у гэтым праве. Вось ён прыйшоў і нагнуўся над ею, каб распытацца, у чым Каці патрэбна пасобіць.

— ...Апокі?

— Ну пэўна. Здавалася-б дробязь. А дзе от іх возьмеш? Бегай па ўсім цэсе, шукай. І няма. А тады і спаборніцтва як сьлед ня ўлічыш... Давялося перайсьці на іншыя дэталі.

— Дзівачка. То ты-ж бы прышла дый сказала. Памаглі-б. А то што-ж—аднаму бывае і не асіліш няўпраўкі. Тое самае і з вучнямі. Чый брак, таму трэба і запісваць. Кожны за сваё павінен адказваць. А то што-ж—абязьлічка? От бачыш? А ты і ня скажаш... Дзівачка.

Каці добра адчуваць такую харошую беражлівасьць. Ад гэтага хочацца нешта сказаць, але словы ня выходзяць і, ад налоўкасьці, мелькам зірнуўшы на Белазерскага, яна папраўляе на шчаках хустку, як-бы там зноў выпалі няпрошаныя плойкі валасоў. Нагнуўшыся зноў яна ўжо ня бачыць, як устаючы Белазерскі сабраў увесь нараскіданы ею ў рабоце струмант, і паклаў каля яе напашэве.

2

На біржы далі пісульку. На заводзе з пісулькаю паслалі ў цэх, сказаўшы да каго зьвярнуцца. У канторцы Каця застала нейкіх людзей. Людзі талкавалі, спрачаліся, пальцамі паказваючы ў сьпісаны аркуш паперы. Каця запомніла, што гаварылі пра чыгун і пра лічбы. І яшчэ запомніла: непадатліва спрачаўся невялікі, з шырокім тварам і губамі чалавек, гаворачы цяжка, як няўмеючы і, то насоўваючы, то назад адкідаючы шапку. Пасьля яна дазналася, што гэта быў начальнік цэху. Калі вышлі мужчыны, Агранат заўважыў яе.

— А ты-ж чаго хочаш, дачушка?

Каця паказала пісульку.

Прачытаўшы, Агранат зірнуў на Кацю і, ад таго, што ён рыўком адкінуў назад шапку, Каці запомнілася белая незагарэлая палоса ілба.

— Ну, і малайчына... Нідзе не працавала да гэтага? — запытаўся Агранат, гаворачы па-свойску, так, як-бы ён даўно ведаў Кацю.

— У брылеўскім калгасе.

— Не — на вытворчасьці?

— Я працавала ў пральні... бялізну мыла, — паправілася Каця і, ня ведаючы ці так адказала, зашчыпала пальцамі стол.

— А так, на заводзе — не?

— Не.

— Ну, нічога, навучымся. Хадзем-жа я цябе і завяду,—і ён зноў неяк па-свойску ўзяў за плячо.

Цэх Каці здаўся страшным. Фармоўка. Ніколі ня бачыла. На ўсю залю — чорная пухкая зямля. Па зямлі шныпарацца людзі, поўзаюць набіваюць ею нейкія формы. І можа ад зямлі — і цэх, і формы, і людзі здаліся чорнымі. І над усім—маўклівая глухая работа. Мелькам яна заўважыла, як, нізка прыгнуўшыся над формаю, нейкі чалавек абхарошваў земляную дэталь. Якая вялікая патрэбна асьцярога ды

ўвага. Яна ніколі не навучыцца такой тонкай рабоце. Можа адмовіцца ды пайсьці дахаты?

Але нейкі новы чалавек вядзе ўжо па цэсе.

— Мы вас прымацуем да харошага хлопца... Навучыць, нічога,— як-бы дагадваючыся пра Кацiну думку, гаворыць новы чалавек.

— Малеў! — абзывае ён яшчэ здалёк.— Вось табе памочніца. Навучай і не давай нудзіцца.

Каця таксама нагінаецца і глядзіць за Малеваю работаю. У чыгуннай раме шчыльна набіта зямля. Малеў здымае з рамы цяжкую накрыўку і ў зямлі відно, як ляжаць мэталёвыя мадэлі. Каця ня ведае навошта і як гэта робіцца. Адкуль тут пачатак? Але Малеў, таксама, як-бы разгадвае Кацiны думкі, і тлумачыць.

— Гэта робіцца так... Цяпер трэба асьцярожна павымаць мадэлі і ў зямлі паастаюцца формы. Уся гэта рама з зямлею—апока. Наверх пакладзецца такая самая апока з формамі, але так, каб кожная палавіна формы супала. З боку вось — вушкі. Наклаўшы, трэба моцна заклінаваць вушкі, чокамі — зачыкаваць. Клінаваць асьцярожна, каб не здрыганулася зямля. Зьверху вось робіцца дзірка-літнік. Яна пападае ў пустое месца — у формы, і праз яе залівацьмецца чыгун. Чыгун у сярэдзіне апокі разьліецца па формах, застыне, а калі яе пасьля разьняць, дык на месцы формаў будзе вось такая-ж дэталь, як гэтая мадэль.

Чутачку набіваючы, Малеў асьцярожна вінтом дастае мадэль з зямлі. Адну, другую... і ў роўнай раме апокі астаюцца формы. Пасьля беражкі ён папраўляе маленькімі жалезнымі лапатачкамі. І там, дзе беражкі парушылі сваю шчыльнасьць — змочвае вадою.

— От так, вымаючы, бывае, што зямля дзе-небудзь падымецца або расьпіхнецца. Тады яе трэба паправіць одэтаю ланцэткаю ці кручком. А каб зямля была тужэй, дык яна змочваецца памачком, тады яна ня так абсыпаецца.

— А навошта парашок? — пытаецца Каця, гледзячы, як увесь верх апокі пасыпаны белым мучнаватым пылам.

— Гэта лікаподзі. Парашок такі—праўда. Ад яго тужэцьме зямля і, калі накласьці верхнюю форму, дык зямля верхняе апокі ня прыставацьме да ніжняе. А яшчэ і тое, што, калі будзе залівацца чыгун, дык лікаподзі выгарацьме, даючы магчымасьць выходзіць чыгуннай пары.

Каці здалося, што яна ніколі не асіліць гэтага. Вырабіць з зямлі дэталь такою, каб у яе пасьля залiваць чыгун? Гладзіць, абрэзваць, баючыся, каб не скранулася з месца ніводная драбніца? Ведаць што для чаго? Не, у яе ніколі ня зложацца рукі, каб так сьмела, як воскам, валодаць зямлею, адрэзваючы і прыкладаючы яе скібкамі.

Але, праз пару дзён падыходзіць той самы чалавек, што аддаў яе Малеву. І Каця ведае ўжо — гэта брыгадзір Пераплётчык. Ён нагінаецца і глядзіць, як нясьмела ходзяць Кацiны рукі. Яны баяцца, каб не разбурылася ад неасьцярожнага дотыку зямля. І струманты неяк ня слухаюцца: выпадаюць, чапляюцца за кожны замятак. Яна ніяк ня можа добра абрэзаць лішняга бугарка, што як накепства аціснуўся ў форму. Пераплётчык памагае і кажа, што вельмі добра. За такі невялікі час і такая складнасьць. Дзе-ж складнасьць, калі яна катора пара як марудзіць над аднэю дэталяю? Але ўсё-ж падымаецца ахвота. Каця раптам верыць Пераплётчыку, што можа яна і папраўдзе сама сябе занадта гудзіць? Пераплётчык пайшоў, і ў Каці сьмялей

захадзіла ланцэтка. Не, праўда—яна такі моцна трымаецца, гэтая зямля!.. А яшчэ праз дзень, Каця сьпяшалася, ледзь ня бегла дахаты—ёй далі самастойную работу і за дзень яна зрабіла шаснаццаць апокаў. Хацелася хутчэй рассказаць дома, што яна ўжо сапраўдная фармоўніца. І якою доўгаю зрабілася тады вуліца Сьцяклова—ніяк не дабегчы дахаты.

3

Аднойчы ў Каці разбалелася галава. З дому яшчэ, ідучы на работу, яна была цяжкою і шумела як жорна. У гэты дзень ня спорылася работа. Рукі хадзілі вяла, ападалі, і, здавалася, як ніколі ня слухаўся струмант. На перапынку Каця ня вышла, як заўсёды, з дзяўчатамі на двор. Асталася ў цэсе каля свае апокі. Не хацелася, каб бачылі яе непатрэбнае вяласьці.

Суседка па рабоце, Мурашова, заўважыла і падышла:

— Замарылася мабыць?

— Не, так проста, нездаровіцца.

— Дзіва што. Бо дурная.

— Чаму?

— Так робячы як ты, і ногі выцягнеш.

— А, не—гэта не ад работы. Проста, так сабе.

— Так ды ня так. Што я ня бачу? Я гляджу за табою: вельмі-ж ты ўжо прыткая. Бярэш, як агнём гарыш. А так доўга не пацягнеш. Ужо от „нездаровіцца“, а што-ж, калі гады колькі так?

— Ай, кінь ты, — Каця зашпіліла рукаў і, як-бы не пра гэта думаючы, пагладзіла лоб.

— Дурная. Быдта я яе ад чаго адгаворваю. Я толькі кажу, што няма куды гнацца. Век вялік — напрацуешся яшчэ. А мне, проста, шкода, што ты не шануеш сябе.

— Як-жа гэта шанаваць? Працую як усе, і толькі. І ня думай, што я цягну над сілу.

Каця зноў пагладзіла лоб. Мурашова паглядзела на яе і ўпяршыню заўважыла: каля губ у яе закруглілася танюсенькая маршчынка.

— Узяла-б бюлетэнь.

— Ды я ня хворая, кінь ты.

Суседка памаўчала. На локаць прылягла і завадзіла пальцам па доле. Адале загаварыла, ужо далоньню згладжваючы ямкі.

— Усё роўна ў нас аднакія дэталі: давай разам рабіцьмам — і табе і мне лягчэй будзе.

— Давай, — згадзілася Каця.

З гэтага дня Мурашова завязала дружбу. На рабоце неўзаметку расказвала пра сябе. На перапынках далёка заводзіла ў сад і, качаючыся ў траве, выцягвалася на сонцы поўнымі грудзямі.

— Хлопцы любяць цябе?—і не чакаючы адказу сама гаварыла.— Мяне—любяць. А ведаеш, Каця, ты ўсё—адна... Давай увечары паедам на Мельнікаў луг. Любата! Пакупаемся. На лодцы паезьдзім... Будуць хлопцы — далёка ў лес зойдам, знаеш? — туды, на той край. Трава якая — схавацца можна. Глушэча... Давай!

І разам з дружбаю Каця заўважыла, што ў яе пачаў падымацца брак. Яна ня можа даўмецца, адкуль-жа бярэцца гэты брак, калі з кожным днём яна ўсё больш лоўчыцца? Пераплётчык пытаецца, чаму гэта, але хіба-ж яна ведае?

— Сама ня ведаю. Здаецца раблю так, як і заўсёды. Нават яшчэ больш прыглядаюся, і от... ня ведаю...

Нават брыдка перад іншымі стала ў брыгадзе. Нават дахаты прыходзіла моўчкі і было нядобра, калі распытвалі, чаго прысьмірэла.

А Бабічаў наважыў арганізаваць жаночую брыгаду. Узяў Кацю. Суседкаю стала Ладыгіна. З новаю дэталяю асвойталася хутка. Ладыгіна не дакучала дружбаю і ўся брыгада ўзялася за работу дружна, так, каб не адстаць ад мужчын. Бабічаў падыдзе, пагаворыць, запытаецца.

— Ну, як?

— Не паддаёмся.

— Гэта добра, але за бракам трэба глядзець. Па брыгадзе яшчэ дзевяць процантаў. Гэта многа. Хаця-б да двух зьменшыць, каб даць нават на процант і менш таго, што палагаецца.

Падышоўшы да Каці Бабічаў прысядае і, ведаючы, што Каця засаромяецца, гаворыць так, каб ня чулі другія.

— А ты малайчына. У цябе ўжо толькі каля двух процантаў.

— А чаму-ж з Мураш... — хоча запытацца Каця, але абрываецца і, па нахмураным ілбе відно, што нешта ўспамінае. Так, ёй расказалі. Яна і сама пра гэта была дагадвалася.

— Нічога...

Паводле нормы ТНБ на дзень трэба дваццаць восім апокаў. У кожнай апоцы чатыры дэталі. Сто дванаццаць шасьцёрак. Каця даўно перакрочыла норму. Брак дайшоў да нуля. Цяпер Каця ўжо дазналася, што тады Мурашова запісвала свой брак на яе, і выклікала Мурашову на сорак адну апоку.

4

Уночы ішоў дождж, але зраньня ўжо паказвала на добрую пагоду, і цяпер дапякае сонца. Ад гэтага асталася здаровая сьвежасьць. Пыл змыўся, прыбіўся і заводзкі двор выглядае як-бы большым, чысьцейшым, прыбраным. Наводшыбе, вымытым зяленівам, здаецца, нават, памаладзеў сад. Ад саду, ад зяленіва нясе сьвежасьцю, пахам, падмяняючы прывычную мэталёвую сінь і ваграінкавы гар. Сонца падае ў сьвежасьць здаровым прыпёкам, ад зямлі падымаецца сытая вільгаць—і добра ўбіраць у сябе гэтую сытасьць грудзямі.

На перапынку рабочыя выходзяць на двор.

— Любата! От каб цяпер на Сож, ды на Мельнікаў луг.

— Ыч, чаго захацеў. А вечар тады дзе дзенеш?

— І вечару даў-бы спосаб. Угга!

— Ды відаць, што ты выцягнуў-бы... Дай сесьці.

Галалобы хлапчына, выпучыўшы грудзі, фізкультурным гэстам тузануў разы пару ўгору рукамі і, даючы месца, пасунуўся на дысцы. Насупраць паўрымшчваліся на парожныя тары. Рашпільваючы грудзіну нехта ўлёгся на дылі. Выходзячы з цэху, нейчы голас адчайна рвануў „гоп са смыкам“, але сарваўся, і на яго месца лінуўся ахапак дружнага сьмеху. Выпіхаючы сьпявака „гоп са смыкам“, выскачылі дзяўчата.

— Ыч, якая рэзвая мая каманда,—сядаючы на спарожненае месца, жартуе Бабічаў.—Папробуй, займіся з імі.

— Я бо то, што Бабічаў і сам нешта за апошнія часы падпраставўся. Аж яны мабыць і яго цугуюць?

— Але, аж памаладзеў, проста сьвеціцца—во што значыць жаночы начальнік.

— Дык ад таго-ж і прамфінплян нешта стаў падгаджваць. Пераплётчык пераганяе,—абзываецца голас з тары.

— Хто гэта? Голубеў? Э, браце, ты хаця мяне дагані,—махаючы рукою і жмурачыся ад сонца гаворыць Бабічаў.—Пераплётчык пераганяе, гэта верна. Але-ж ён пераганяе не таму, што я спушчаюся ўніз, а што стаю на месцы, не ўцякаю. А ўцячы думаю, але вось...

— Верна!.

— але вось ты чаму так астаўся?

— І я пераганю. Вось укамплiктую як сьлед брыгаду—і пераганю!

— Во! А то хіцёр—забраў ад мяне самых лепшых работнікаў, і цяпер сьмяецца. Ну вот: Зайцава ў цябе, Ладыгіна ў цябе, Лапянкова ў цябе—ды я з гэтакімі работнікамі горы-б варочаў.

—І Голубяў варочае. Насыпле каля сябе кучу, дый варочае ў апоку.

— Ну вот з „гэтакімі работнікамі" і я гавару сьмела. Цяпер пацягаемся, кажу,—не падаецца Голубеў.

— І я пацягаюся—глядзі як добра: у самую грудзіну сонца пячэ,— пацьвельвае голас з дылі.—Ляжу і пацягаюся, во!

— Дальбо шкода,—памаўчаўшы зноў гаворыць Бабічаў. Аддаў людзей на чужы прарыў, дык цяпер яму добра і жартаваць,—ён чухае патыліцу і сажмураны твар дабрадушна ўсьміхаецца.—Але пачакай: вот натранірую новую сваю каманду, тады—усе сьцеражыся! Жанкі, брат, народ заўзяты.

— А памятаеш ты, як з мяне падцьвельваў?—падыходзіць Пераплётчык. Але, павярнуўшыся, ён гаворыць да ўсіх.—Заключылі спаборніцтва. У мяне маладая брыгада. Бяром-бяром, налягаем-налягаем і—хоць ты зарэжся: ні тпру, ні но. Я і сам бегаю, памагаю, а ён падыходзіць з Агранатам, растапырвае ногі дый рагоча. У мяне ўжо кажа, за дзевяноста восім. Вот, думаю, назола, чым-жа ён хваліцца, калі ўмова на сто з гакам?! Дай лапу, кажу! На-а, кажа, і ўсё сьмяецца. Умова, кажу на сто з гакам? З гакам. Ну дык кажу, я ручаюся, што і гак вазьму... Ну, от і ўзяў. Сто дваццаць ёсьць.

— Малы гак, малы.

— Разгон ня важны,—жартуюць мужчыны.

— Ну, гэта-ж не канец—возьмам і болей.

Завод адпачывае перапынкам. Сьціхла гамонка жалеза—ажывілася гамонка людзей. Ад мэханічнага цэху чутны нейкія спрэчкі і рогат Каля ліцейнага сабралася кучка прачытаць на дошцы вывешаныя лічбы выкананьняў. Сіняю кашуляю на дварэ прабег інжынэр Фэльдман... Уночы быў дождж. Двор, ад прыбітага пылу, здаецца прыбраным. Наводшыбе вымытым зяленівам молада шэпчацца сад. Ад саду, ад зяленіва разносяцца сьвежыя пахі. Сонца падае ў сьвежасьць здаровым прыпёкам, і сытую прагнасьць выдыхае зямля.

— Любата!

— Што ты ўсё з любатою! Ня месьцішся?

— Эх, бы на Сож ды на Мельнікаў луг.

— Во ўдарыла хлопца.

— Забрала.

Паўз цэх дваром прайшлі дзяўчата. З саду нехта зацягнуў пра душыстую кветку прэрый, чутую ў тэатры з „Роз-Мары". Чалавек з дылі падняўся на локаць і, угледзеўшы дзяўчат, крычыць.

— Лапянкова! Ладыгіна!

— Чаго ты?—сунімаюцца тыя.

— Чаго вы там швэндаецеся—у нас тут адны мужчыны!

— А нам што?

— Хадзеце сюды—весялей будзе!

— Абыдзецеся і бяз нас... Няма часу,—і пакінуўшы росьплескі сьмеху пабеглі накас двара, хаваючыся за карпусамі.

— Тота-ж—няма часу. Бач туды пабеглі.

— А ты-ж туды хіба ня бегаеш?

— Ыч, чарцянё. Вырадак,—круцячы галавою гаворыць Бабічаў. Ён яшчэ глядзеў ім усьлед і ня слухаў хлапечых жартаў.

— Бабічаў улюбіўся ў Лапянкову, дапраўды.

— Не кажы ты, Пераплётчык. Не магу падараваць, што давялося аддаць Голубеву. Гэта-ж быў мой гонар. Ты разумееш, да таго дайшла, што ўвесь апошні час—ніводнага проценту браку. Ну і работа—самі-ж ведаеце—як агнём. Усё ТНБ перавярнула дагары нагамі. Усе, бывала, нават што лічыліся і лепшымі, дык гэта, хацяб да дваццацёх васьмёх дацягнуць—выцягнуць норму. Ато—дваццаць дзьве—дваццаць чатыры. А яна сорак адну апоку шпурнула... Я ўжо яе і вырадкам назваў. Вырадак, дальбо.

— І ўсё гэта таму, што ў тваёй брыгадзе. Я-ж кажу, што ты камандзір удалы,—не пакідае жартаў нехта.

— Няхай сабе і няўдалы, але я зразу быў падмеціў, што з яе будзе толк. Памятаеш, як разьмяркоўвалі карткі ўдарнікаў? У яе было тады яшчэ восім процантаў браку. Дай, думаю, я і Кацю пастаўлю. Тады-ж мы спрачаліся. Казалі ня варт, не падыходзіць. Але я знаў, што апраўдае—па рабоце бачыў, што возьме. І от глядзі ты—разгадаў. Скрозь не здаецца. З таго часу катора пара, і кожны раз стаіць наперадзе. Ды што мне казаць—самі-ж на канфэрэнцыі ліцейнікаў першую прэмію выдавалі.

— Дый самое не пазнаць,—памаўчаўшы зноў гаворыць Бабічаў,—Бывала, як толькі яшчэ прышла яна ў цэх, дык такая пужлівая, баязьлівая—вечна маўчыць, нават слова ня выцягнеш. А гэта глядзіты—камсамолкаю стала, колькі ўсялякае грамадзкае работы варочае... Не, дальбо, я шкадую, што аддаць давялося.

Бабічаў дастае закурыць, але гудок на работу, і ён падымаецца з дыскі. У цэх густа шугнулі рабочыя—цесна прайсьці. Даганяючы ззаду, яшчэ раз чуцён той самы голас крычучы „Любата"! З разгону ўдарыўшыся аб некага, Каця аддаецца на Бабічава і, яшчэ не патушыўшы прынесенай аднекуль усьмешкі, пытаецца.

— Ня выцела?

— Ого, яшчэ і як,—і сплюшчыўшы вочы, Бабічаў таксама сьмяецца ўсімі маршчынамі свайго безвалосага жаночага твару.

18/І-1932 г.
Менск.

---

Антон Алёшка

# Песьня восені

Бацькі Матруна ня памятае. Чула, што была вайна, якая загубіла поўна людзей, адкуль не вярнуўся і яе бацька. Матруна крыху памятае, як раз вечарком, калі вэлюм ціхай прывабнай ліпнёвай ночы асядаў на загародзьдзе, дзед Яўхім старэнна нешта пакаваў у салому палукашка і калі Мацьвей гукнуў, яны борзьдзенька селі і паехалі. Матруна сядзела на каленях маўклівай маці і яе брала цікавасьць.

— У госьці мама?..

Дзед сярбаў каня пугаю па сухіх нагах і на запытаньне ўнучкі бурчэў:

— У госьці... ціха...

Чуваць было, як сакаталі і хрыпелі непамазаныя колы, гукі цяжка падалі ў цемень. Дзед аглядаўся назад і штосьці гаварыў пацмокваючы на каня. Ноч... Цёмна...

У глушы лесу сабраліся ў кучку падвод дваццаць. Ціха. Агню ня відаць. Коні мерна жавалі мурог, час ад часу пафыркваючы. На прагалінцы недалёка ад вазоў сядзелі мужчыны, жанчыны. Гамонка не вязалася. Апаноўваў усіх страх і ў паветры насілася маруднае чаканьне.

— О-о-о!..—прыдушана вырвалася ў Яўхіма, ён паказаў у бок вёскі. Усе борзьдзенька ўсхапіліся і застылі. Пунсовая пляма за лесам расла і расла, чуліся стрэлы. Загад быў нявыканан, вечарам вёска апусьцела і жаўнеры рабілі сваё.

— Усё-ё тваё дабро-о шугае-е, а ты хавайся-я... галасіла Міроніха.

— Годзі выць!.. — прабасіў Мацьвей. Плач суняўся і ператварыўся ў частыя і густыя ўсхліпы.

— Гэта Іван гарыць, з таго боку пачалі...

— Не... гэта Зымелявы...

— Што?

— Зымелявы...

— !!?

— Іван... Зымелявы... уся вёска палае, а яны гадаюць... — перабіў Мацьвей. Кучка стаяла і паглядала выцягнуўшы шыі, на кускі падскакваючага полымя.

— Дзе хлопцы, дзе яны туляюцца. Трэ' было іх тут акружыць і...— шаптаў Мацьвей стаячаму каля яго Яўхіму.

— Што, дзе хлопцы?

— На Цэль пашлі!..

— В-у-у-х, гады!!!

Пад дзень праходзілі на ўскрай у выведы і гэтым выдалі. Калі сонца серабрыла роснае лісьцё і траву, з балота пацягло сьвежасьцю і пахам мурагу — лес акружылі. Жаўнеры рысавалі па сьцежках і сям то там чуліся галасы і стрэлы. Матруна памятае як адзін вусаты наляцеў на кані, шыбануў шашкаю і дзед, як сноп паваліўся на дол. Маткі ня бачыла. Матруна ад страху зашылася над куст і сядзела

покуль сьціхла, пасьля вялікай страляніны з боку вёскі. Страляніна аддалялася. І стрэлы былі падобны на поканьні каштанаў у прыску...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Стала ціха.

---

Калі ўсё супакоіліся, весялей пачалі тарахкацець колы і рыпаць панарады. Людзі браліся за працу, ладзілі гаспадарку. Матруна асталася ў свайго дзядзькі Баранчука. Гэта быў высокі як прасла, худы мужчына з доўгімі цэпкімі рукамі. Ён мала сядзеў дома, а ўсё хадзіў, шукаў заработкаў. Прыходзіў, цяжка садзіўся на лаву, дзеці абкружалі і прасілі есьці. Баранчуку станавілася цяжка і ён пераступаў свой родны парог, ня ведаючы куды кінуцца. Прыходзіў зноў, нічога ня прыносіў; Алеся — яго жонка, дробненька крычала і тупала нагамі:

— Бай!.. Лодыр!..

— Чаго ты?.. — зморана пытаў Баранчук.

— Чаго?... Прасла ты! Ты ня ведаеш чаго!? Паглядзі на дзяцей, паглядзі на жонку, акавы яны... І ты ні ведаеш чаго, а-а?..

Да чырвані агню распальваўся рабаціньневы твар Алесі і яна кідалася ў качэргі.

— Вон з хаты, каб вочы ня бачылі!

— Ня ўводзь у зло... прашу цябе...

— Што?.. Ты яшчэ трэці рот узяў, на што яна табе была. Сабе торбу на шыю пачапіў...

— А хто яе возьме, Дзямян?

— Хто хоча... хай уласьць возьме...

— Як спатрэбіцца, то й возьме... — коратка агрызаўся Баранчук.

Думаў куды пайсьці. Дзе пазычыць хоць паўпуда на зацірку. Галаву ціснулі думкі, як абруч: ён схіліўся, узапёрся на локаць і сядзеў, пазіраючы на трухлявыя рамкі вакна, на пахілены плот за вакном. А Алеся ўсё яшчэ дарабляла, з чапялёю прыскаквала, выганяла, галасіла. Праз некаторы час сьціхла і толькі ўсхліпвала седзячы ў сенцах.

— Ну, то перастань Алеся... — і ён узяў за яе ўздрыгваючыя плечы супакоіць: — сьціхні... пайду да Гомана, дастану хоць колькі хунтаў.

— Вон! вон!.. Я табе кажу, вон! — вырваўшыся крычала Алеся. Баранчук устаў і пашоў навозамі. Луг зеляніўся. Пахла леташняю ральлёю, пахла хлебам. Баранчук гэта адчуваў і патрэсканымі пятамі ступаў па ральлі, да Гомана.

Каля дубровы віднеўся гурток прысадзістых ліп, між іх паглядалі кускі стрэх будынкаў. На лугу хадзіў статак кароў і авец, каля хутара мітусіліся людзі. Гоман гатаваўся да працы на полі. За кладамі на раздарожжы стрэў Яўстрата. Доўга гаварылі куды кінуцца ў заработкі гэтай галоднаю вясною; ламалі галовы і шоргалі патрэсканымі падошвамі босых ног дарогі. Яўстрат з-пад ілба паглядаў у шыр поля, у вус гнусавіў:

— Я ўчора ў Гомана пуд пазычыў на адработак. Іначай не згаджаецца.

— Кажаш не...

Яўстрат.ківаў галавою і шурпатым вялізным пальцам паскроб па шчотцы рыжаватай барады. Яны стаялі задумёна, доўга курылі гаворачы аб усім і разышліся.

Матруну згадзілі пасьвіць пасялковую чараду. Чуць золак яна ўставала і ішла займаць. Суровая торба за плячыма і кіёчак у руках зьнікалі за чарадою ў выган. Дождж, непагода, холад і сонца—усё абдымала і прыгортвала ў сваё ўлоньне малога пасялковага пастушка. Усё яна пераносіла ў шэрым дзіравым курціку, то тулячыся пад кусьцік у дуброве, то седзячы-гнучыся і хаваючыся каля мяжы. Часта даводзілася ад сухаватых рук цёткі, Матруна ня плакала. Пачала без плачу прывыкаць і пераносіць усё. І расла ціхай, адзінокай красуняй-калінай. Так цягнулася некалькі часу, адносіны цёткі да яе пачалі зьмяняцца. Яна прыглядалася да Матруны, да яе вострых вачэй і адзінокай прывычкі. Думала ня раз Алеся і раілася з Баранчуком.

— Сірата. Чаго-ж хочаш...—адказваў Баранчук. Алеся моўчкі садзілася і паглядала на мужа. Ён смачна аблізаўся, закруціў вусы і цяг:

— Пазычыў, але каб заўтра ішоў да яго араць.

— Ты згадзіўся?..

— Прышлося...

Алеся павесялела, прысунулася бліжэй:

— Трэ' было даўно так зрабіць, ён чалавек добры. У яго ёсьць...

— Ніхто ня кажа, што німа...

— Ну дык чаго?.. Ідзі прынось.

— Пад вечар прынясу, цяпер яго дома няма. Паехаў у каапэратыў...—адказаў Баранчук, выходзячы з хаты. Алеся з радасьцю паглядзела на чорную закураную печ, чалесьнікі і на паліцу — на блінцовую ражку. Аб шыбы дзвынкалі крылцамі веснавыя мухі.

——

Праца на полі разгарвалася. Зранку да вечара па палетках снавалі, прыпаўшы да зямлі — аралі, сеялі. І чарнелі паднятыя грудзі зямлі. Вузкія палоскі туды пад лог зьліваліся ў роўную чорную шырыню. Дзе-ні-дзе перамешвалі аднастайнасьць ялавіны—калыхалі травою, нескароджаныя ўжо каторы год. А ўсё—няма каня, няма плуга. І ў Баранчука цягнецца палоска, як скінуць вокам удоўжкі, а шырыня — палова росту самога — запушчаная, нявораная. І часта Баранчук супыняўся, паціраў лоб, чухаў патыліцу — думаў як зрабіць, дзе ўзяць каня. І бяз нічога пэўнага прыходзіў назад. Сёньня Баранчук ступаў за плугам па мяккай глебе, паглядаючы на высечаную Касыніцкую дуброву. Паракконны плуг падрыгваў, слаліся барозны. За ім яшчэ ўдвох — Яўстрат і Цімох. Ні аб чым яны ня гутарылі. Абыходзілі рад за радам па баразьне і кусок ня ўзьзябленага меншаў—ператвараўся ў шыр мяккай, нібы падушка, нівы. Баранчука шчаміла штосьці ўнутры, гарэла агнём і думкі поўнілі галаву.

— Чаму гэта ён ня мае? Чаму гэта ў Гомана ўсё спраўнае?

Адказу ў яго на гэта не знаходзілася. Пaглядаў ён на прысадзістыя будынкі, на хату Гомана; прафарбаваныя акяніцы прагна глядзелі на іх працу. Баранчук ішоў за плугам, а дуброва ня выходзіла з галавы. На прасьцяк, па сьцежцы, да іх ішоў Гоман:

— Памагай Бог...

— Дзякуй...—чуліся галасы.

— Цімох, лепш націскай на ручкі ды пугі ім. Вось так... так... — і сыты абрыты твар трасецца паглядаючы на ворыва з ухмылкай умеласьці.

— Да поўдня каб скончылі. Трэба будзе ашчэ плот згарадзіць... гукнуў ён адыходзячы спацелым сьпінам.

Баранчук ня чуў рэплікаў Гомана і праз добры адцінак часу суняўшыся на ўскрайку дубровы, яны селі і закурылі. Гаворка не вязалася.

Маўчалі.

— Ты от Яўстрат казаў анадысь, як у Нямешчыне жывуць. Я гляджу на дуброву...— пачаў Баранчук: — і думаю.

— Што?

— Кажу, каб гэта нам тут зямлю ўзяць і аснаваць пасёлкі. Добра было-б?

— Дзіва што... цяг Яўстрат.

А Цімох глядзеў на пні і на маладыя парасткі, якія ўжо ўсьпелі паадскакваць.

— Маўчыш. Ты як думаеш Цімох?

Цімох узапёршыся на локаць курыў.

— Я таксама думаў, але хутары лепш...

— А-а... лепш... Як воўк сядзі... Я люблю гуртам...—перабіў Баранчук.— Пасёлкі пэўна лепш...— падмацаваў Яўстрат:— і зямля пад бокам і ў адным куску. От жывуць людзі...

— Трэба пагаварыць на вёсцы, каб чалавек восім на ўсю дуброву і хопіць...— устаўшы прабасіў Цімох.

— Ну от бач...

———

Памахваў вецер з паплавоў, нёс прывабны халадок і абдаваў спацелае пры працы цела. Сонца паглядала з вышыні на ральлю, на шэрыя сьвіты Гаранчыкоў. На возе, прасадзіўшы між лёстак ногі, сядзеў Сямён і плюючы мокра на зямлю паглядаў на Сьцепанчука. Той валтузіўся і лупцаваў пугаю непаслухмянага каня. Конь з пуду кідаўся ў бакі, гізаваў і ўблытваўся болей. Ухмылка прайшла патвары Сямёна, рыжаватая шчаціна вусоў заварушылася.

— Хадзі, закурым!..

— А-а...—каб ты здох...—крактаў Сьцепанчук, умуліўшы разы два пугі і пакінуўшы ўблытанага каня, падышоў да Сямёна.

— Хай ён здохне...— адсопшыся, закурваючы, казаў ён. Вярхом на кані ехаў Кандрат. Лыса-чырвоны конь, падагнуўшы шыю, ляцеў чвалам.

— Куды так разагнаўся?— пытаў Сямён, зайздрасна паглядаючы на каня.

Кандрат завярнуўся.

— Еду ў Чалевічы. Мо' пастуха дзе найду. Таго Гоман прагнаў.

— Так... ён і нівартны быў... Чаго табе ехаць. Сьцепанчук, здаецца, Баранчук Матруну аддае?

— Ну, але...

— Ну, дак чаго ехаць за пяць вёрст, калі пастух пад бокам і ведамны...

— Трэба запытаць... Конь не стаяў на месцы, а вярцеўся, і напінаючы павады Кандрат яго прыварочваў к возу і гутарыў.

— Вы ўжо канчаеце?

— Пасчэ, яшчэ нічэпана...

— Гоман ужо кончыў...—і штурхнуўшы каня пад бокі паімчаўся. Сямён кашляў і паглядаў у далеч дарогі, карпаючы нагою па сырой пухкай зямлі.

— Гэ...—з усьмешкай пачаў ён:—Яўстрат захацеў пасёлкаў.
— Дзе?
— У дуброве...—ён паказаў у бок Касыніцкае дубровы.
— Захацелася яму зрабіць так, каб усё было пад бокам.
— Ха-ха-ха!!—сьмеяўся сіпла з кашлям Сьцепанчук, трымаючыся за паясьніцу.
— Яўстрат захацеў, кажаш...
— Ну, але...
— А каб цябе качкі стапталі. Сапраўды?
— Так. І Баранчук з Цімахом яшчэ.
— Ой... ні магу. Тады мы прапалі... Прапалі, чуеш ні за нюх табакі...—доўга прыгаварваў і падціпіста крактаў Сьцепанчук, паварочваючы жалудовымі вачыма.
— Чаго добрага і зробяць што...
— Певень курыцаю стане, а ні Яўстрат гаспадаром. Дармо, што ў немцаў ігрушы з-пад замка краў. Ву-у-й!!—мокра харкнуўшы ён пашоў выблытваць каня. Неўзабаве і Сямён пашоў за сівым.

— —

У шэрай цішы, вечарком прыехаў Стась Забалоцкі; сабака лемантаваў на ўвесь двор. Кандрат высунуўшыся на ганку ўбачыў Стася, адчыніў варота і паволі трымаючы за ўздэчку ўвавёў у двор жарэбчыка запрэжанага ў лёгкія драбінкі. У шэрані на ганку паказаўся Гоман. Стась выскачыў, атрапнуўся і пашоў на ганак:
— А-а... кум, добрага вечара...
— Калі ласка, калі ласка...—радаваўся Гоман, адчыніўшы дзьверы:—будзеш найлепшым госьцем...—і ў шырокі двор гукнуў:
— Дагледзь каня там...
Стукнулі дзьверы. У сьвятліцы весела гарэў агонь. З вясёлым тварам, прымасьлянаю прычоскаю Гоман стараўся, нешта даказваў, гаварыў, часта ўставаў. На кухні варушыліся людзі і на камінку распальваўся агонь.
— О-о-о! Я так і ведаў...—весела пастукваючы па плячы Стася,—захапляўся Гоман.
— Так, то так. Але дзе твая жонка?—аглядаючы хату пытаў Стась.
— Да бацькі ўчора паехела. Я думаў, але работа...
— Можа ёсьць каму рабіць?
— Ёсьць. Але без стаяньня над імі нічога ня выйдзе. Кандрат, гэта такі гультай, абібок... што...
— У мяне лепш. Я магу паехаць на месяц і ўсё ў парадку будзе...
На стале зьявіліся пачастункі; таўсматая паўгарцоўка вішнёўкі важна паглядала на талеркі з вяндлінаю. Гоман паглядзеў сам, ці зачынены шчыльна дзьверы, пачаў:
— Чуў што думаюць?
— А што?..
— Дуброву забраць...
— Хто?..
— Галота. Гаранчукі. Чакай, паслухай.
Яўстрат сын Амелька, што служыў у вас, падбухторвае гаранчукоў на пасёлкі.
— Няўжо?..—застыў на месцы Стась і перастаў жаваць.
— Праўда... дак, от трэба не драмаць. Я толькі сягоньня пачуў, Сямён Тэрасаў казаў. Бач куды заварочвае. Ты, што на гэта?

І Гоман старэнна выціраў чырвоны спацелы лоб. Стась маўчаў, быў зьбіты з панталыку навіною. Ён корпаўся ў думках, хватаўся за кожную, але-ж усё абрывалася, ляцела.

— Што-ж мы тады варты будзем, дзе каровы будуць хадзіць?.. Адбяруць усе выгады... Э-э...

— Што рабіць?—пытаў вытарашчыўшыся Стась:—куды кінуцца?

— Я от, што надумаў...

— Ну...

— Трэба пісаць прашэньне...—ужо шопатам, блізка нахіліўшыся да Стася, шыпеў Гоман:—у мяне знаёмы ёсьць, ён служыць у зямельным аддзеле...

— Добра. Ды падмазаць трэба.

— Думаю ён дапаможа. І бяз гэтага не абойдзецца...

— Так... — працяг Стась.

Яны змоўклі. За вакном тулілася лёгкая цьмяна-шэрая ноч. Тулілася і цікаўна заглядала ў вакно.

— А чуў... Ухлопалі, кажа, другога паверанная.

— Ухлопалі?..

— Гэта Кастусь казаў. З паштаром недзе вычыталі.

— Сьвет скора перавернецца. Інакш быць ня можа. Ну куды-ж варта, куды?.. — пытаў Гоман: — каб Яўстрат сеў табе на карак, дый шпількі падпускаў. Трэба рабіць і толькі скора. Спозьнімся — усё прапала.

— Добра...

— Трэба разьведаць, як гэта і што? Што чуваць у Гаранцы. Заўтра ў Сямёна папытаць трэба, або ў Баранчука. Я яго дзяўчынку ўзяў — сірату. Добры пастушок.

Доўга блішчэў агонь, сьветлай плямай падаў на зямлю двара і казачна сьвяціў на пушыстыя клюмбы гародчыку.

Рыпнулі дзьверы. Чулася гамонка. Ціхі клёкат драбінак пранёсься за плотам і стала ціха.

——

На вёсцы ішла гутарка. Адны хвалілі думку выхаду на пасёлкі, другія патыкалі — сьмяяліся. Сямён, седзячы на калодках Паўлюка, разважаў з сьмяшком.

— Ні Яўстрату гаспадарыць... не...

— Не-то-не... — цвыркаючы пераступаў з нагі на ногу і пагдядаючы на мужчын, апраўдваў Ілюк:

— Зямля там, брат, добрая. Толькі ўскалупні яе, кінь зерне — збуяе. Ну-у-... гаворыць.

Частка сядзела на бярвеньні, маўчалі, чухалі патыліцы і не знаходзілі слоў для гаворкі. Аўдоця — жонка Сямёна, выйшла з двара, прыштукоўвала:

— У балаторыю яго. Ня ўсё на месцы... От... — і пашла роўнаю паходкаю да рэчкі.

— Пасёлкі добрая рэч... — перабіў ціш Антон; ён памахваў барodкаю і маршчыністым тварам напамінаў ральлю толькі ўзаранага поля: — але ці нам, ці з нашымі сіламі драць карчугу. Тут каб гуртам, разам. Дый калаўротам карчы драць; гэта я разумею.

— Ён разумее. Ты разумей тое, што гультая на вырабленыя гоні пасадзі, то зарастуць лазою. Ха-ха-ха!! А ні з дубровы ён зробіць поле.

— Там добра і добра робяць дзе нас німа...

— А ты сядзі, дый ня дыш. Пасёлкаў захацеў.

— І то праўда...

——

Стары Аўдзей, бацька Цярэшкі, седзячы на прымурку пыхкаў з люлькі.

— Людзей з цябе ня будзе. Пасылаў у школу, уцякаў. Дзе цяпер дзець цябе?.. Пытаньне кружылася, займала ня толькі хатніх, выходзіла на двор.

Раілі суседзі:

— У стальмахі аддайце...

Цярэшка слухаў гаворку ўзапёршыся на дылю вакна і парашыў пайсьці ў армію. Плакала старая, прасіла, прыгаварвала. Пашоў. Двохгадовая вайна заціскала Цярэшку ў свае клюшні, перакідала з усходу на поўдзень. Дрыжала-рвалася на кавалкі зямля. Скончылася гарматная стукатня, пайшла праца на заводзе. Завод пабіты, паламаны, патрабаваў ня мала сілы, каб паставіць усё на сваё месца, за ўсім даглядзець. Яны, як чорныя валы ладзяць, напраўляюць правідловы пульс вялізнага закапцелага гмаху. Праз закураную высозную трубу без перастанку плыў цурком — слаўся дым. Напіналіся цяглiцы, напружваліся нэрвы ад працы — завод гуў, ляскаў, кашляў чыгуном. Будынкі рабочага пасёлку ўхмыляліся стройнымі радамі, узьняўшыся нядаўна.

Усё гэта маленькімі шматкамі мільгацела ва ўспамінах Цярэшкі. Успамінаўся шлях васьмігадовай барацьбы, працы. Цяпер ён у вёсцы. За гэты час вёска стала ня тая — перамянілася: Гаранчукі ўсё яшчэ корпаліся на шнурох-нітках, гнулі сьпіны і скардзіліся:

— Усяго недахоп...

Успаміналася Цярэшку летняе раньне. Палетак. Машыны жнуць, аруць. Апавядаў Гаранчуком, даказваў, яны курылі, гутарылі, маўчалі. Толькі дома марылі аб лепшым жыцьці. Яўстрат часта хадзіў да яго з Баранчуком — і ішлі назад поўныя яскравых малюнкаў, доказаў беспрыбытковасьці дробнай гаспадаркі. За імі гаварылі другія. Праз некалькі часу лаялі іх, што яны ўздумалі зноў людзей баламуціць. Другія аднекваліся і паступова праз некалькі часу чакалі, калі пачнецца, а тады бяз лішніх тарабараў, увайсьці, прымкнуць к ім.

Яўстрат казаў Цярэшку:

— Сход сазваць і арганізуем.

— Пачакай. Пройдзе нядзеля і за намі пойдзе ўдвайне. Разумееш?

На вёсцы пачаліся размовы, плёткі. Сямён учора парахаваўшыся з Гоманам, сягоньня каля студні казаў Ілюку:

— На кацёл хоча пасадзіць, басяк гэты... Цярэшка працаваў. Гурток—жменька вяскоўцаў і Яўстрат з імі, чакалі сходу.

Баранчук з Яўстратам хадзілі ў Бровішча—аглядалі, распытвалі,

——

Матруна была адзінокай і ў Гомана. Яна старалася меней пападацца на вочы Гомана, ці яго жонкі, болей бавілася ў дуброве і толькі добрымі зьмярканьнямі вярталася дамоў і паказвалася на кухні. Уставала заўсёды рана і ня раз, выганяючы каровы, чула ў адрыне размовы, ня раз бачыла Стася,—усё аб новым гаварылі-рахаваліся.

Але яна ішла за адышоўшаю чарадою, паглядала на густа-зялёную сенэжаць, на карчы высечанае дубровы. У апошні час Баранчук рэдка стаў хадзіць-даведвацца да яе. Не ведаючы ў чым справа, яна пачала адлучацца на вёску. Надаела пытацца і яна прыгнаўшы каровы адкрадвалася, чуць золак прыходзіла назад. Гоман хадзіў надуты, часта сядзеў на ганку клеці і падазрона паглядаў на яе.

— Паменш хадзі на вёску. Ці табе работы тут німа...

Матруна апускала галаву—чорныя зіркія вочы і маўчала, ніякавата хавалася за плот у сад. У словах Гомана яна чула злосьць, моц—яшчэ нешта незразумелае для яе. Цяпер яна стала не па сябе. Падрасла—выцягнулася, стала цыбатая.

На вёсцы быў спэктакль. Цішком вырваўшыся, пакінуўшы ў цемені хутар, сьцежкаю трушком ішла ў школу. Там цясьніліся хлопцы, дзяўчата, старыя. Зьнішчыўшыся, яна стаяла ў парозе і саромелася з кімнебудзь загаварыць. Не магла дачакацца, што будзе. Расхіліўшы сінюю заслону па бакох, Цярэшка пастукаў па стале. Сьціхлі. Доўга гаварыў нешта настаўнік, шмат чаго для Матруны было незразумелым, а рэшта так выляцела з галавы. Кончыў. Загаманілі, сьмех, вясёласьць. Адчынілі—рассунулі заслону і пачалася п'еса. Сьмех, граюць на гармоніку, ...Здаюць хлеб... нейкі стары хавае... выкрываюць. Стрэлы... арыштоўваюць страляўшага. Ён у камізэльцы, вялізных ботах з чырвоным тварам паказаўся Матруне як Гоман. Усё гэта ёй спадабалася.

Ідучы дамоў усю дарогу думала яна, аб чым там гутарылі, што гэта былі за людзі, чаму яны стралялі. Уцяміць не магла. Не хацелася пакідаць вёску, дзяўчат—яны вельмі вясёлыя, гаворкія і, здаецца, ў таварыстве не адказалі-б ёй. Часта азіралася назад.

У пятровіцу ля дубровы часта пасьвілі каровы хлопцы і дзяўчата з вёскі. Яны прыходзілі да яе, спачатку сьмяяліся з яе і Матруна цуралася іх. Цяпер пачалі таварышкаваць. Шмат аб чым гаварылі, прасілі прыходзіць у школу слухаць радыё, музыку. Вельмі цягнула да іх Матруну і калі пападалася так, што яна ня бачыла іх—сумавала, і дзень сьцягаўся за тры. Так прабегла неўзаметку лета і жоўталістая восень прыбірала палеткі. Здранцьвелае ржышча чарнела і лапацела разам з сіверам-ветрам.

———

У Гаранцы сход.

У шкле гарэў агонь, праменьні вырываліся праз вокны і клаліся плямамі на зямлю двара. Гоман лісьліва паглядзеў у вакно і лёгкімі крокамі накіраваўся да дзьвярэй. На ганку сустрэў Стася. Прывіталіся і пад штуршок Стася пашлі ў глыб цемені, у бок саду.

— Ну, што куме?

— Загінем... соп Стась.

Маўчаньне. Крыху пастаялі і крута завярнулі на лаўку. Селі. Гоман шыпеў:

— У чым справа, кажы папарадку...—ён жмурыўся, паглядаючы ў твар Стася, аж цемень зраўноўвала ўсе абрысы твару ў ачзін шэры сілуэт.

— Хлеб зноў даваць трэба... Чуў?

— Ну от. Камунію арганізаваць хочуць ці што... Трымайся!..

Гоман маўчаў. Не знаходзілася ў яго болей ні слоў, ні пытаньняў, ён усё разумеў; ад гэтага ў сярэдзіне смагла, пачало гарэць,

кулакі сьціскаліся. Моўчкі, плаўна яны мігнуліся па-асьветленай пляме і зьніклі за дзьвярыма.

Сход пачаўся.

Чарнявы, маленькага росту—прадстаўнік з раёну танклявым голасам, з лёгкім узмахам правай рукі, гаварыў доўга аб значэньні нарыхтовак:

— ...Горад просіць хлеба. Бядняцка-серадняцкая маса павінна быць застрэльшчыкам выкананьня нарыхтовак. Застрэльшчыкам выкрыцьця кулацкіх махінацый—ухіленьняў ад нарыхтовак і прыватнай продажы на рынку.

Нарыхтоўкі павінны праходзіць пад лёзунгам:

НІ
ХУНТА
ПРЫВАТНІКУ...

і кончыў. Сяляне маўчалі, курылі. З стаяўшых шэптаў, паступова пачалі вырывацца больш моцныя словы і сход загудзеў. У цеснаце набітай біткам школы замаганілі адзін перад адным, замахалі рукамі. Чуліся танклявыя галасы жанчын высока ўздымаючыяся над агульным шумам.

— Таварышы... — стук алоўка па стале і ўсе прыціхлі: — хто хоча выказацца?..

Маўчаньне.

Між радоў лавак праціскаўся Сямён Тэрасаў; вышаўшы наперад скінуў шапку, прыгладзіў шырокаю далоньню ўскудлачаныя валасы і пачаў:

— Яно, значыцца, трэ' хлеба, як прадстаўнік кажа: — дзяржава хоча хлеба. Мужчыны, дзе-ж дзеўся хлеб?.. дзе?.. Забралі і прырэзкі, і маргі, і карчы пачалі драць і ўсё мала, усё не хапае. Хай гультаі даюць, ім-жа далі. А хто працуе рук ня чуючы—кулаком зрабілі. І давай... Давалка ня можа выстарчыць. Ня дам хлеба, у весну самому пазычаць прыдзецца...

Расхваляваны, спацелы, чуць ня з сіпам крычаў Яўстрат:

— Браткі! Што ён хлусіць. Абармоціна ён. Хлеб трэба даць. Я даю. Але ім трэба даць, хай не прадаюць вясною на рынку, хай не дзяруць шкуры з Баранчукоў ды Яўстратаў... — ён ня кончыў гаварыць, махаў драным рукавом сьвіткі, як яго ровам суняў Сямён:

— Ты бачыў... калі я прадаў?.. А-а?.. Абібок ты. Ты печ уламаў лежачы, а нехта працаваў. Байкез!.. — счырванелы твар і рыжаватая шчотка барады трэслася, ён выцягся і тыкаў рукою ў бок Яўстрата, праціскаючыся бліжэй да яго.

— Цішэй таварыш... — супакоіў стук алоўка.

— Не, браткі. Так ня будзе... — гаварыў Баранчук: — хлеб здаць трэба. Слухаць Сямёна ня прыходзіцца. — Ззаду пачуўся голас Стася.

— У каго ёсьць ніхай той і дае. Прысільваць ніхто такога права ня мае...

— Праўда... — нехта паддакнуў яму. На сцэну ўскочыў Цярэшка:

— Беднякі даюць слова, што хлеб дзяржаве дадуць... серадкякі дадуць...—Ты за іх будзеш даваць, што гаворыш... перабіў Сямён:— што?.. Дак чаго за каго гаварыць. Серадкякі дадуць...—гіранічна цяг ён.

Паціраючы рукі вышаў Гоман.

— Што трэба даць, то трэба. Яно, як сказаць Савецкай уладзе. Улада добрая — зямлёю ўсіх надзяліла. Па мойму ў першую чаргу дае той, каму ўлада дала. А так... хто хоча... праўда?..

Пастаяўшы крыху, ён паглядаў на мужчын, чакаючы падмацунку яго слоў. З-заду пачулася некалькі галасоў, але яны асекліся аб звонкі голас Яўстрата:

— Не. Даволі Гоману агіціраваць. Хай і Гоман дасьць. Нібось даваў летасьць у весну хлеба на адработак, а цяпер вунь што. Трэ' усім даць без выключэньня. Чаго доўга гаварыць...

Ззаду пачуліся, крыкі, гоман, нездавальненьне. Цярэшка суняў крыкі, прагаласавалі. Лес паднятых рук гаварыў за сваё—амаль усе за здачу.

— У нядзелю арганізоўваем чырвоны абоз з хлебам і ў горад.

— Згодны?

— Згодны! —сказалі галасы.

Сход крыху паменшаў, некаторыя вышлі.

— Цяпер аб арганізацыі калгасу ў Гаранцы.

— Яшчэ чаго захацеў...

— А што, так лепш?..

— Ведама...

— Ціха там... —крыкнуў Цярэшка.

Сход крычаў, гаманіў і ўрэшце запісалася шэсьць чалавек. Цімох доўга сядзеў абдумоўваў, шкадаваў кінуць свой шнур, каня, а пасьля:

— Пішэце мяне...

Лоб яго быў потны. Як і ў Баранчука падраная сьвітка на ім праз дзіркі паказвала сілу, моц у руках. Калгасьнікі сядзелі на перадзе. Сход гудзеў. У тумане тутунёвага дыму гаварылі, даказвалі; стараліся перакрычаць адзін другога.

— Нічога мужчыны ня будзе...

— Чаму?..

— Ці-ж гэта калгас. Лічаныя гаспадары сабраліся. Да каб яшчэ гаспадары, а то...

— Мая думка, Сямёна вывесьці са сходу...—гукнуў Цімох.

— Так, трэба выгнаць...—пацьвердзіў Баранчук.

— Што выгнаць?.. Ня любіш!.. Праўда вочы коле, з дубровы зрабіў пасёлкі, так і з калгасам зробіш...—доўга яшчэ тараторыў Сямён, вылезшы з-за лаўкі, махаў кулаком да калгасьнікаў, але на яго мала зьвярталі ўвагі. Пасьля доўгіх гутарак, спрэчак, сход разышоўся. Ідучы па вуліцы, Яўстрат разважаў:

— Возьмемся як належыць, тады і дуброва будзе наша. Мы-ж гуртам... Так?

— Так... але малавата... — сьведчыў Баранчук: — каб хаця яшчэ гэтулькі.

— Думаў я даўно браце—і рашыў, што нам дарога адна — калгас. Там усё гуртам, а гурт ня вельмі дзе гібее. О-о!!.

— Добра кажаш... толькі абжыцца трэба, а тады ўсё ніпачым.

— Праўда, праўда... — пакурваў Яўстрат і яны разышліся. На вёсцы ціха. Дзе-ні-дзе гаўкаў заспаны сабака. Цемень ночы станавілася каламутна-сіваваю.

---

Прайшла зіма.

Прайшла самая гарачая пара — сяўба. Пад палівана-месяндзовай міскай сонца, на роўным трыкутным палетку, пад подыхамі ветру

лёгенька варушыліся чырвоныя лісткі толькі што ўзышоўшага аўса. На разгароджаным дварэ Баранчука аддыхалі чырвонашчокія сявалкі, весела ўсьміхаліся ім, адліваючыся на сонцы, параконныя плугі. За павецьцю стук сякер. Пах смалы. На зрубе вярхом сядзеў Яўстрат — пазаваў; на зямлі абрэзвалі бервяно. Пад сьвіст піл і стук сякер — яму ўспамінаўся курны вечар. Сход. Крык. Яны першыя ўступілі. Уступілі і пашла праца, праца да аняменьня рук. З-за саду, новым гонтавым хібам паглядала гумно. Лявей — абора, чырваніла страхою і гаманіла з навіслымі на яе ліпамі. У руках лоўка хадзіла сякера, трэскі падалі ўніз, і роўны паз весяліў вока.

— А ну, хлопцы, паддайце!..

— Яшчэ раз... о-опп!!. — і ўпершыся плячыма, падмагаючы галавою бервяно ўсьцягнута на зруб.

— На абед пара... — паведаміў Баранчук.

— Прыпусьцім гэта, ды тады... але яшчэ жанкі ня ішлі... Яны ў розных хустках, нібы мак рассыпаліся па гародзе. Абівалі грады, садзілі капусту. Баранчук абчасаў вушакі. Шырокія далоні рук заціснулі кляновае тапарышча і сякера хадзіла лёгка, вычэсваючы роўныя брускі, у канцы сьсечаныя на кант, для змацаваньня. Вецер памахваў з-за рэчкі, патрасаў пелянамі рубашак, дурэў падкідаючы доўгія пасмы спацелых чупрын і нёс пераліўны голас з гародаў:

Ці ўсе лугі пакошаны,
ці ўсе сенажаці-і-і...

Канец песьні стукаўся рэхам аб навіслыя ліпы, аб жаўтлява-шэрыя ад моху сьцены — будучага сьвінарніка.

— Ха-ха-ха!! — сьмяяўся Яўстрат, падміргваючы Баранчуку, паказваючы на драмаўшага Цімоха.

— А-а-кыш!! — гукнуў Баранчук.

Цімох устрапянуўся і пачаў абсякаць суччо. Твар Яўстрата, колеру бронзы, пацягнуўся ўсьмешкай, ён гукнуў:

— Хадзі Цімох... закурым...

Цімох паставіўшы сякеру пацягнуўся і сеўшы на брус закурылі.

— Задрамаў быў?

— Сам знаеш, досьвіта прыехаў...

— Дзе гэта наш Цярэшка?

Ссунуўшы на патыліцу шапку цяг Апанас:

— З Васілём у Бровішча паехалі, мо' прутоў прывязуць...

— Так... — працяг Цімох, пыхкаючы махоркавым дымам. Дым сінім клубком крутнуўся, адляцеў пад рыштаваньне і зьнік. На другі бок зрубу абсечаны брус адбівалі шнурам. Чорныя рысы ад нацягнутага шнура клаліся з усплёскам і лёгкім шараватым дымком. На калодках сядзеў Скачынскі — гастрыў сякеру. Цёмна-чырвоны твар яго маршчыністы, на худой шыі павытыркалі напятыя жылы і трэсьліся паджарыя вусы. Ён гастрыў і пробваў на кіпець. Гэта галоўны цясьляр. Ён крыху недабачвае з-за немалога ліку гадоў за плячыма. Часта цяпер ён надзяваў акуляры з таўставатай суравою ніткаю, паглядаў на джала сякеры, долата, разварот пілкі. Але яны цяпер дзесьці на рыштаваньні ў фуфайцы і ён пробуе на кіпець — так злаўчыўся пазнаваць на кіпець, што можа абыходзіцца і без акуляраў.

Скачынскі малагаворны.

Часта садзіцца на брус смольна-пахучы, паглядае на зруб, на пільшчыкаў; заходзіць з другога боку — глядзіць. Час ад часу дае парады:

— Апанас, ці так пазаваць... — і ўзяўшы з рук сякеру паказвае. Апанас ухмыляецца:

— Дзякуй...

— За навуку... — працягне Скачынскі і лезе памагчы, паправіць. З аброцьцю ў руках прайшоў Ілюк:

— Памагай бог!..

— Каб ты памог, а то бог... — усьміхаецца Яўстрат. Ілюк прысунімаецца, паглядае, цвыркае на зямлю. Адышоўшы да вуліцы аглядаецца, і сам сабе думае.

— Не... умацоўваецца. Не разьвярнуць яго Гоману, не...

— Ну, дзядзька на абед... — гукае Баранчук Скачынскага. Атрэпваюцца, закурваюць і ідуць.

Скачынскі жмурыцца на сонца і бурчыць пад нос:

— Як поўдзень скора.

Стук, сьвіст пілак прыціхае. Памахвае вецер і сонца з вышыні пячэ, льлецца гарачым журам. На сукох выступае смала.

———

Прайшла касавіца, пачалося жніво. Палеткі сям-там пачалі ўбірацца ў мэндлікі, копы. Адтуль з-пад дубровы чуецца-сыплецца шрот— гук матора. Калгасьнікі жнуць трактарам, жыта хіліцца пад граблямі і бярэм'ямі падае ў парадачак. Усьлед дзяўчаты вяжуць.

Матруна пачуўшы бегала глядзець і там забавілася. Гоман надуты пераменены ў твары шыпеў:

— Будзеш хадзіць?.. За што трымаю...

Матруне стала нейк ніякавата і яна ня ведала — не магла討 даразумецца, чаму ён сварыцца. Рана чуць золак гнала каровы і покуль мухі — пасьвіла. Днём — жала. Яна выцягнулася яшчэ болей, загарэла і зірка кідала вакол сваімі празрэзьлівымі вачыма. Прайшло небагата часу. Раніцою выганяючы каровы, калі яшчэ дуброва зацягалася туманом прадвасеньняй начы, у падпавеці пачула стук. За прыгробкаю стаялі калёсы. Пазнала — Стасевы. І днём прыгнаўшы кароў, прыцікавала, як Гоман пашоў на аўсянішча, пераступіла падваротніцу і ўбачыла сьвежавыкапаны і абкладзены дубам склеп.

Спужана, зразумеўшы ў чым справа, прычыніла вароты і пашла ў хату.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пачаліся сходы зноў. Нарыхтоўкі. Гоман маліўся:

— Бачылі колькі нажаў, па вясны-б сьцягнуць.

— Ты сам жаў? — пытаў Яўстрат.

— Што ты пытаеш. Ён зроду любіць чужую працу. У-у... Анцыхрыст!.. — кінуў Баранчук.

Раніцою прыехалі калгасныя драбіны і суняліся ля павеці. Гоман стаяў анямеўшы:

— Што?.. Па што... — і кіпцямі драў сьцену. Паглядаў на яго і прасіўся мялён, ён зацінуў яго ў руку... але пры першай думцы — выпаў... Вусны шыпелі... Ён туліўся к сьцяне.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гэтымі днямі пачалі праходзіць дажджы, падыходзіла восень. З нядзелю Гоман не находзіў месца. Праходзіў па двару, да гумна, адтуль да клеці, прысунімаўся ў садзе — слухаў.

Нічога ня чуў. Акром толькі, што ад дубровы білася рэха-гуд матора. У Гаранцы малацілі. Гукі Гомана шаламанілі. Ён стаяў каля павеці і глядзеў на разбураную яму. Уцягнуўшы галаву ў плечы ён стагнаў, а пасьля пастаяў і як-бы ў чым здагадаўшыся кінуў:

— Яна... яна вінавата. Я... — і пасьпешна пашоў у хату.

На дварэ ўзмацняўся вецер і хмурыла. Матруна з-пад дубровы прыбегла па посьцілку. Гоман выпрастаўся. Заіскрыліся вочы, сьціснуліся кулакі і ён наступаў на Матруну.

— Вон! Больш ні трэба... Сука!! — і штурхануўшы з ганку Матруну шыпеў яшчэ:

— Сам буду пасьвіць!..

Рот яго пеніўся.

— —

Цяжка навісьлі хмары над зямлёю. Яны то разьбягаюцца, хаваюцца за небасхіл, то зновячы зьяўляюцца абвіслымі і чорнымі. Тады на зямлі робіцца цёмна, — шэрань згушчаецца і спарна сыпле дождж. Вецер-падвей шалястае па палетках, узьлесьсі, калыша гольлем і абрывае пажоўклае лісьцьцё. Калі-ні-калі праз дзірван хмар выглядае бачком сонца, заблішчыць люстрам на гладзі ракі і жоўтай вясёласьцю на ўзьлесьсі.

Ізноў хмурна.

Дождж.

З лесу чорна-жоўтага паказалася пакрыўджаная, заклапочаная, забітая горам постаць Матруны. У пісагах дажджу яна ледзь віднелася і варушылася як у тумане. Вецер трэпле мокраю суравою спадніцаю па нагах і па шэраму зношанаму курціку, прамокшаму навылёт, сьцябаў дождж. Твар быў на палову схаваны ў сінюю кужэльную хустку, адкуль глядзелі ціхія заплаканыя вочы. Яны бегалі далёка па чорных палетках, па гразкай доўгай дарозе, нібы прасілі літасьці.

Дождж быў сіберны.

Прайшоўшы яшчэ паўзагона Матруна пачула, як халодныя раўчукі вады пацяклі па плячах. Дзьмуў вецер. Прамокшую да ніткі Матруну кінула ў дрыжыкі. Яна прысунімалася, заварочвалася бокам к ветру і ішла далей плюхаючы лапцямі па набракшай дарозе. Відаць, як дарога заварочвае ўлева, а там за ляском і калгас. Ад гэтага ёй становіцца лягчэй і весялей ідуць ногі.

Зяцягнутае сіваватай мітульгаю дажджу, роўнае, руністае, шырокае поле паглядае зялёнаю ўсьмешкаю—спачувае. Гледзячы ўвесь час і напруджваючы зрок, ёй здаецца, што там, куды яна так імкнецца— сьвятлей, чым ззаду — адкуль ідзе. І думкі снуюць неразблытаным клубком, а пасьля выбіваюцца ў адно ледзь гучнае, застылае на вуснах слова:

— Прымуць!

Шэрая кропка ўсё зьмяншалася і зьнікла зусім з далягляду. Ляжалі мокрыя дарогі. Парыўчата шумеў арэшнік на зваротку.

— —

Здаровая звонкая раніца купалася ў пацалунках сонца, увабраўшыся ў звон мядзянай восені. Рыкалі каровы. Ім адгукваўся лог, натапырыўшы купчастыя верхавіны хвой. Даілі каровы.

Стукалі цыпаю зачынкі бакаў. Каля стайні надзявалі хамуты, запрагалі ў калёсы. Іржалі коні... Яўстрат ішоў у сыраварню. Жмурыўся, паглядаў на сонца і гукнуў Алесі:

— Бабінае лета...

— Лета... адказала тая і выліўшы малако ў бак шустра пабегла ў абору. Брыгада дзяўчат высыпала пад канцылярыю. Сьмяяліся, папраўлялі хусткі і гутарылі:

— Яўдолі няма...

— Вунь ідзе...

Тая сьпяшалася. На ганку паказаўся Цярэшка з Кандратам:

— Ну, дзяўчаткі, сабраліся?..

— Сабраліся...

— Ідзеце, мы зараз прыдам...

І яны пашлі. Чыстае, звонкае паветра абдавала ўсіх, весела ішлі ногі. Падышлі да дубровы, засьпявалі:

...ішлі бульбу капаць...
Грамадооой праца-в-а-а-а-цы!..

Хлёстка кацілася рэха і будзіла раньне. Па дарозе пыліў Дзямян. Ён суняўся і з зьдзіўленьнем запытаў:

— Куды вас гоніць?...

— Да Гомана, дзядзька...
там наша філія...

дадала Матруна і пасьпешна пашла, дапамагаючы сьпяваць.

Будзіліся палеткі — іскрыліся расою на сонцы. Лес роўнай сьцяною адгукваўся звонкім рэхам і яшчэ болей натапыраўся, слухаў —

— мэлёдыю,
пералівы —
— песьню восені.

Уладзімер Хадыка

## Дзьве песьні

Зьнікла, высахла чорнае дно
Старадаўніх адвечных балот.
Асака адшумела даўно,
І касьцямі ня звоніць чарот.

Край палёў, дзе як полаг блакіт,
І хмурынак—ня трэпленых лён,—
Непатрэбныя высек гукі,
Што расьці заміналі здавён.

На старне гістарычных падзей
Барва жадных клапот расьцьвіла,—
Каб была маладосьць маладзей,
Каб уцехаю песьня была.

І, адлець прыгарунены, сьмех
Летапісных народных былін—
Перабраў нявідочнасьць кунег
Катаваных нядоляй далін.

Я і сам тут ня раз сустракаў
На заплаканых хмарах усход...
Адрыдала даўно асака
Над бядой старадаўніх балот.

——

Берагі перайшлі ў глыбіню
І настрою ня будзе балесьней.
Ў апрацоўцы я радасьць ня сьню,
Не складаю надуманай песьні.

Ад часоў, калі высьцігі рэк
Срэбным звонам трысьцё калыхалі,—
Як паэт і жывы чалавек—
Захаваў я ўстрывожанасьць далі.

Ад пары, калі біўся блакіт
І вар'яцелі зоры ад грому,—
Я, наступнага спраўджаны міт,
Вызнаў шлях скамароху старому.

І цяпер, калі спалены мох
На прастрэленым сьвету абліччы,—
Стану сьціпла і строга ў вяках,
Выйду ў сівер эпох палітычных.

Сонца вёсен растопіць зямлю,
І тады, праз суладжанасьць рэчаў,
Я прыду да таго, што люблю,
У трывозе ўцех чалавечых.

Якім Зорны

## На лесазагатоўках

Рушнікамі бялявымі сьнег
упрыгожыў лясоў
сіняватую далеч;
на сьнягу працярэблены сьлед
палазамі.

Кожны дзень сотні санак і гар
прабягаюць з брускамі,
бярвеньнем
і цёсам.
Па лясной прамысловасьці план
трэба выканаць нам,
за зіму
да калёсаў.

Вось таму
у імшарах-лясох,
дзе раней
ня ступала нага чалавека—
неўгамоннае працы крок,
кубамэтрамі дровы стаяць
у прасеках.

Шух-шах,
шух-шах
шуршаць
на камлёх стрыжняватага хвойніку
пілы;
з-пад сякер
толькі шчэпкі ляцяць,
ды на зямлю цярусіцца зьяючы іней.

І у гомане піл,
тапароў,
і ў разгоне няўтомным,
рабоце ня спыннай
нараджаецца марш перамог,
адчуваецца ход
індустрыйнай краіны.

Полацак, 1-га лютага, 1932 г.

Міхась Багун

# Ахвяра

Сьмерць дыхнула холадам з разьніцы
(Ах, калі-б ды гэта ўва сьне!)
У вачох бліснулі зоры ніцыя
і з вачэй закапалі на сьнег.

Ну, і вочы!
Што-ж гэта за вочы,
штс трывогі акіян нясуць?
Не ў кароўіх хіба, а ў дзявочых
разьліецца часам гэткі сум.

Востры сум. Балючая трывога.
Сэрца, сэрца, боль закалышы.
Толькі й помніць—ў полі па дарогах
беглі вёсны з пахам канюшын.

Толькі й помніць—межы, як мярэжы,
на палёх палёг каменны град,
ды яшчэ—на дальнім узьбярэжжы
расьцьвітае ціхая зара.

І тады за гаспадарскім садам
пракаціўся пастушыны крык
і прайшлі ў калгас вясёлым стадам
з даўных пор вядомыя сябры.

...Зарыкала. Тузанула повад.
І пачула з-заду злосны вокліч:
— Стой! Куды, праклятая карова?!
А бадай вы там усе падохлі!..

З той пары штораньне і штовечар:
— Стой, халерая! Куды ты, чорт!?
Пуга болем апякала плечы,
пугаўё мільгала ў вачох.

Шыю повад да крыві нарэжа;
поўсьць пакрые сетка пісагоў.
Да нянавісьці абрыдлі межы,
здрасаваныя натоўпам год.

———

Стала так.
Цьвіло ў небе зарыва,
дагаралі вочы белых зор,
павялі карову разбазарываць
у абгароджаны кулацкі двор.

Толькі й чула: —Голы, браце, будзеш!
Ці-ж благога для цябе хачу я?
Гэнам, браце, чэрці, а ня людзі:
абдзяруць і нават не пачуеш!..

У вачох бліснулі зоры ніцыя,
сьмерць насунулася чорным сном.
...Здаўся нож ёй белай бліскавіцай
і ўдар сякеры—пяруном...

Ціхі вецер за зялёным садам
па расе разьвеяў боль і сум...

——

Раніцой з калгасу вышла стада
пахадзіць на раньнюю расу.

Ікалі з-за дальніх узьбярэжжаў
палілася сонечная кроў,
Бык дужы́ скасурыўся на межы
і чамусь разгневана зароў.

**В. Сташэўскі**

# Пад звон кляновых жукоў

Бу-у-у-м-м-м... зу-у-у-м-м-м... гу-у-у... трах!

Звоняць, гудуць кляновыя жукі. Трахнецца каторы ў плот, ці ў лоб каторага хлапца, зараве, як аўтамабіль у гразі і пайшоў далей. Да позьняе ночкі звоніць моладзь на вуліцы сваімі песьнямі і сьмехам.

Ды як-жа інакш—вясна і моладасьць.

Эх маладыя годы!.. Хто не ўспамінае іх пад старасьць. Хто ня хоча дыхнуць тым лёгкім паветрам і зноў панюхаць кветку моладасьці і выпіць каплю хоць горкай але раньняй расы!

Маладыя гады!

Нібы рознакаляровыя матылькі мітусяцца яны ў вачох старога дзядулі, які сядзіць на вуліцы на лаўцы пад разложыстым клёнам. Невялічкі тады быў гэты клёнік. Лісточкі не маглі добра схаваць яго з любай ад празрыстага месячыка. Хітрэц гэты месяц. Здаецца ўжо не глядзіць і толькі любая прыхіліцца, дык ён—лып... і сьмяецца. Можа і ён радаваўся, што яны спаткаліся ўкрадкаю ад бацькоў. Можа ён ведаў іх будучыню, можа ён сьмяяўся з іх, што яны такія сарамлівыя.

Пасьля ён не сьмяяўся. Закаханая пара рабілася сьмялейшай, яна выходзіла па дарожцы ў поле. Ня трэ' было кляновых лісточкаў. Месяц стаў ня толькі ня лішнім сьведкаю іх каханьня, а нават пажаданым.

Хто быў не жаданым, дык гэта мой бацька.

Ён—кажа дзед Макар,—скуру злупіў бы з мяне, каб ведаў. Такі ўжо быў чалавек мой бацька. А як-жа скажэце бяз гэтага? Цяпер дык ня ўмее другое само надзець парток, а ўжо ідзе, недзе швэндаецца і бацька ня пытай дзе яно было.

Я ўжо, тымчасам, быў добры дзяцюк і каб крышку ў бацькі была меншая сям'я, дык можна было-б і жаніцца. Але ліха яе бяры з гэтай жаніцьбаю, каб хоць так пагуляць.

У нябожчыка Карпея, царства яму нябеснае і калом зямля, служыла тады адна такая, Параска называлася. Сказаць, што каб вельмі рослая, дык не, але і не малая, ды вельмі ўвішная і з тонкім празрыстым голасам. Дык вось мы з ёю нейк і зьнюхаліся.

Была тады вельмі-ж марудная зіма. Такая была, на яе ліха зіма, што думалі мо' яна ўжо ніколі ня пройдзе. Вось здаецца, ужо вясна—сонца сьвеціць, вада бяжыць... Бац, мароз, сівер. А ў холад якое разгарненьне? У Піліпаўку я на вячорках з ёю сустракаўся. Пасядзіш ля яе калаўротка, часам ушчыпнеш, скінеш пас, а йдучы да дому паднясеш прасьніцу, ці калаўротак. Вось так яно і пачалося, але ўсё гэта рабілася з асьцярогаю. Я-ж кажу: якое можа быць зімою разгарненьне. Чакаю вясны, цяпла. Позна, на яго ліха, прышло гэтае цяпло. Ну, але нарэшце дачакаўся. Распукнуліся на гэтым клёне пупішкі, а тады яшчэ ён быў невялічкі. Загулі кляновыя жукі.

Пасядзем вечарам на лаўцы пад гэтым клёнікам і гудом, як гэтыя жукі. Засьпяваюць дзяўчата... А тут ужо нават у другім канцы вёскі чутно, як Парасчын голас прабіваецца праз усё. Я ня меў добрага голасу, каб падцягнуць, дык і не хацеў, як некаторыя мармытаць абыяк. Я сядзеў, курыў і слухаў песьні і звон кляновых жукоў. Бывае зловіш аднаго і так няпрыметна паложыш каторай на плечы, дык ён і пападзе на шыю, а яны тады ў крык, пачынае трапятацца, тады пачынае шукаць гэтага жучка, ну, і вядома жартуеш. Пусьціў аднаго разу я аднаго жучка і Парасцы, але ня вельмі зграбна і ён, значыць, папоз ёй запазуху. Яна нібы раззлавалася і пераскочыла на другі канец лаўкі. Я сабе думаю: не гэтыя жукі да добрага не давядуць. Сяджу, закурываю.

Не пасьпеў я скруціць папяросы, як яна — шась, усхапілася, а з ёю адзін хлапец, і пайшлі ўдваіх. Я маўчаў. А што-ж будзеш казаць, калі сам вінаваты? Але, думаю, трэба ўсё-ж такі прайціся паўз Карпеявы вароты. Крыху счакаушы, іду. Валаводзяцца яны ў варотах. Я іду і нібы нічога ня бачу. Пачынаю ўжо мінаць, аж яна:

— Макар!

Іду.

— Макарка, пачакай!

Тут ужо я мусіў спыніцца. Яна так сказала, што я далей іці ня мог, ды мне і непатрэбна было, усё-ж роўна прышлося-б назад варочацца. Падыходжу.

— Ну, што?—пытаю.

— А нічога, пагуляй тут.

— А без яго тут не абыйдзецца?—пытае той хлопец.

— Не, не абыдзецца,—адказала яна.

— Ну, дык тады бывай здарова,—адказвае хлапец.

— А яна яму:—пагуляй, а калі ня хочаш, дык валяй.

Я маўчу.

А ён узяў яе руку і пачаў разьвітаючыся ціснуць. Яна вырывацца.

А я маўчу.

Мне крыху ніякава было, але што-ж зробіш.

Хлапец пашоў. Тады я ўзяў яе за руку:

— Зазлавала і адпусьцілася?—пытаюся я.

— Не—кажа,—не адпусьцілася.

— Дык навошта ты мяне звала?

— Каб ты папрасіў прабачэньня. Пойдзем на прыгуменьне „ ты там будзеш прасіць прабачэньня. Гэта „на прыгуменьне" мне спадабалася. Мы крыху абняліся, прайшлі двор, расчыняю вароты... аж тут сыпле з прыгуменьня Карпей. Кончана ўсё—насоўваю шапку на вушы і дай бог ногі.

І вясною няма разгарненьня. Жартам хто можа ляпнуць майму бацьку, што я за ёю учашчаю, дык я і прапаў. А тут ізноў такі, нядобра і ў прыродзе; каб-жа такія былі вечары й ночы, як у Пілі-паўку, дык мы-б ужо, як-небудзь злаўчыліся-б пагуляць, а то тут табе яшчэ ня зусім добра зайшло сонца, як бачыш вылазіць яно з-за лесу.

Думаў я, думала і яна, як-бы нам часьцей сустракацца, ды як-бы гэта... бліжэй. Аднаго разу я пытаюся:

— Сажы ты мне, Параска, дзе ты сьпіш?

— У каморы,—адказвае.

— А хто—пытаю,—у сенцах?

— Карпей.

— Цьфу, прападзі ты, з такою доляй!

Нарэшце цюкнула мяне:

— А вакенца тое, у камору, яно як вымаецца?

— Ды вымаецца, але што-ж з таго.

— Я ўжо ведаю, што з таго. Дык вось,—кажу,—Параска, калі заўтра што шасьне пад вакном, дык ты ня вельмі палохайся.

Назаўтра я так заўзята касіў, што здаецца ніколі яшчэ столькі не накасіў. Праўда, перад нядзелькаю, я заўсёды быў весялейшым і забыўшыся пра тыднёвую стомленасьць, быў рухавейшым. А тут-жа вечарам спатканьне з Параскаю, ды мо' зусім так блізенька, шчыльна адно да аднаго, і значыць, бадай што пад бокам Карпея. І прыемна і страшна. Кончыў я касьбу крыху раней, выкупаўся добра і дадому.

Сядзім мы вечарам гуртам пад клёнікам, гамонім, сьпяваем. Я і кажу ёй:

— Мо' ці варта тут доўга бавіцца?

— А я такі зараз і думаю іці,—адказвае яна.

— І я таксама пайду,—кажу я.

— Куды?

— Пакуль што ў свой бок, а там будзе відаць.

Бліскала недзе далёка маланка.

А тут сама што разьвесяліліся, і калі Параска памкнулася іці, дык за яе і ўзяліся—пасадзілі на месца.

— Трымай,—кажуць яны на мяне,—каб не ўцякла, заўтра-ж—нядзелька.

— Добра,—кажу—я буду трымаць і ўзяў яе пад ручку. А тут рад, каб яна хутчэй пстрыкнула.

Бліснула маланка. Усхапілася Параска, я, гэта, нібы, ня пускаць, яна, вядома, вырвалася.—Я махнуў рукой:

— Няхай,—кажу ляціць к ліхой долі,—калі яна вельмі такая порсткая! Хлопцы пасьмяяліся з мае „нязграбнасьці", а я крыху пастаяў, ды падаўся да свае хаты.

Абышоў гэта я выганам, пералез у Карпееў агарод ды ціханька падкрадаюся да сянец. А тут гэтая малака калі блісьне, калі блісьне і ўжо проста мне ў вочы. Ну, думаю, барані божа, хто ўбачыць!

Мацнуў я акенца, аж яно і рысчыняецца, на завесках значыць, і тут-жа Парасчына галава. Палез я. Але на яго дзіва, Карпей, выразаючы гэтае акенца мусіць не разьлічаў, што ў яго будзе служанка Параска, што яна будзе спаць у каморцы, што мне прыдзецца лезьці праз гэтае акенца, дык яно вышла замалым для мае хвігуры. А плечы мае, гэта цяпер пагнуліся, а тады яны былі, як буфы ў суконных кофтах дзяўчат. Ну, але-ж другога выхаду і ўваходу няма.

Туга ішло, але ціснуўся.

Пачало грымець. А мне што, няхай сабе хоць і дождж. Мо' ня ведаючы парадкаў у чужой каморы, часам павернешся ня так, ды што грукне, дык усё ня так будзе чутно.

Тым часам пачало мацней грымець. Мацней прыціскалася да мяне Параска. Добра было.

Бліснула маланка!

Падняла галаву Параска і слухае.

— Лажыся!—шапчу ёй,—чаго ты натапырылася!

— Пачакай!—адказвае яна.

— Чаго тут чакаць!? і раптам чую: рыпнулі дзьверы каморы, шастае нешта.

Маўчым.

— Параска, чуеш, Параска, дастань сьвечку,—хрыплым голасам кажа Карпей.

Зашавялілася Параска. Над галавамі ў павуціньні вісеў абраз сьв. Гальяша, а за ім заўсёды ляжала грамнічная сьвечка. Дастае Параска гэтую сьвечку і дае яму, а я і ня дыхаю.

— Патрымай,—кажа ён, каб яго трасца трымала,—а я запалю. Куды-ж ты тут будзеш ляжаць.

Я сунуў галаву ў вакенца, прыцісну плячукі, ды хацеў запагоду выскачыць. Пакуль я мадыгаваўся, каб праціснуцца, і такі працісну́ў плечы, ужо быў на палавіну на двarэ, дык Карпей і ўвабраў мяне за ногі і пачаў нечым калоць мне ззаду.

— Чым-жа ён мог калоць?—загулі такія як і ён барадатыя слухачы.

— Ліха яго ведае, пэўна-ж ня сьвечкаю, бо калоў нечым гострым. Затрапятаўшы нагамі, я даў яму ў зубы. Пусьціў ён ногі і я выскачыў.

Бліскала маланка і я трымаючыся за ўколенае месца бяз шапкі бег да дому.

Але малайчына была гэтая Параска, ня прызналася Карпею, хто быў у каморы. І халерны быў гэты Карпей—прагнаў Параску на другі-ж дзень.

Сядзіш пад клёнам, слухаеш як гудуць, звоняць гэтыя кляновыя жукі і часам успомніш. Невялікі тады быў гэты клён, а цяпер глядзі, разросься.

---

С. Шушкевіч

## Трактарыст набраў вады...

Трактарыст набраў вады
З памутнелай сажалкі.
Палі цені пад абрыў
Вербамі абсаджаны.

Палі цені пад абрыў,
Дзе гусак чупырыцца
Паімчаўся трактарыст
З трактарам „Пуцілаўцам".

А ля ціхіх тапалёў
Вёдры звонка ляснулі
Палівалі агарод
Шумныя калгасьніцы

Палівалі агарод,
Галя вочкі жмурыла
Пахінуўся азярод
Ля гумна пахмурага.

Пахінуўшыся на бок
Крывіца старэчына
Трактар Сьцёпку павалок
Паглядае дзяўчына.

У зялёнай баразьне
Лебяда з макрыцаю
Сьцёпка водзіць па старне
Ня рукою — сьпіцаю.

Сьцёпка водзіць на старне
Ня рукою — палкаю...
Галя-ж вочкам ня міргне
Галя з палівалкаю.

Ах, ты, Галя-матылёк
З вочкамі пралескамі
Трактар Сьцёпку павалок
Ды ня тымі сьцежкамі.

Ах, ты, Сьцёпачка-арол,
З трактарам „Пуцілаўцам"
Галя бразнула вядром
З нейкай злоснай шчырасьцю.

Калгас „Чырвоны"
1931 г.

# П А Р О Д Ы І

**М. Ч.**

## Здарэньне з героямі

*(пародыя на герояў Цішкі Гартнага)*

I

Цалюткую ноч не магла спаць Палута Цяцерка. Таквеля яна самкне вочы, як ёй здаецца, што пара ўжо ўставаць. Учора хлопцы з іхняе вёскі згаварыліся ісьці ў заработкі. Ігнат Цяцерка таксама выпраўляў свайго Лаўрэна разам з імі. Ён загадаў жонцы, каб тая сабрала ўсё, як сьлед у дарогу.

Яшчэ ўчора Палута прыгатавала сынаву ношку і паставіла яе на Тапчан. Яна ў шырокі куфэрак палажыла Акраяц хлеба, пасьля дадала яшчэ Лусту, увярцела ў белую фанціну Акорак, сыр як Плаху і палажыла наверх. Масла Слой, ладымераву Ложку і Гляк малака паставіла ў куфэрку збоку.

Устаўшы сёньня з пасьцелі, Палута перш-на-перш зьняла з прыпечку Дзежку і, падбіўшы апалонікам у ёй Рошчыну, зноў паставіла каб падыходзілі бліны.

— Падлі трохі Саладухі—будуць кісьлейшыя — параіў жонцы Ігнат.

Палута засьмяялася з мужавай парады. Праз момант яна вышла на двор, зьняла з Плоту Коўш і ўнесла яго ў хату. Ігнат гэтым часам адзеў Бравarку, шапку з доўгім Брылем і вышаў у сені. Неўзабаве ён унёс адтуль Ступу з Абручом.

— Пакуль сёе-тое, дык трохі куці стаўку—адказаў на запытаньне жонкі Ігнат.

— Ну, ці ты маеш у галаве што-небудзь? Будзе трывожыць сон дзяцей. Дзень наперадзе.

Ігнат ад слова паслухаў жонкі.

— Тады я другую работу вазьму—сказаў ён і ўзяўся зьвіваць ніткі з Шпулі, а як скончыў пачаў абстругваць Навой (рабіў новы).

У мыцельніку Палута абмывала ад учарашняе вячэры Міскі. Пырскі вады падалі на яе адзежу.

Ігнат паглядзеў на жончыну работу і ня ўтрымаўся:

— Ласьне няма чаго адзець, што ты Сукню ўзьдзяберыла на такую работу?

Палута калі Брызьня сьмехам:

— Ці не асьлеп ты? Падымі Брыль, глянь лепей, гэта ж штодзённае ўбраньне.

— А-а-а—працягнуў Ігнат і расьсьмяяўся, ня ўтрымалася і Палута.

II

У гэты момант як Ігнат гаварыў з Палутаю ў хаце,—на вуліцы пачулася адменная гамонка. Цяцеркі думалі, што гэта хлопцы ідуць па іх Лаўрэна.

— Ну, даволі табе нырпаліцца ў пасьцелі. Уставай. Чуеш, ідуць па цябе—азваўся Ігнат.

Лаўрэн усхапіўся і пачаў адзявацца. Ён борзда памыўся, знашоў Грэбень і прычасаўся ім. Палута забразгала каля печы Віламі, застукала скавародамі—сьпяшалася скарэй згатаваць сьнеданьне сыну...

Час ішоў, а скрыпу дзьвярэй ня чутно было.

— Што-ж бы гэта такое?—занепакоіўся Ігнат. Ажно, калі ня прыслухаліся ў хаце, дык на вуліцы насупроціў Цяцеркаў гаманіў Сьвістун ды яшчэ Нязвычны. У першага на Шыі вісела Сявеня, а другі трымаў у руках Гладыш і Качан капусты (дзе ён узяў на прадвесьні качан капусты—невядома).

— Каб на іх Чэмер, на такіх людзей. Супакою няма. Ці не напаткала зноў якая прымха іх, што ўсхадзіліся сярод ночы?—злаваўся Ігнат,—каб узяў Доўбню, ды вывазіў, то ведалі-б.

Адзеўшыся Лаўрэн адчуў, што яму нешта муляе на плячы.

Можа табе новы Рубец рэжа? Дай я пагляджу—сказалі маці. Палута аж дзіву далася, калі глянула на Смуглыя Лаўрэнавы плечы—у яго на лапатцы была вялікая Застрамка ад кастрыцы.

Дай мне, Ігнат, сюды голку, ці Булаўку—я зараз-жа яе дастану.

— Думай ты якое здарэньне. Балазе дома агледзіўся—зазначыў Ігнат, падаючы голку і любуючыся з круглага, як Гарбузік, сынавага твару.

Згадзіўшы нейкі час, у хату ўвайшлі Квактач і Прыдатны, а ўсьлед за імі ўбег і Бобік.

— Што гэта ваша хата стала, як Багна якая? Каго і чаго толькі тут няма—праквактаў Квактач.

Прыдатны ад такога параўнаньня засьмяяўся раскацістым басам. Ад яго сьмеху задрыжалі Вушакі, а Бобік яшчэ больш утуліў галаву.

— Ня сьмейцеся вельмі,—жартам на жарт адказала Палута,—бо вазьму Прут, дык будзеце ведаць.

На гэту гаворку высунула галаву з-за коміну Юшка. Яна спытала хлопцаў:

— Дзе-ж вы ўчора гэтак доўга бавіліся, што сёньня апазьніліся? Мы дык не маглі ўрымсьціцца, пакуль дачакалі вас.

— Цемрыва-ж надта вялікае было, дык мы і ня ведалі, калі той дзень—адказалі хлопцы.

Пакуль у хаце гаварылі, дык Ігнат, адкінуўшы ў хляве Завалу, вывеў каня, запрог яго і, увайшоўшы ў хату, сказаў да сваіх пасажыраў:

— Ехаць можам. Адно дзе мой Бізун ці Пуга?

— Паглядзі можа на Грудзе каля Ліпы—параіла Палута.

Ні Бізуна, ні Пугі Ігнат там не знайшоў. Ён са злосьцю ўвайшоў у хату і наваліўся на Палуту:

— Чаго ты топчашся, як Таптуха? Ці дала ты людзям есьці? Яны можа сёньня яшчэ не аграшыліся? Ды зьбірай Лаўрэна ў дарогу. Дзе яго Сьвітка, паглядзі. На дварэ разьднелася. Ехаць пара.

Ці ня Гіс цябе ўкусіў каля Ліпы, што ты наставіў свой Хіб. Ня крычы, усе будзе зроблена—спакойна адказала Палута.

III

Можа праз 15 хвілін усё было гатова. Разьвітаўшыся з хатнімі, хлопцы выйшлі, мэры строем, за Парог. Лаўрэн паважыў у руцэ ношку і дастаў адтуль Гляк з малаком.

— Цяжка будзе несьці,—маўляў.

— Ах ты Цюцюпан, Хлебнік ты бацькаўскі, бяры, не аднеквайся. У дарозе ўсенькая Шрубка прыгодзіцца,—сказаў Ігнат і сам уставіў у куфэрак Гляк з малаком.

Ужо на воз селі, як Палута прыімчала яшчэ Лаўрэну маленькае Вядзёрка.

— Траха не забылася—засопшыся прамовіла яна.

— А нашто яно мне?

Каб перапыніць Лаўрэнавы ўпоры, Ігнат ня даў яму злажыцца:

— Бяры, сынок, і Вядзёрка. Занясеш на месца, не адсохне Жменя, а там, як знойдзеш. Ты яшчэ ня быў у заработках, ня ведаеш іх смаку.

Праз замэдзганыя шыбы глядзелі на ад'езд Лаўрэна зьмізарнелыя за зіму брат і сястра.

— Я вас справодзіць ня буду—сказала Палута.

— Ідзі ў хату лепей—адказаў Ігнат жонцы.

Малюпаткімі крокамі Палута ўвайшла ў хату, а сьледам за ёй недзе ўзадзе пачуўся грукат капытоў і гамонка ад'яжджаўшых у заработкі хлапцоў.

## IV

Крывяністае сонейка ўзыходзіла вельмі радасна. Недзе далека чуваць быў сьпеў дзяўчыны.

— Празрасты дзень будзе—азначыў Прыдатны, разьзіраючы ва ўсе бакі,—чуеце як выразна чуваць песьня дзяўчыны, здаецца не чалавек сьпявае, а Салавей.

— Цяплыня настае, скора Жукі зьявяцца.

— Зямля збуджаецца. Дзе Жвыр, дык зусім ужо сьнегу няма— то сёй то той гаварыў свае меркаваньні.

У гамонцы неўзаметку прабег шлях.

— Ці-ж ведаеце вы хаця дарогу? Спытаў Ігнат у хлопцаў.

— Са Скуплі ў Процьму кожны шлях ведае, а там да месца недалека.

Далей Ігната ахапіла неасяжная глыбіня радасьці за хлопцаў.

— Такія малайцы, мэры Карчукі, ніколі не загінуць прамовіў ён ад самазадавальненьня ў голас. Заварочваючы каня, Ігнат заўважыў, як рассохся за зіму Обад на заднім коле.

— Каб хаця дахаты заехаць—неспакойна падумаў ён.

## V

У дарозе хлопцам не пашанцавала. Рэчка, праз якую ім трэба было пераходзіць, сама выпучвалася грудзьмі. Лёд зрабіўся сіняваты і час ад часу чуваць быў трэск. Выйсьця ня было—не варочацца-ж назад, калі ўперадзе заахвочвалі заработкі, ды і Ігнат быў ужо далёка. І хлопцы пашлі адзін за другім на лёд.

Не дайшлі яны да сярэдзіны рэчкі, як ад надаву важкіх ступаў хлопцавых ног, поблізу ад іх затрашчаў лёд. Квактач разам з Дадатным нарабілі крыку, Лаўрэн схапіўся за куфэрак, каб ўратаваць свой скарб, а Лін сасьлізнуў у ваду.

— Хлопцы, гэта-ж мы імчымся наперад, закрычаў не сваім голасам Бобік. Іх Крыга ўрэзалася ў купу другіх. Хлопаў ахапіў жах. Ад напору чуўся вялікі трэск, аднак, Крыга не краналася з месца.

Час ішоў, а ратунку ня было. І толькі цяпер хлопцы здагадаліся, што ў такой справе надзвычайна вялікую дапамогу зробіць Торк.

Хлопцы прыкладвалі ўсе сілы, каб падацца ў левы Бок.

— Не сапі гэтак. Не напружвайся, каб ня лопнуў Посік, папярэдзіў Квактач Дадатнага, а з боку перад ім мільгануў Лін.

— А каб цябе, Крумок, — ня ўтрымаўся той, табе ніякава агнёвая, ты свайго дабіўся, а тут чорт ведама як выкарабквайся з гэсткае бяды.

Крыгу пагнала наперад.

— Ня вырабімся жывымі.

— Загінем!—крычалі хлопцы. Адзін Квактач трымаўся бадзёра, ён раз-по-разу загадваў:

— Накіроўвайце ўлева.

Не прайшло і трох хвілін як Крыга рэзнулася аб высокі Бераг і разьбілася ўшчэнт. Лаўрэн схапіў куфэрак аберуч і першы выскачыў на сушу. Усьлед за ім кінуліся хлопцы.

— От табе і раз—сказаў Квактач ўскочыўшы па пахі ў воду. (Ён ратаваўся апошнім).

— Аб такім здарэньні толькі ў Друк падаць засталося. Хай усе прачытаюць—супакойваў і сябе і тававышоў Прыдатны.

— Пакўакаеш ты цяпер пакуль асушысься — рагаталі хлопцы з мокрага Квактача, а той стаяў і выкручваў сваю вопратку.

---

Сабасьцян Старобінскі

## Сымхвонія

(Пародыя на Цішку Гартнага)

Каля бору сонца ходзіць
На высокіх ценькіх дыбах—
Надзіць!
Чарадою цені водзіць
Па кустох густых сядзібах
Ўзадзе!

Даўгакосых,
Таўстаносых,
Цемнатвавых,
Грозных ярых,
Лясуноў,
З-пад кустоў,
З тайных схаваў,
Вабам-зовам,
На палянкі,
На гулянкі—

Рай—мілаваньне...

Вузкіх шляхаў выгіб ёмкі
Каласістай руньню ўбраны.
Вэлюм!
І шнуруюць скокам ломкім
Німхвы-ведзьмы, хвеі панны
На вясельлі.

Жаб капэля
Іх вяселіць,
Многалікім
Хорам-крыкам,
Пявуноў
Покуль зноў
З бору-гаю
Новых баяк
Ў блутнай сетцы
Напляцецца

Рух—калыханьне.

Вадзянік адставіў ногу,
Распусьціў ён бросьні-косы
Родзіць!
Лясуноў сьляпых двурогіх
І русалак вастраносых
Плодзіць.

Вір-віруе
І шнуруе,
Рабець хваль,
Плецень валь,
І русалку
У прагалку,
Паўнагруду,
Некім цудам
Ў нерасты,
У кусты—

Спуск—ападаньне.

Сонца з шпацыру пляцецца
І пад пахвай нясе цыбы—
Пудзіць!
Моц нячыстая імкнецца
У чытацкія сядзібы
Будзя!

---

# К Р Ы Т Ы К А

І. Плашчынскі

## Больш увагі творчай перабудове

У выніку абвостранасьці клясавага змаганьня, разгорнутага і пераможнага наступленьня сацыялізму на ўсім фронце ў значнай частцы папутнікаў адбываецца вельмі важны працэс,—працэс перабудовы іх сьветапогляду, іх мастацкага мэтаду ў кірунку набліжэньня да творчага мэтаду пралетарскай літаратуры. Зразумела, што гэты працэс перабудовы, з прычыны ягонай асаблівай складанасьці, ня можа праходзіць гладка, без ніякіх зрываў, бяз значных недахопаў у той ці іншай творчай адзінкі. Падкрэсьліваючы на вялікае станоўчае значэньне гэтага працэсу, нельга абыходзіць, не крытыкаваць і недахопаў у творчай перабудове пісьменьніка у мэтах выпраўленьня, перамаганьня іх.

Да ліку папутнікаў, якія выразна паставілі перад сабой задачу творчай перабудовы належыць і Глебка. Будучы членам літаратурна-мастацкага згуртаваньня „Узвышша“, якое ў свой час праводзіла выразную нацыянал-дэмакратычную лінію у беларускай літаратуры, Глебка быў пад вялікім уплывам нацыянал-дэмакратычнай ідэалёгіі. Не выпадкова, што ў Глебкавай творчасьці часу першага яго зборніка вершаў „Шыпшына“ амаль зусім не закраналіся тэмы нашай сучаснасьці, а калі і закраналіся, то тут у паэты занадта бракавала выразнай ідэалёгічнай акрэсьленасьці. Галоўнае месца займала беспрадметная лірыка, эстэтызм, перапяваньне вузка-асабістага, ціхай радасьці, захапленьне нейкай ідылічнай красой Беларусі наогул, нацыянальнымі яе адзнакамі, як чымсьці самакаштоўным, што так культывавалася нацыянал-дэмакратамі. Вось чаму сацыяльная вартасьць зборніка „Шыпшына“ была вельмі нізкая.

Далейшае разьвіцьцё Глебкавай творчасьці ідзе па лініі вызваленьня ад нацыянал-дэмакратычных уплываў, па лініі рашучага адыходу ад „Шыпшыны“. У пляне тэматычным гэты адыход характарызуецца тым, што ў Глебкавай творчасьці тэмы нашай сучаснасьці займаюць асабліва вялікае месца. Глебка пачынае рашуча перабудоўваць свой сьветапогляд, вызнае за неабходнасьць для сябе паставіць сваю творчасьць на службу сацыялістычнага будаўніцтва. Паказальнікам гэтай творчай перабудовы зьяўляецца другі Глебкаў зборнік „Урачыстыя дні“. Але адзначаючы гэты пералом, як факт станоўчага значэньня, трэба падкрэсьліць, што ў Глебкавай творчасьці разам з гэтым зьяўляецца схэматызм, што зьявы паказваюцца вельмі павярхоўна, што паэта спыняецца, галоўным чынам, на вонкавым іх баку, ад чаго творы трацяць патрэбную мастацкасьць, даходзяць да звычайнай агіткі.

Перад намі апошні закончаны Глебкаў твор — паэма „Арка над акіянам“, нядаўна выдадзеная асобнай кніжкай. У гэтай поэме Глебка імкнуўся даць вялікае палатно нашага будаўніцтва. Асушка Палескіх балот — асноўная тэма поэмы. На асушаных балотах вырастае добрае збожжа, будуецца электрастанцыя, здабываецца торф, пракладваецца чыгунка. Як відаць матар'ял вельмі ўдзячны. І сапраўды. Паказаць гэты складанейшы процэс сацыялістычнага будаўніцтва, скарыстаньне раней

недаступных і маладаступных чалавеку балотных прастораў для разьвіцьця сацыялістычнай будоўлі, паказаць усю веліч пераможнасьці змаганьня са стыхіяй, паказаць сацыялістычны характар працы і адзіную яе мэтанакіраванасьць праз канкрэтнае і як у працэсе гэтага перарабляецца чалавечы матар'ял, адбываецца станаўленьне новай чалавечай якасьці, ускрыць, як праз гэта будаўніцтва перамагае сацыялізм у сьвядомасьці шырокіх мас працоўнага сялянства, ускрыць супярэчнасьці, што зьвязаны з будаўніцтвам, цяжкасьці яго, клясавае змаганьне вакол яго, даць сапраўдныя вобразы адданых змагароў за сацыялізм — хіба гэта не паважная і ўдзячная справа. Але Глебка падышоў да распрацоўкі тэмы „Аркі над акіянам“ ня зусім так.

Ня гледзячы на тое, што паэма прасякнута верай у перамогу сацыялістычнага будаўніцтва, ня гледзячы на тое, што Глебка імкнуўся паказаць ягоны пераможны поступ, Глебка усё-ж тут пайшоў па шляху найменшага супраціўленьня, па шляху павярхоўнага разгортваньня зьместу сваёй паэмы.

У чым крыюцца асноўныя недахопы паэмы?

Узяўшы за ідэю паэмы—пераможнасьць сацыялістычнага будаўніцтва, Глебка зусім невыстарчальна раскрыў гэтую ідэю на канкрэтным матар'яле; раскрывае яе ў асноўным толькі праз размовы, а не праз зьнітаваньне слова з паказаньнем фактаў практыкі, чыннасьці чалавека, імкнецца выявіць гэтую ідэю, без паказу самаго працэсу будаўніцтва. Неяк дзіўна становіцца,—чытаеш паэму пра будаўніцтва і ня бачыш працэсу будаўніцтва, яго сапраўднай велічы, сапраўды складаных цяжкасьцяй і супярэчнасьцяй, з якімі ён непасрэдна зьвязан. Пра работу на будаўніцтве Глебка не адзін раз гаворыць, жадаючы падкрэсьліць энтузіазм працоўных мас, што: „ад відна — да відна, ад цямна — да цямна, не змаўкала ў нетрах работа“... Падобных прыведзеным словам у паэме ёсьць шмат, але-ж гэта толькі канстатацыя факту, а не паказ працэсу вялікіх работ па асушцы балот, па будоўлі электрастану. Вобразу гэтага будаўніцтва ў яго разьвіцьці і складанасьці, як канкрэтыкі ў выражэньні ідэі поэмы, Глебка не стварыў, ад чаго ідэя не набыла належнага канкрэтнага і разгорнутага свайго мастацкага выражэньня.

Апусьціўшы працэс работ, Глебка ня мог паказаць і людзей будаўніцтва, герояў яго праз шырокую практыку, на аснове паказу практыкі. Гэта стасуецца да ўсіх герояў паэмы. Паэму запоўнілі ў большасьці голыя размовы, што зьніжае іх мастацкую адчувальнасьць, робіць іх вельмі часта мала пераканальнымі. Нельга-ж толькі напамінаць пра паводзіны, практыку людзей, паказваючы гэтых людзей. Трэба умець, імкнуцца прымусіць загаварыць факты, а не пра іх сказаць, пры тым вельмі агульна і паставіць на гэтым кропку.

У паэме няма разгорнутага паказу шырокіх мас будаўнікоў праз працэс самога будаўніцтва, зусім і слова ня сказана, як у працэс пераможнага поступу гэтага будаўніцтва, як у працэсе сацыялістычных мэтадаў працы перарабляецца сьвядомасьць чалавека, пераходзіць у вышэйшую сваю якасьць. У пачатку паэмы гаворыцца, што калі прыехалі інжынэры асушваць балоты, сяляне:

Сьмяяліся з выдумкі гэтай усе:
— Нічога ня будзе з работы...
— Няхай сабе трацяць дабро пакрысе,
а нам вось — абы заработак.

І толькі адзін, маладзейшы за ўсіх,
заўважыў вясёла і жвава:
— Зямлю можна гуртам перакруціць, —
ня то што балота управіць.

Значыць, была і недаверлівасьць, абыякавасьць, дробнаўласьніцкія меркаваньні з пункту гледжаньня „а нам вось—абы заработак“. Глебка зусім апусьціў, як у працэсе і на аснове ажыцьцяўленьня „выдумкі“ зьменьвалася, расла сьвядомасьць сялянскіх мас. З тым, што ў паэме няма паказу росту гэтай сьвядомасьці непасрэдна зьвязана і тое, што ў паэме няма станаўленьня вобразу ўдарніка. Таму і адзін з лепшых разьдзелаў поэмы „Ударнікі“ выклікае пытаньне: што яны за людзі гэтыя ўдарнікі, адкуль яны прышлі і як яны сталі ўдарнікамі, так ўпэўнена і з гонарам заяўляючы пра сваю адданасьць сацыялістычнай будоўлі. Тут толькі канстатуецца новая якасьць без паказу станаўленьня гэтай якасьці, без паказу непасрэднай яе практыкі. З аднаго боку, скептыцызм дробнага ўласьніка, а з другога — энтузіязм ударніка, як дзьве процілегласьці. Гэта толькі фіксацыя, статыка. Патрэбна было даць паказ дыялектыкі разьвіцьця ніжэйшага ў вышэйшае.

Праз вобраз Гафрона — сакратара партячэйкі, Глебка хацеў паказаць бальшавіка, прасякнутага нянавісьцю да клясавых ворагаў, стойкага змагара, няўтомнага будаўніка, чуткага таварыша і кіраўніка. Але бяда ў тым, што пры добрым замеры ўсё гэта недастаткова раскрыта праз шырокую практыку змаганьня ленінца за сацыялізм. Вобраз Гафрона, праз які Глебка паказвае партыйнае кіраўніцтва змаганьнем за сацыялізм, занадта рацыяналізаваны, зроблены вельмі схэматычна, ня глыбока, яму вельмі шмат чаго бракуе, каб стаць жывым канкрэтным кіраўніком. Не паказваючы рабочых мас у іх практыцы будаўніцтва, ня ўскрываючы супярэчнасьцяй у іх асяродзьдзі, Глебка ня мог даць і вобразу сакратара партячэйкі ў больш непасрэдным і шырокім ягоным дачыненьні да гэтых мас, у шырокай практыцы змаганьня бальшавіка за генэральную лінію партыі. Гафрон не адзеты ў практыку шырокага і канкрэтнага змаганьня. На партыйную арганізацыю ў цэлым Глебка зьвярнуў занадта малую ўвагу. Яе роля ў будаўніцтве, яе дачыненьне да шырокіх мас, чым яна штодзенна жыве, над чым асабліва клапоціцца і хвалюецца, якія супярэчнасьці ўзьнікаюць у яе шэрагах,—усё гэта не раскрыта на багатым матар'яле будаўніцтва. Так, партарганізацыя не паказана ў яе дзейнасьці. Нельга-ж абмяжоўвацца толькі агульным паказаньнем на кіраўніцтва.

„Нас крайние меры сопротивления эксплоататоров могут только радовать... Что-бы стать господствующим классом и окончательно победить буржуазию пролетарият должен научиться этому... Нас учит только серьезная, упорная, отчаянная борьба. Чем более крайним является сопротивление эксплоататоров, тем энергичнее, тверже, беспощаднее, успешнее будет подавление их эксплоатируемыми“. (Ленін т. XXII, ст. 137). У гэтыя ленінскія радкі павінен глыбока ўчытацца кожны пісьменьнік, павінен цьвёрда памятаць іх пры паказе клясавага ворага, клясавага змаганьня. Шмат якія з нашых пісьменьнікаў у разуменьні клясавага змаганьня далей школьнага разуменьня не пайшлі, ня ўдумаліся ў глыбокі сэнс клясавага змаганьня, паўната і сапраўдная, а не абвеяная нейкай рамантыкай, абвостранасьць яго застаецца ўбаку ад іх. Яны ня ўмеюць, не навучыліся і мала, вельмі мала пра-

цуюць над паказам клясавага ворага. Ад гэтага ў іх не паўстае клясавы вораг ва ўсёй яго сіле, ва ўсёй яго актыўнасьці, ва ўсёй яго складанай чыннасьці. І гэта трэба асабліва падкрэсьліць, бо мы жывем у час самага абвостранага клясавага змаганьня, калі клясавы вораг скарыстоўвае ўсе магчымасьці і сродкі ў сваім змаганьні супроць сацыялізму. Мастацкая-ж літаратура павінна дапамагаць у змаганьні з клясавым ворагам, поўна і праўдзіва паказваючы яго, паказваючы пераканальна. Вельмі малая дапамога будзе у гэтым, калі замест сапраўднага і складанага падаваць схэматычнае, падаваць не праз дзеяньне, а праз слоўную канстантацыю, што прыводзіць да неадчувальнасьці і неперакананасьці такі паказ. Сказанае цалкам і асабліва стасуецца Глебкі.

Праблема шкодніцтва і клясавага змаганьня на справе вырашаецца Глебкам недастаткова глыбока і поўна. Вобраз шкодніка Яцыны далёка ня ўдаўся Глебку, шкоднік не раскрыты ў пляне паказу непасрэднай і дасьціпнай яго клясава-варожай чыннасьці, праз што толькі і льга належна выявіць яго сапраўднае аблічча.

У паэме, па сутнасьці, толькі гаворыцца пра Яцыну, што ён „пазладзейску... жвавы, на ўсё дабіўны“.

Яцына найбольшы злачынца
. . . . . . . . . . . . .
Вядома даўно, што Яцыну
ня шкода працоўных дабра...

Але гэтыя словы рабочых Глебка не апрануў у паказ працэсу Яцынавага шкодніцтва, таму і гучаць мастацка непераканальна. Ад таго, што ў поэме *толькі гаворыцца* пра Яцыну, як пра значна клясава-варожую сілу, вобраз Яцыны ня стаў у сапраўднасьці выражэньнем такой сілы.

Праблема клясава-варожага ўплыву на працоўныя масы, па сутнасьці, абойдзена Глебкам. Нідзе і слова ня сказана, ці імкнуўся Яцына пранікнуць у асяродзьдзе саміх працоўных мас, каб больш адсталыя іх часткі скарыстаць у сваіх мэтах, справакаваць іх на пэўныя ўчынкі, ствараючы сур'ёзную перашкоду для сацыялістычнага будаўніцтва. Зусім не вырашае гэтай праблемы і дачыненьне Яцыны да інжынэра Яновіча—кіраўніка работ.

Яцына становіцца перад пралетарскім судом зусім выпадкова. Тут важна спыніць увагу на гэтай выпадковасьці, бо яна вельмі выразна гаворыць як ня трэба паказваць перараджэньне сьвядомасьці чалавека. Яцыну выдае Аліса—жонка Яновіча. Зьняверанасьць і абурэньне супроць рэлігіі робіць тое, што яна звоніць у ДПУ і паказвае на сьлед Яцыны. Зьняверанасьць, абурэньне супроць рэлігіі ў Алісы зьявілася неяк раптам, нечакана—чаго як характэрнага ў жыцьці ніколі ня бывае, бо сьвядомасьць чалавека перараджаецца ў працэсе доўгай клясавай практыкі, а не на аснове якога-небудзь выпадковага здарэньня. Не выручае Глебкі Гафрон, калі гаворыць, што такое перараджэньне сьвядомасьці ў Алісы зьявілася ў выніку пераможнасьці сацыялістычнага будаўніцтва, якое нясе сьмерць рэлігіі.

Палажэньне наогул-то правільнае, але справа ў тым, што яно, паколькі вырашаецца ў Глебкі праз вобраз Алісы, засталося мастацка непераканальным, бо, падкрэсьліваю, перараджэньне сьвядомасьці Алісы не паказана, як вынік гэтага сацыялістычнага будаўніцтва. Мы маем тут справу з занадта складаным і цяжкім працэсам, каб сталі праўдзі-

вымі словы Алісы: „цяпер я ня веру ніякім багом“... Гэтыя словы павісьлі ў паветры, праз іх ня відаць жывога вобразу чалавека. Занадта раптоўна і не мотывавана зьявіліся яны, каб паверыць у іх сапраўднасьць. З падобнымі тлумачэньнямі, з якімі зьвярнуўся Глебка ў даным выпадку да Гафрона, ён зьвяртаецца даволі часта, апускаючы паказ працэсу пра што даецца занадта агульнае тлумачэньне. Трэба заўважыць, што ад гэтага сам вобраз Гафрона становіцца падобным на нейкі склад агульна вядомых ісьцін, завучаных з кніжкі, ісьцін, не апранутых у канкрэтныя формы, бяз цела і крыві. Глебка зьвяртаецца да Гафрона вельмі часта, як да нейкага камэнтатара, падмяняючы паказ зьявы, мастацкае раскрыцьцё прычын яе зьменнасьці Гафронавымі занадта агульнымі словамі.

Ня лепш паказаны і інжынэр Яновіч—кіраўнік работ. У першых радкох паэмы пра Яновіча гаворыцца, як пра станоўчага героя. Чытач чакае што Яновіч—гэты чалавек, у якога „у сьмелых абрысах шырокіх брывей лягла назаўсёды ўпартасьць“, будзе паказаны менавіта ў пляне адданага і ўпартага змагара за справу сацыялістычнага будаўніцтва. Але такое чаканьне застаецца дарэмным. Вобраз Яновіча ў пляне кіраўніка работ не раскрыты. Яновіч, як яго называе Гафрон—„бядняк, пралетар“, але ролі пралетарскага інтэлігента ён ніяк не выражае. У дачыненьні да Яцыны ў яго няма клясава-пралетарскай пільнасьці, наадварот—блізарукасьць, хістаньне, нерашучасьць. Нават пасьля таго, як Яцына канчаткова адчыняе перад Яновічам сваю зацятую клясавую варожасьць да пралетарыяту, да сацыялістычнага будаўніцтва і прапануе самому Яновічу ўцячы разам з ім за мяжу, нават і тут Яновіч ня прымае належных захадаў, чым дае яму магчымасьць зрабіць яшчэ адно злачынства—падпаліць кантору і ўцячы. Сапраўднай матывацыі дачыненьняў Яновіча да Яцыны ў паэме няма. Вельмі важнага, а менавіта, якім чынам Яновіч—гэты „бядняк, пралетар“ прышоў да адрыву ад шырокіх мас, якім чынам апынуўся Яновіч у блізкіх адносінах з Яцынай, падкрэсьліваю—гэтага надзвычайна важнага і так патрэбнага, каб вобраз Яновіча загаварыў на поўны голас, няма ў паэме. Вось чаму словы Гафрона пра адыход Яновіча ад кіраўніцтва работ, як вынік адрыву ад мас і клясава-варожага ўплыву—непераканаўчая і голая канстатацыя факту. У сувязі з усім гэтым вельмі важна адзначыць, што Глебка не супроцьпаставіў вобразу Яновіча сапраўднага пралетарскага інтэлігента, на справе адданага сацыялістычнаму будаўніцтву. Ня ўскрыта ва ўсю шырыню, як паводзіны Яновіча адбіваліся на працэсе работ. У Глебкі адказьнейшыя работы на фронце сацыялістычнага будаўніцтва, па сутнасьці, засталіся без тэхнічнага кіраўніцтва. Адвёўшы ў паэме шмат месца Яновічу, Глебка не паставіў ва ўсю шырыню і на належную прынцыпова-палітычную вышыню праблему тэхнічнай пралетарскай інтэлігенцыі, праблему пралетарскіх кадраў.

Недахопы паэмы „Арка над акіянам“ зьяўляюцца сур'ёзнымі недахопамі Глебкавай творчай перабудовы. Паэма вельмі пераканаўча гаворыць, што Глебка да паказу нашай рачаіснасьці падыходзіць павярхоўна, што не паказвае яе разьвіцьця праз ускрываньне самога працэсу дыялектыкі яе поступу, а ў асноўным ідзе па лініі вонкавай канстантацыі факту гэтага разьвіцьця, што непадзельна зьвязана з падменай паказу самога разьвіцьця нашай рачаіснасьці голымі і агульнымі словамі. Паэма гаворыць, што Глебка яшчэ ня сышоў са шляху схэматыкі, што яшчэ ня стаў цьвёрда на шлях паказу разь-

віцьця нашай рачаіснасьці, як разьвіцьця надзвычайна складанага і супярэчлівага, што паказваючы людзей, Глебка абмінае вельмі важныя і значныя пераходныя моманты ў зьменнасьці іх сьвядомасьці, што паказвае гэта не на аснове і праз багатую практыку. Вось чаму такі паказ ня можа выявіць усёй сапраўднай паўнаты паказанага. Вось чаму—„супярэчнасьці—твораць адзінства“—не раскрыта на канкрэтным матар'яле, як глыбокае дыялектычнае, а не мэханістычнае адзінства.

Нарэшце, яшчэ пра адно пытаньне. У большасьці твораў, напісаных нашымі пісьменьнікамі пра будаўніцтва, кідаецца ў вочы той факт, што пісьменьнікі зьвяртаюць вельмі мала ўвагі, ці проста ніякай, на вывучэньне тэхнікі, чыста тэхнічнага боку работ будаўніцтва. А бяз гэтага нельга даць усебаковага, поўнага паказу разьвіцьця нашай рачаіснасьці. На гэту справу вывучэньня тэхнікі павінна быць зьвернута самая сур'ёзная ўвага. Асновы тэхнікі павінен ведаць пісьменьнік нашай сучаснасьці, паказваючы яе. Усё сказанае самым непасрэдным чынам і асабліва стасуецца Глебкі.

---

# ХРОНІКА

— Аб'яднаньне пралетарска-калгасных пісьменьнікаў вылучыла брыгаду сваіх членаў для пасылкі у буйнейшыя калгасы і саўгасы БССР на вясеньнюю пасеўную кампанію.

— У пачатку сакавіка м-ца літаратурная брыгада БелАПП, у складзе т. т. Куніцкага, Салагуба і Ліўшыца выяжджала ў г. Клімавічы. Брыгадай, разам з клімавіцкай філіяй пралетарска-калгасных пісьменьнікаў і рэдакц. раённай клімавіцкай газ. „Камуна", было наладжана некалькі літаратурных вечароў і дакладаў пра сучаснае становішча беларускай пралетарскай літаратуры.

— т. Сідарэнка і Куніцкі зараз працуюць над аглядам творчасьці ўдарнікаў сацыялістычных палёў, якая дасылаецца ў рэдакцыю нашай часопісі і якая друкуецца па раённых газэтах. Гэта работа будзе надрукавана ў бліжэйшых нумарох „Беларусь Калгасная".

— Брыгада БелАПП, у складзе т. т. Барашкі, Мікуліча, Аксельрода, Лужаніна (ФАСП) у канцы лютага м-ца наведала г. Магілеў, крычаўскі цэмантны завод, Сьвіслач. Брыгадай у гэтых прамысловых раёнах праведзена падрыхтоўчая работа па закліку рабочых-ударнікаў у літаратуру.

— Галоўмастацтва НКА БССР, ЦСПСБ, ДВБ і Драмтаварыства абвясьцілі конкурс-спаборніцтва паміж пісьменьнікамі, драматургамі і кампазытарамі на стварэньне твораў розных жанраў, прысьвечаных XV гадавіне Кастрычнікавай рэвалюцыі.

У конкурсе-спаборніцтве запрашаюцца прыняць удзел усе пісьменьнікі ўдарнікі, закліканыя ў літаратуру, драматургі і кампазытары.

Конкурс-спаборніцтва абвяшчаецца па наступных жанрах мастацтва: раманы, аповесьці, апавяданьні, нарысы, паэмы, вершы, п'есы, опэры, кіно-сцэнары, масавыя песьні, сымфоніі, квартэты і інш.

Творы на конкурс павінны быць прадстаўлены не пазьней 1 ліпня і 1 жніўня (творы самадзейнага тэатру) у Галоўмастацтва НКА БССР—камісію па конкурсу-спаборніцтву да XV гадавіны кастрычніцкай рэвалюцыі.

На конкурсе-спаборніцтва вызначана 16 прэмій, ад 200—1500 руб. прэмія.

— БелАПП да XV гадавіны Кастрычніцкай рэволюцыі выдае анталёгію беларускай пралетарскай літаратуры. Анталёгія павінна будзе адлюстроўваць сабой змаганьне рабочае клясы і працоўнага сялянства БССР за ідэі сацыялізму пасьля кастрычніка.

— БелАПП распачаў працу па збору творчасьці рабочых-ударнікаў, закліканых у літаратуру, на БССР. Творчасьць рабочых-ударнікаў БССР будзе выдана ў адным зборніку да 1 ліпня 1932 г.

— 22 сакавіка ў Гаркоме ЛКСМБ адбылася шырокая нарада культпропаў ячэек г. Менску, кіраўнікоў і старшынь літгурткоў па пытаньню творчага агляду камсамольскай літаратуры і далейшаму разгортваньню закліку рабочых-ударнікаў у літаратуру на аснове правядзеньня гэтага агляду. З дакладам пра агляд маладзежнай літаратуры на нарадзе выступіў т. Мікуліч. Нарада выпрацавала дакумант па практычным правядзеньні агляду маладзежнай літаратуры.

— У МенАПП шырока разгарнулася творчая дыскусія. Ужо адбылося сем творчых вечароў-дыскусій. Дыскусія распачалася дакладам адказнага сакратара Бел АПП т. Лынькова пра ліст тав. Сталіна і задачы беларускай пралетарскай літаратуры. Дыскусія разгортваецца пад знакам бальшавіцкай крытыкі і самакрытыкі, за аўладеньне марксысцка-ленінскім сьветапоглядам. За гэты час разгледжана творчасьць Платона Галавача і мастацкая прадукцыя часопісі „Маладняк" за 1931 г.

— 30 сакавіка ў Д. Пісьменьніка адбылася інтэрнацыянальная пераклічка рабочых-ударнікаў, закліканых у літаратуру, г. Менску. З дакладам пра новы этап работы з ударнікамі і пра далейшы заклік рабочых-ударнікаў выступіў т. Аляхновіч. На зьлёце паміж рабочымі літгурткамі і кіраўнікамі гурткоў былі заключаны сацумовы па далейшаму разгортваньню ў літгуртках творчага агляду маладзежнай літаратуры, па паказу ўдарнікаў вытворчасьці і іншае,

— 31 сакавіка ў Д. Пісьменьніка адбыўся вечар яўрэйскай пралетарскай літаратуры, прысьвечаны сустрэчы яўрэйскага пралетарскага пісьменьніка т. Сіто, які прыехаў з Украіны.

— МенАПП прыступіла да выданьня другога зборніка творчасьці рабочых-ударнікаў, закліканых у літаратуру. Зборнік выйдзе ў маі м-цы 1932 г.

— Першы беларускі тэатр падрыхтоўвае да пастаноўкі п'есу украінскага пісьменьніка Г. Гурчана „Пляцдарма" на тэму аб клясавым змаганьні ва ўмовах капіталістычнай Польшчы.

— Другі беларускі тэатр прыступіў да працы над п'есай М. Ільінскага „Вясна". Тэма п'есы—праблема серадняка ў калгасе. Першую пастаноўку тэатр мяркуе прыстасаваць да веснавой пасеўнай кампаніі. Таксама рыхтуецца да пастаноўкі

ў 1932 г. п'еса Якуба Коласа „Вайна да пабеднага канца", на тэму—ператварэньне імпэрыялістычнай вайны ў вайну грамадзянскую і п'еса В. Сташэўскага „Амэрыка", якая адлюстроўвае клясавае змаганьне ў Амэрыцы, на фоне эканамічнага крызісу.

— Таварыства „Мастак" арганізоўвае майстэрні скульптуры і дзіцячых забаў, каб даць магчымасьць прасоўваць у масы мастацкія творы для афармленьня быту рабочага і калгасьніка.

— Ранейшы вандроўны тэатр пад кіраўніцтвам народнага артыста рэспублікі т. Галубка ператворан у трэці беларускі дзяржаўны тэатр.

— Канчаткова вырашана пытаньне ў СНК аб пабудове ў г. Віцебску кінофабрыкі. Пабудова пачнецца ў 1932 г. і будзе канчаткова закончана ў 1933 г.

— Вышлі з друку другім выданьнем апавяданьні М. Лынькова „Андрэй Лятун" і аповесьць „Апошні зьверыядавец".

— Вышла з друку асобнай кніжкай аповесьць П. Броўкі „Каландары".

— Друкуецца асобнай кніжкай новая аповесьць Сымона Баранавых „Два канцы".

— Рыхтуецца да друку зборнік творчасьці БелЛАЧАФ.

— У красавіку м-цы адбудзецца канфэрэнцыя БелЛАЧАФ.

РЭДКАЛЕГІЯ: С. БАРАНАВЫХ, Іл. БАРАШКА, Н. МІХАЙЛАЎ

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР: Н. МІХАЙЛАЎ.

Друкарня Беларускае Акадэміі Навук — Менск, Няміга, 7.

Заказ № 3892. Галоўлітбел № 350. Тыраж 1300 экз. 6¼ арк.

# Зьмест

віцьця нашай рачаіснасьці, як разьвіцьця надзвычайна складанага і супярэчлівага, што паказваючы людзей, Глебка абмінае вельмі важныя і значныя пераходныя моманты ў зьменнасьці іх сьвядомасьці, што паказвае гэта не на аснове і праз багатую практыку. Вось чаму такі паказ ня можа выявіць усёй сапраўднай паўнаты паказанага. Вось чаму—„супярэчнасьці—твораць адзінства“—не раскрыта на канкрэтным матар'яле, як глыбокае дыялектычнае, а не мэханістычнае адзінства.

Нарэшце, яшчэ пра адно пытаньне. У большасьці твораў, напісаных нашымі пісьменьнікамі пра будаўніцтва, кідаецца ў вочы той факт, што пісьменьнікі зьвяртаюць вельмі мала ўвагі, ці проста ніякай, на вывучэньне тэхнікі, чыста тэхнічнага боку работ будаўніцтва. А бяз гэтага нельга даць усебаковага, поўнага паказу разьвіцьця нашай рачаіснасьці. На гэту справу вывучэньня тэхнікі павінна быць зьвернута самая сур'ёзная ўвага. Асновы тэхнікі павінен ведаць пісьменьнік нашай сучаснасьці, паказваючы яе. Усё сказанае самым непасрэдным чынам і асабліва стасуецца Глебкі.

---

# ХРОНІКА

— Аб'яднаньне пралетарска-калгасных пісьменьнікаў вылучыла брыгаду сваіх членаў для пасылкі у буйнейшыя калгасы і саўгасы БССР на вясеньнюю пасеўную кампанію.

— У пачатку сакавіка м-ца літаратурная брыгада БелАПП, у складзе т. т. Куніцкага, Салагуба і Ліўшыца выяжджала ў г. Клімавічы. Брыгадай, разам з клімавіцкай філіяй пралетарска-калгасных пісьменьнікаў і рэдакц. раённай клімавіцкай газ. „Камуна", было наладжана некалькі літаратурных вечароў і дакладаў пра сучаснае становішча беларускай пралетарскай літаратуры.

— т. Сідарэнка і Куніцкі зараз працуюць над аглядам творчасьці ўдарнікаў сацыялістычных палёў, якая дасылаецца ў рэдакцыю нашай часопісі і якая друкуецца па раённых газэтах. Гэта работа будзе надрукавана ў бліжэйшых нумарох „Беларусь Калгасная".

— Брыгада БелАПП, у складзе т.т. Барашкі, Мікуліча, Аксельрода, Лужаніна (ФАСП) у канцы лютага м-ца наведала г. Магілеў, крычаўскі цэмантны завод, Сьвіслач. Брыгадай у гэтых прамысловых раёнах праведзена падрыхтоўчая работа па закліку рабочых-ударнікаў у літаратуру.

— Галоўмастацтва НКА БССР, ЦСПСБ, ДВБ і Драмтаварыства абвясьцілі конкурс-спаборніцтва паміж пісьменьнікамі, драматургамі і кампазытарамі на стварэньне твораў розных жанраў, прысьвечаных XV гадавіне Кастрычнікавай рэвалюцыі.

У конкурсе-спаборніцтве запрашаюцца прыняць удзел усе пісьменьнікі ўдарнікі, закліканыя ў літаратуру, драматургі і кампазытары.

Конкурс-спаборніцтва абвяшчаецца па наступных жанрах мастацтва: раманы, аповесьці, апавяданьні, нарысы, паэмы, вершы, п'есы, опэры, кіно-сцэнары, масавыя песьні, сымфоніі, квартэты і інш.

Творы на конкурс павінны быць прадстаўлены не пазьней 1 ліпня і 1 жніўня (творы самадзейнага тэатру) у Галоўмастацтва НКА БССР—камісію па конкурсу-спаборніцтву да XV гадавіны кастрычніцкай рэвалюцыі.

На конкурсе-спаборніцтва вызначана 16 прэмій, ад 200—1500 руб. прэмія.

— БелАПП да XV гадавіны Кастрычніцкай рэволюцыі выдае анталёгію беларускай пралетарскай літаратуры. Анталёгія павінна будзе адлюстроўваць сабой змаганьне рабочае клясы і працоўнага сялянства БССР за ідэі сацыялізму пасьля кастрычніка.

— БелАПП распачаў працу па збору творчасьці рабочых-ударнікаў, закліканых у літаратуру, на БССР. Творчасьць рабочых-ударнікаў БССР будзе выдана ў адным зборніку да 1 ліпня 1932 г.

— 22 сакавіка ў Гаркоме ЛКСМБ адбылася шырокая нарада культпропаў ячэек г. Менску, кіраўнікоў і старшынь літгурткоў па пытаньню творчага агляду камсамольскай літаратуры і далейшаму разгортваньню заклiку рабочых-ударнікаў у літаратуру на аснове правядзеньня гэтага агляду. З дакладам пра агляд маладзежнай літаратуры на нарадзе выступіў т. Мікуліч. Нарада выпрацавала дакумант па практычным правядзеньні агляду маладзежнай літаратуры.

— У МенАПП шырока разгарнулася творчая дыскусія. Ужо адбылося сем творчых вечароў-дыскусій. Дыскусія распачалася дакладам адказнага сакратара БелАПП т. Лынькова пра ліст тав. Сталіна і задачы беларускай пралетарскай літаратуры. Дыскусія разгортваецца пад знакам бальшавіцкай крытыкі і самакрытыкі, за аўладеньне марксысцка-ленінскім сьветапоглядам. За гэты час разгледжана творчасьць Платона Галавача і мастацкая прадукцыя часопісі „Маладняк" за 1931 г.

— 30 сакавіка ў Д. Пісьменьніка адбылася інтэрнацыянальная пераклічка рабочых-ударнікаў, закліканых у літаратуру, г. Менску. З дакладам пра новы этап работы з ударнікамі і пра далейшы заклік рабочых-ударнікаў выступіў т. Аляхновіч. На зьлёце паміж рабочымі літгурткамі і кіраўнікамі гурткоў былі заключаны сацумовы па далейшаму разгортваньню ў літгуртках творчага агляду маладзежнай літаратуры, па паказу ўдарнікаў вытворчасьці і іншае.

— 31 сакавіка ў Д. Пісьменьніка адбыўся вечар яўрэйскай пралетарскай літаратуры, прысьвечаны сустрэчы яўрэйскага пралетарскага пісьменьніка т. Сіто, які прыехаў з Украіны.

— МенАПП прыступіла да выданьня другога зборніка творчасьці рабочых-ударнікаў, закліканых у літаратуру. Зборнік выйдзе ў маі м-цы 1932 г.

— Першы беларускі тэатр падрыхтоўвае да пастаноўкі п'есу ўкраінскага пісьменьніка Г. Гурчана „Пляцдарма" на тэму аб клясавым змаганьні ва ўмовах капіталістычнай Польшчы.

— Другі беларускі тэатр приступіў да працы над п'есай М. Ільінскага „Вясна". Тэма п'есы—праблема серадняка ў калгасе. Першую пастаноўку тэатр мяркуе прыстасаваць да веснавой пасеўнай кампаніі. Таксама рыхтуецца да пастаноўкі

ў 1932 г. п'еса Якуба Коласа „Вайна да пабеднага канца", на тэму—ператварэньне імпэрыялістычнай вайны ў вайну грамадзянскую і п'еса В. Сташэўскага „Амэрыка", якая адлюстроўвае клясавае змаганьне ў Амэрыцы, на фоне эканамічнага крызісу.

— Таварыства „Мастак" арганізоўвае майстэрні скульптуры і дзіцячых забаў, каб даць магчымасьць прасоўваць у масы мастацкія творы для афармленьня быту рабочага і калгасьніка.

— Ранейшы вандроўны тэатр пад кіраўніцтвам народнага артыста рэспублікі т. Галубка ператвораны у трэці беларускі дзяржаўны тэатр.

— Канчаткова вырашана пытаньне ў СНК аб пабудове ў г. Віцебску кінофабрыкі. Пабудова пачнецца ў 1932 г. і будзе канчаткова закончана ў 1933 г.

— Вышлі з друку другім выданьнем апавяданьні М. Лынькова „Андрэй Лятун" і аповесьць „Апошні зьверыядавец".

— Вышла з друку асобнай кніжкай аповесьць П. Броўкі „Каландары".

— Друкуецца асобнай кніжкай новая аповесьць Сымона Баранавых „Два канцы".

— Рыхтуецца да друку зборнік творчасьці БелЛАЧАФ.

— У красавіку м-цы адбудзецца канфэрэнцыя БелЛАЧАФ.

РЭДКАЛЕГІЯ: С. БАРАНАВЫХ, Іл. БАРАШКА, Н. МІХАЙЛАЎ

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР: Н. МІХАЙЛАЎ.

Друкарня Беларускае Акадэміі Навук — Менск. Няміга, 7.

Заказ № 3892. Галоўлітбел № 350. Тыраж 1300 экз. 6¼ арк.

# Зьмест